


## Асаблівасьць 1937 году.

Год 1937 ёсьць годам звычайным, мае 365 дзён, або 52 тыдні і 1 дзень.

## Як хто лічыць час.

У нас прынята лічыць гады паводле хрысьціянскай эры, г. зн. ад Нараджэньня Хрыста. У Грэцыі-ж Царква лічыць гады ад стварэньня сьвету паводле эры бізантыйскай, г. зн. ад 5508 г. перад Нараджэньнем Хрыста, так што паводле гэтага лічэньня сёлетні год будзе 7445 — 7446. (Год пачынаецца 1.IX).

Жыды лічаць гады паводле жыдоўскай эры так-жа ад стварэньня сьвету, якое па іхняму вылічэньню было за 3761 год да Нараджэньня Хрыста. У сёлетнім годзе яны пачынаюць свой 5697 – 5698 г. (год пачынаецца ўвосень).

Магамэтане (татары) лічаць гады паводле магамэтанскай эры, г. зн. ад часу падарожы Магамэта з Мэккі ў Мэдыну, якая была ў 622 г. па Нараджэньні Хрыста. Наш 1937 год у іх будзе 1355—1356 годам. (Год пачынаецца ў сакавіку).

## Поры году.

У 1937 г. пачатак астранамічных пораў году прыпадае: вясны — 21 сакавіка а 1 й г., лета—22 чэрвеня а 20-й г., восені — 24 верасьня а 11-й г., зімы — 23 сьнежня а 6-й г.

Даўжыня пораў году:

вясны — 93 дні, лета — 94 дні, восені 90 дзён, зімы — 88 дзён.

Мэтэаролёгічна—звычайна вясну лічаць ад 1 сакавіка, лета — ад 1 чэрвеня, восень — ад 1 верасьня, а зіму — ад 1 сьнежня.

## Зацьменьні ў 1937 г.

У 1937 г. у нас будуць відаць 2 зацьменьні:

18 лістапада — частковае зацьменьне месяца, каторае будзе трываць 1 г. 24 мінуты, і 2 сьнежня – частковае зацьменьне сонца; сярэдзіна зацьменьня прыпадзе раніцаю.

Найстарэйшая гістарычная вестка аб сонечных зацьменьнях знаходзіцца ў кітайскіх хроніках і датуецца 2137 годам да Нар. Хр.

І-е зацьменьне сонца, прадсказанае чалавекам, было 28 траўня 584 г. да Нар. Хр. Прадсказаў яго грэцкі філёзаф — Фалес Мілецкі.

Апрача зацьменьняў, будзе яшчэ адно зьявішча, гэта— праход плянэты Мэркурага па сонечным кругу, 9 траўня. Убачыць яго можна будзе толькі пры помачы тэлескопаў.

## Камэты ў 1937 г.

З ведамых астраноміі пэрыёдычных камэтаў у 1937 г. паміж сонцам і зямлёю пройдуць:

у студзені камэта д'Арэста, адкрытая ў 1851 г.
У красавіку камэта Тампля-Свіфта, адкрытая ў 1869 г.
У маі камэта Грыгск'елерупа, адкрытая ў 1902 г.

## Раі падаючых зораў у 1937 г.

Некаторымі вечарамі можна заўважыць, як з азначанага пункту неба падаюць зоры ў пастаці раёў. Такіх раёў ведама нешта каля 300, але найважнейшымі будуць наступныя:

1—4 студня рой падаючых зораў квадрантыдаў.
19—22 красавіка падаюць зоры Лірыды.
6 траўня пад. зоры Акварыды.
27—30 чэрвеня падаюць зоры Драконіды.
11—12 жніўня падаюць зоры Пэрсэіды.
18—23 кастрычніка падаюць зоры Орыёніды.
12—17 лістапада падаюць зоры Леоніды.
22—26 лістапада раі падаючых зораў Андромэдаіды.

## Даўжыня дня і ночы ў 1937 г.

У 1937 г. найдаўжэйшы дзень і найкарацейшая ноч прыпадае ў дню 22 чэрвеня, а найкарацейшы дзень і найдаўжэйшая ноч — 23 сьнежня.

Астранамічная ноч пачынаецца тады, калі сонца знаходзіцца на 18° пад гарызонтам дадзенай мясцовасьці. Прыймаючы гэта пад увагу, дык больш-менш ад 20 мая аж да 25 жніўня на Віленшчыне і часткава ў Наваградчыне астранамічных ночаў зусім няма, а заміж іх выступае зьявішча г. зв. „белых ночаў."

## Прадсказаньні на 1937 г. паводле астралёгіі.

**Прадсказаньні агульныя.** Пануючай плянэтай у 1937 г. ёсьць Сатурн — плянэта мужная і халодная. Калі яна па-

нуе над годам, дык людзям трэба высьцерагацца, бо ў годзе Сатурна здараецца голад, паморак, сьцюжа, хваробы і войны.

Год — халодны і сыры, хоць часамі будзе й суха, але большаю часткаю будуць дажджы.

Людзі, што родзяцца ў годзе Сатурна, бываюць хітрымі, скупымі, нелюдкамі, злопомнымі, але працавітымі.

**Прадсказаньні частковыя.** *Вясна* — зусім сухая і вельмі халодная да траўня; удзень пагода харошая, а ўночы холад. Дрэвы распускаюцца позна, позна паяўляецца трава і кветкі. *Лета* — халоднае, дажджлівае і неўраджайнае. Аднак-жа больш палавіны ліпня горача і ясна, але потым будуць частыя навальніцы. *Восень* — вельмі халодная й сырая. Рана прыходзяць прымаразкі. У другой палавіне кастрычніка пачынаюцца вялікія халады; у лістападзе — вільготна й цёпла. *Зіма* — доўгая, з лютымі маразамі й вялікімі сьнягамі.

**Прадсказаньні гаспадарчыя.** Хлеб будзе дарагі, астануцца з барышом толькі тыя, хто захаваў яго ў запасах да зімы, бо летам дажджы перашкодзяць яго сабраць. Дрэнная пагода ўвосень ня дасьць дасьпець пладом і вінаграду. У канцы студня вялікая адліга, вынікам чаго ў шмат-якіх мясцовасьцях будзе паводка, каторая наробіць шмат шкоды.

## Астраномія аб плянэце Сатурне.

Сатурн у сонечнай сыстэме другая плянэта, большая за зямлю. Сярэдняя адлегласьць ад сонца 9,5 адлегласьцяў Зямлі. Папярэчнік Сатурна — 110 тыс. клм., абыймо — у 710 разоў большае ад абыйма зямлі, маса — у 95 разоў большая ад масы Зямлі. Гушчыня Сатурна — 0,73 гушчыні вады; вынікае з гэтага, што плянэта ня мае сталай кары, як Зямля, а складзена з пароў і газаў. Плянэта Сатурн робіць поўны абарот наўкол сваей восі ў 10 гадзін і 14 мін., а наўкол сонца—у працягу 10.759 дзён, ці 29,5 гадоў. Экватар Сатурна нахілены да плошчы яго дарогі навакол сонца пад кутом 27°— з гэтага вынікае, што ён мае 4 „поры году," якія цягнуцца больш, як па 7 земскіх гадоў. Але таму, што дзеяньне сонца на Сатурне ёсьць у 90 разоў слабейшае, чым на Зямлі, дык ягоныя „поры году“ ня могуць розьніцца паміж сабою.

Вельмі цікавым і адзіным у сваім родзе зьявішчам на Сатурне ёсьць персьцень, які ахоплівае плянэту роўналегла да ягонага экватару. Персьцень гэты складаецца з трох пасаў, аддзеленых невялікімі пярорвамі, і зложаны з мноства дробных целаў, каторыя кружацца навакол Сатурна справа налева. Так-жа кружацца справа налева і месяцы Сатурна, каторых ён мае аж 10.

## Праваслаўныя пераходныя сьвяты.

Нядзеля аб мытару і фарызэю 8 лютага (21 лютага н. ст.). Нядзеля Сырапусная або Загавіны на Вял. Пост 1 сакавіка (14 сакавіка н. ст.). Вербніца 12 красавіка (25 красавіка н. ст.). Вялікдзень 19 красавіка (2 мая н. ст.). Ушэсьце Гасподне 28 мая (10 чэрвеня н. ст.). Дзень Сьв. Тройцы (Сёмуха) 7 чэрвеня (20 чэрвеня н. ст.). Дзень сьв. Духа 8 чэрвеня (21 чэрвеня н. ст.). Нядзеля Ўсіх Сьвятых і Загав. на Пятроўку 14 чэрвеня (27 чэрвеня н. ст.).

## Праваслаўныя пасты, мясаеды і ўсяедныя.

Калядніца (працяг усеяднай) ад 1 да 4 студня (ад 14 да 17 студня н. ст.). Сачэльнік перад Вадохрышчам 5 студня (18 студня н. ст.). Усяедная перад Вялікім Постам ад 8 лютага да 14 лютага (ад 21 лютага да 27 лютага н. ст.). Мясапусная або Масьленіца ад 22 лютага да 1 сакавіка (ад 7 да 14 сакавіка н. ст.). Загавіны на Вял. Пост 1 сакавіка (14 сакавіка н. ст.). Вялікодная ўсяедная ад 19 да 25 красавіка (ад 2 да 8 мая н. ст.). Прэпалавеньне Сёмухі 13 мая (26 мая н. ст.). Троіцкая ўсяедная ад 7 да 13 чэрвеня (ад 20 да 26 чэрвеня н. ст.). Загавіны на Пятроўку 14 чэрвеня (27 чэрвеня н. ст.). Пачатак Спасаўкі 1 жніўня (14 жніўня н. ст.). Сьцяцьце галавы Івана Хрысьціцеля 29 жніўня (11 верасьня н. ст.). Узьвіжаньне Крыжа 14 верасьня (27 верасьня н. ст.). Пачатак Піліпаўкі 15 лістапада (28 лістапада н. ст.). Сачэльнік перад Калядамі 24 сьнежня (6 студня н. ст.). Пачатак Калядніцы (ўсяеднай) 25 сьнежня (7 студня н. ст.).

Пасты абавязваюць у серады і пятніцы цэлага году апрача г. зв. Усяедных тыдняў (аднак на Масьленіцу ўсераду і пятніцу можна спажываць толькі малочную яду). У Праваслаўнай Царкве звальненьня ад посту няма.

## Памінальныя дні ў праваслаўных.

Радзіцельская субота перад Вял. Постам 14 лютага (27 лютага н. ст.). І-я памінальная субота Вялікага Посту 14 сакавіка (27 сакавіка н. ст.). 2-а памінальная субота Вялікага Посту 21 сакавіка (3 красавіка н. ст.). 3-я памінальная субота Вялікага Посту 28 сакавіка (10 красавіка н. ст.). Радаўніца 27 красавіка (10 мая н. ст.). Троіцкая радзіцельская субота 30 мая (12 чэрвеня н. ст.). Зьмітраўская радзіцельская субота 21 кастрычніка (3 лістапада н. ст.).

## Дні, калі Праваслаўная Царква не дае шлюбоў.

У працягу ўсяго году — наконадні серадаў і пятніцаў, а так-жа наконадні нядзеляў і сьвятаў. У працягу Вялікага

Посту і Вялікадняга тыдня. У часе Пятроўкі і Спасаўкі. Наконадні і ў дні Сьцяцьця Галавы Івана Хрысьціцеля і Узьвіжаньня. У часе Пілінаўкі.

---

## Pierachodnyja katalickija śviaty ŭ 1937 h.

Niadziela Starazapusnaja 24 studnia. Papielec 10 lutaha. Vierbnica 21 sakavika. Vialikdzień 28 sakavika. Ušeście 6 maja. Siomucha 16 maja. Božaje Cieła 27 maja. Najśv. Serca Jezusa 4 červienia. Chrystusa Vaładara 31 kastryčnika. I-ja niadziela Adventu 28 listapada.

Miasajed tryvaje ad Troch Karaloŭ až da Papielca. Najkaraciejšy moža być 28 dzion (apošni raz byŭ u 1818 h., nastupny raz budzie až pa 2000 hodzie); najdaŭžejšy 63 dni (budzie ŭ 3784 hodzie).

U sioletnim hodzie miasajed tryvaje 35 dzion.

Vialikdzień moža być najraniej 22 sakavika, najpaźniej 25 krasavika.

## Suchija i kryžovyja dni i vialei ŭ 1937 h.

Suchija dni prypadajuć u sierady, piatnicy i suboty: I-ja — pa pieršaj niadzieli Vialikaha Postu, II-ja — pa Siomusie, III-ja — pa Ŭźvižańni Kryža i IV-ja — pa 3-j niadzieli Adventu.

Kryžovyja dni prypadajuć u paniadziełak, aŭtorak i sieradu pierad samym Ušeściem.

Vialei prypadajuć: pierad Siomuchaju, pierad Uniebaŭziaćciem N. D. Maryi, pierad Usimi Śviatymi i pierad Kaladami.

## Zabaronieny čas.

Viasielli i jhryščy zabaronieny: 1) Ad I-aj niadzieli Adventu da Kalad uklučna i 2) Ad Papialcovaj sierady da Vialikadnia ŭklučna.

## Pasty ŭ katalikoŭ.

Na Papielec, u piatnicy i suboty Vialikaha Postu, u suchija dni i vialei abaviazyvaje ścisły post i ŭździaržańnie ad miasnoje jady (u Vialikuju Subotu ad 12 h. dnia niama ŭžo postu). Uva ŭsie inšyja dni Vialikaha Postu, apračа niadzielaŭ, abaviazvaje tolki ścisły post — u hetyja dni možna jeści raz na dzień usialakuju miasnuju jadu. A tyja, što volnyja, abo zvolnienyja ad ścisłaha postu, mohuć pasilacca miasnoju jadoju bolš adnaho razu ŭdzień.

Uva ŭsie piatnicy ŭsiaho hodu (apračа vyšmienavanych) abaviazvaje tolki ŭździaržańnie ad miasnoje jady.

Za miasnuju jadu ŭvažajecca tolki miasa j miasnyja vyraby, prykładam kaŭbasa, a tak-ža miasny rasoł (navar). Usiakija prypravy (zataŭki, zakrasy) da jady, choć-by pachodzili ad źviaryny, i nia tolki małako, masła, jajki, ale i sała, sałanina, łoj i inš. mohuć užyvacca ŭva ŭsie posnyja dni ŭsiaho hodu.

U vialikija śviatki pa-za Vialikim Postam, h. zn. u takija, u katoryja jość pavinnaść pad ciažkim hrachom być na Imšy, niama postu i ŭździaržańnia ad miasnoj jady.

Vialei volnyja ad postu, kali prypadajuć na niadzielu abo na inšaje jakoje śviata z abaviazkam słuchańnia Imšy. Postu hetkaha nie pieranosiać ani na subotu ani na inšy dzień pierad śviatam — u takija vialei postu niama zusim.

## Беларускае нацыянальнае сьвята

штогод прыпадае на дзень 25 сакавіка, як дзень угодкаў Акту Абвешчаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году ў Менску.

## Польскія нацыянальныя ўрачыстасьці.

Канстытуцыя 3 мая. Сьвята лесу (у вапошнюю нядзелю красавіка). Дзень коопэрацыі (1-я нядзеля м-ца чэрвеня). Дзень маткі (у вапошнюю нядзелю мая). Сьвята мора (29 чэрвеня). Сьвята паліцыі (10 лістапада). Сьвята лятуноў (11 лістапада). Сьвята незалежнасьці (11 лістапада).

## Міжнародныя сьвяты.

Сьвята Работнікаў або дзень Працы — 1 мая. Дзень Коопэрацыі — у першую суботу м-ца ліпня. Дзень Ашчаднасьці — 31 кастрычніка.



# *На Новы Год!*

*Часы ідуць! — і думы з імі, —*
*У свой нясканчаны паход.*
*І словы просяцца у рымы —*
*Ізноў вітаюць Новы Год.*

*У бядзе... ў клапотах, паўгалодны,*
*Я замыкаю год стары*
*І знаю, што ў Краіне роднай*
*Ня толькі я адзін такі.*

*Але я моцна, моцна веру*
*У цябе Народ, што ты — жывы;*
*Ня Новы Год адчыніць дзъверы,*
*А сам ты, — новае пары.*

*І мо' таксама ў паняверцы*
*Прайдзе і гэты Новы Год?*
*Але на год бліжэй, паверце,*
*Да мэты будзе наш народ!*

М. МАШАРА.



Январь 1937 | **СТУДЗЕНЬ – STUDZIEŃ** 31 dzień | Styczeń 1937

| Дні | Ст.ст. | Праваслаўны календар | N. tyl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| | | СЬНЕЖАНЬ 1936 г. | | |
| П | 19 | Баніхвата | 1 | **Novy Hod.** Abraz. P. **Jez.** |
| С | 20 | Ігната Баганошы | 2 | Makara op. Martynijana b. |
| Н | 21 | **М. Вуляны** | 3 | Imieńnia Jezusa |
| П | 22 | Настасі | 4 | Tyta b. m. Ryhoberta b.v. |
| А | 23 | 10-х муч. Крыцкіх | 5 | Telesfara pap. m. |
| С | 24 | *Сачэльнік. Аўгені* | 6 | **Try Karali** |
| Ч | 25 | **Нараджэньне Г. Ісуса Хр.** | 7 | Łucyjana m. i Juljany. |
| П | 26 | **Сабор П. Багародзіцы** | 8 | Severyna op. |
| С | 27 | Сьцяпана | 9 | Marcyjany p. m. |
| Н | 28 | **20000 муч. у Нікамэдыі** | 10 | św. Siamji. Jana Dobr. |
| П | 29 | 14000 муч. нялетак | 11 | Hygina pap. |
| А | 30 | Анісі. Зотыка | 12 | Arkadzia. Ernesta |
| С | 31 | Пам. сьв. Богаайцоў | 13 | Lavoncia. 40 žaŭnier. m. |
| | | СТУДЗЕНЬ 1937 г. | | |
| Ч | 1 | **Новы Год. Абраз. Гасп.** | 14 | Hilaraha |
| П | 2 | Сыльвэстры п. Р. | 15 | Paŭly, I-ha Pustyńnika |
| С | 3 | Малахіі. М. Гардзея. | 16 | Marcelaha pap. m. |
| Н | 4 | **Сабор 70-х Апосталаў** | 17 | Antoniaha |
| П | 5 | Феапемта й Феоны | 18 | Katedry św. Piotry ŭ Rym. |
| А | 6 | **Богазьяўл. Вадохрышча.** | 19 | Henryka b. Marjuša m. |
| С | 7 | *Сабор сьв. Івана Хрысьц.* | 20 | Fabjana pap. m. |
| Ч | 8 | Юр'я Хозэвіта | 21 | Jahniešy p. m. |
| П | 9 | Поліевкта | 22 | Vincentaha j Anastaz. m. |
| С | 10 | Юр'я, яп. Ніскага | 23 | *Zašlubiny N. D. M.* |
| Н | 11 | **Хвядоса Вялікага** | 24 | Starazap. Cimachvieja |
| П | 12 | Тацяны | 25 | *Navarot św. Paŭły ap.* |
| А | 13 | Ярмілы й Стратоніка | 26 | Palikarpy b. m. |
| С | 14 | Айцоў у Сынаю й Раіфе | 27 | Jana Załatavusn. |
| Ч | 15 | Паўлы фів. | 28 | Flanjana m. Valeraha b. |
| П | 16 | Пакл. астан. ап. Пётры | 29 | Franciša Salezaha |
| С | 17 | Антона Вялікага | 30 | Martyny p. m. |
| Н | 18 | **Апанаса Вял. і Кірылы** | 31 | **Miasapusn. Piotry z N.** |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 5 | — | 7.41 | 15 07 |
| 12 | — | 7.37 | 15.17 |
| 18 | — | 7.31 | 15.28 |
| 26 | — | 7.20 | 15 44 |

*Зьмены месяца*

| Дні | | | |
|---|---|---|---|
| 5 | ☾ Сход | а гадз. | 5. |
| 12 | ● Вятох | „ „ | 9. |
| 18 | ☽ Маладзік | „ | 18. |
| 26 | ○ Поўня | „ | 21. |

За студзень прыбыло дня 1 гадз. 22 мін.

## Гістарычны календар на м-ц студзень.

1.1919. I-е абвешчаньне незалежнасьці Сацыялістычнай Радавай Беларускай Рэспублікі.

1.1919. Заснаваньне I-й беларускай гімназіі ў Вільні.

7.1634. Сьмерць Мялеція Сматрыцкага, выдатнейшага прадстаўніка беларускай полемічнай літаратуры (праваслаўна-уніяцкай).

11.1386. Ваўкавыскі акт сьцьвярджае выбар Ягайлы на польскага караля.

14.1894. Сьмерць беларускага народавольца Адама Гурыновіча.

14-15.1926. Ліквідацыя Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

15.1401. Віленская вунія — прызнаньне Вітаўта дажывотнім Вялікім Князем Літоўскім.

17.1921. Сьмерць паэты Андрэя Зязюлі.

21.1525. Каралеўскі і Соймавы Статут аб вайсковай павіннасьці.

25.1918. Адчыненьне Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні.

26.1564 Перамога Мікалая Радзівіла Рудога над масскоўцамі пад Улою.

28.1897. I-ы ўсенародны перапіс у Расеі.

30.1667. Андрусаўскі мір — Масква зракаецца Полацку і Віцебску.

## Беларускі народны календар.

Студзень — пачатак году, а зіме сярэдзіна.
Студзень хаты студзіць, рана гаспадыняў будзіць.
Студзень мяце — ліпень залье.
У студні маразы – на полі ўраджай.
Калі ў студні дажджы, дык дабра ня жджы.
1 студня сьнег — 1-га ліпня дождж.

1. Новы Год пагодны, збор будзе дагодны. На Новы Рок прыбудзе дня на зайчын скок.

6. На Вадохрышча вельмі сьцюдзена — у жніво вельмі горача. На Вадохрышча дзень цёплы—будзе хлеб цёмны.

## Зьмены надвор'я ў м-цы студні 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1 — суха. 4 — вецер. 7 — вецер з дажджом. 12 — сьнег. 13 — пахмурна і холад. 14 — сьнег. 16—19—вецер. 20 — сьцюдзена. 27 — сьнег і мароз.

28 dzion

| Дні | Ст. ст | Праваслаўны календар | N.styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| П | 19 | Макара Эгіпецкага | 1 | Ihnataha B. m. Bryhidy |
| А | 20 | Яўхіма Вялікага | 2 | **M. B. Hramničnaj.** |
| С | 21 | Максіма Спавядніка | 3 | Błažeja b. m. |
| Ч | 22 | Цімахвея | 4 | Andreja Kors. b. |
| П | 23 | Кліманта й Агаф. | 5 | Ahaty p. m. |
| С | 24 | Ксені. П. м. Вавілы | 6 | Tyta b. Daroty p. m. |
| Н | 25 | **С. Рыгора Багаслова** | 7 | **Zapusnaja.** Ramualda |
| П | 26 | П. Ксенахонта й Марыі | 8 | Jana z Maty |
| А | 27 | Пераняс.мошчаў Ів. Зал. | 9 | Kiryły b.d.R. Apoloni p.m. |
| С | 28 | П. Ахрэма Сырына | 10 | *Papielac.* Scholastyki p. |
| Ч | 29 | Перан. мошч. Ігн. Баган. | 11 | *M. B. z Lurdu* |
| П | 30 | *Трох сьвятых* | 12 | 7 zakładčykaŭ Servitaŭ |
| С | 31 | С. Кіра й Івана Бязсрэб. | 13 | Ryhora II pap. |
| | | ЛЮТЫ | | |
| Н | 1 | **Трыхона** | 14 | **Ustupnaja. Valentaha** |
| П | 2 | **Срэценьне Гасподн.** | 15 | Faŭstyna i Jovity |
| А | 3 | **Сямёны й Ганны прар.** | 16 | Juljany. Juljana |
| С | 4 | Сідара Пэлузіёта | 17 | *Suchi d.* Danata |
| Ч | 5 | Агаты | 18 | Symona |
| П | 6 | Вукола. Юльяна | 19 | *Suchi d.* Kanrada |
| С | 7 | Парахвена й Лукі | 20 | *Suchi d.* Lavona |
| Н | 8 | **Аб Мытару й фарысэю** | 21 | Suchaja. Feliksa |
| П | 9 | **Нікіпара. Маркела** | 22 | *Katedry ś. Piotry ŭ* **Ant.** |
| А | 10 | **Харлампа і ўсіх з ім** | 23 | Piotry Damjana |
| С | 11 | **Уласа. Зьмітры** | 24 | Macieja ap. |
| Ч | 12 | Мялецція. **Аляксея** | 25 | Cezaraha i Zygfryda |
| П | 13 | Мартаніяна. Яўлога | 26 | Viktara m. |
| С | 14 | Кірылы, слав. Ап. | 27 | Alaksandra m. i Nastasi |
| Н | 15 | **Аб Блудным сыну** | 28 | Hłuchaja. **Tachvila** m. |

| Сонца | | | Зьмены месяца | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дні | Усх. | Зах. | Дні | | | |
| 3 — | 7.06 | 15.59 | 3 | © Сход а | гадз. | 18 |
| 10 — | 6.54 | 16.14 | 10 | ● Вятох „ | „ | 11 |
| 17 — | 6.39 | 16.28 | 17 | ☽ Мал. „ | „ | 10 |
| 25 — | 6.21 | 16.45 | 25 | ○ Поўн. „ | „ | 16 |

За люты прыбыло дня 1 г. 51 м.

## Гістарычны календар на м-ц люты.

1.1588. Прывілей Жыгімонта III аб трыбунальскіх судох у В. К. Літоўскім.

1.1661. Бунт жыхароў г. Магілева праціў маскоўскіх войск.

5.1916. Сьмерць поэткі Цёткі.

12.1910. І-шы беларускі спэктакль у Вільні.

15.1386. Хрышчэньне Ягайлы.

15.1563. Заваяваньне Масквой Полацку.

19.1861. Скасаваньне прыгону.

20.1803. Рэскрыпт Аляксандра I аб вольных хлебаробах.

21.1918. І-ая Устаўная Грамата Вык. К-ту Рады Ўсебеларускага Зьезду.

27.1919. Літва і Беларусь злучаны ў Літоўска-Беларускую Радавую Сацыялістычную Рэспубліку.

29.1468. Статут Казімера Ягайлавіча.

---

## Народны календар.

Пытаецца люты, ці добра абуты. У лютым востры мароз — кароткая зіма.

1. (С. с.). На Трыфана зорна — вясна позная.

2. Грамніца — хлебу палавіца, а корму траціна. На Грамніцы адліга — з ураджаю будзе фіга. На Срэценьне зіма з летам сустракаецца.

5. Соль сьв. Агаты бароніць ад агня хаты.

6. Па Дароце высахнуць хусты на плоце.

11. (С. с.). Сьв. Улас—апякун жывёлы. Уласаў дзень—каровінае сьвята. Каля Уласа сем маразоў: тры да Ўласа, адзін на Ўласа і тры па Ўласе.

14. (С. с.). Фаціньня — заступніца ад трасцы.

22. Калі на Пятра цёпла — зіма працягнецца да Вялікадня.

24. (С.с.). Янавай галавы баіцца зіма.

24. На Мацея дарога пацее.

---

## Зьмены надвор'я ў м-цы лютым 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1 — сільны мароз. 4 — вецер. 7 — сыра. 12 — пахмурна. 16 і 17 — зьменнае надвор'е. 18 — вецер. 23—пахмурна і сьцюдзена. 25-27 — вецер і дождж.

| Дні | Ст. Ст. | Праваслаўны календар | N.styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| П | 16 | Памфіла і ўсіх з ім | 1 | Albina i Antaniny |
| А | 17 | Тодара Тырона | 2 | Alony ŭd. Paŭły m. |
| С | 18 | Лева Вялікага | 3 | Kunehundy ces. ŭd. |
| Ч | 19 | Архіпа й Хілімона | 4 | *Kazimiera karal.* |
| П | 20 | Лева, яп. Катанскага | 5 | Eŭzebija i Jana ad Kryža |
| С | 21 | Цімахвея. Аўстаха. | 6 | Perpetui i Felicyty m.m. |
| **Н** | 22 | **Мясапусная. Знаход м.** | 7 | **Siarodp. Tamaša z Akv.** |
| П | 23 | Палікарпа | 8 | Jana Božaha |
| А | 24 | I i II знах. гал. Ів. Хр. | 9 | Pranciŝy Rymlanki ŭd. |
| С | 25 | Тараса | 10 | 40 mučanikaŭ. Viktara |
| Ч | 26 | Парфіра. Савасьцяна | 11 | Kanstanc. i Pałahiei |
| П | 27 | Пракопа Дзекаполіта | 12 | Ryhora Vial. pap. d. R. |
| С | 28 | Базыля Спавядніка | 13 | Krystyny i Nikipara |
| | | САКАВІК | | |
| **Н** | 1 | **Сырапусная. Загавіны** | 14 | **čornaja. Matyldy** |
| П | 2 | Хвядота. Арсеня | 15 | Klemensa Hofbaŭera |
| А | 3 | Еўтропа й дружыны яго | 16 | Cyryjaka m. |
| С | 4 | Гарасіма Ерданскага | 17 | Patrycyja b. i Hiertrudy |
| Ч | 5 | Конана Ісаўрыйскага | 18 | Cyryla Jeruzal. |
| П | 6 | 42 м. з Аморэі. | 19 | *Jazepa, Zaručnika N.D.M.* |
| С | 7 | Базыля й Аўгеня | 20 | Jaŭchim, m. |
| **Н** | 8 | **Праваслаўная. I-ая В. П.** | 21 | **Vierbnica. Benedykta** |
| П | 9 | 40 муч. з Сэбасьці | 22 | Kaciaryny i Bazyla m. |
| А | 10 | Кандрата й друж. яго | 23 | Feliksa m. |
| С | 11 | Сапрона. Яўхіма | 24 | Habryjela Arch. |
| Ч | 12 | Феафана. Рыгора п. Р. | 25 | Dabravieščańnie N.Dz.M. |
| П | 13 | Перан. мошч. Нікіпара | 26 | *M. B. Balesn.* Emanuela |
| С | 14 | Бэнэдыкта | 27 | Jana Damascen. |
| **Н** | 15 | **II-ая Вя[illegible] Посту. Агапа** | 28 | **Vialikdzień. Jana Kap.** |
| П | 16 | **Савіна. Аляксандра** | 29 | **2-hi d. Vialikd. Eŭstaza** |
| [illegible] | 1[illegible] | **Аляксе[illegible], Чал. Божага** | 30 | Jana Klimaka i Kv[illegible]ryna |
| [illegible] | **18** | [illegible] **рахім[illegible]** | 31 | Balbiny i Karneli |

| *Сонца* | | | *Зьмены месяца* | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дні | Усх. | Зах. | Дні | | | |
| 5 — | 6.02 | 16.01 | 5 | ☾ Сход | а гадз. | 5 |
| 11 — | 5.48 | 17.13 | 11 | ● Вятох | „ | 21 |
| 19 — | 5.27 | 17.29 | 19 | ☽ Маладзік | „ | 5 |
| 27 — | 5.06 | 17.44 | 27 | ○ Поўня | „ | 8 |

За сакавік прыбыло дня 2 г. 14 м.

## Гістарычны календар на м-ц сакавік.

2.1881. Сьмерць Ігната Грынявіцкага—бел. народніка.

3.1067. Бітва на р. Нямізе Усяслава Полацкага з Яраславічамі і палон Усяслава.

3.1917. Пачатак Вялікай Расейскай Рэвалюцыі.

4.1918. Берасьцейскі мір бальшавікоў з цэнтральнымі дзяржавамі.

8.1928. Сьмерць Пётры Крэчэўскага — апошняга старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

9.1918. II-я Устаўная Грамата Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Зьезду.

10.1864. Павешаньне рэвалюцыянэра Каст. Каліноўскага.

15.1923. Парыская канфэрэнцыя паслоў прызнае Віленшчыну за Польшчай.

18.1921. Рыскі трактат Польшчы з Расеяй і падзел Беларусі.

20.1440. Замах Івана Чартарыскага і забойства Жыгімонта.

25.1503. Гомель і Ноўгарад-Северскі адходзяць да Масквы.

25.1918. Абвешчаньне Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

## Беларускі народны календар.

У марцы, як у гарцы. Далёка марац корму пытае, хто летам яго ня прыдбае. Сакавік зялёны — ураджай благі.

1 (с. с.). Сьв. Аксіньня ў руцэ лета трымае. Аўдоцьця пагодна — усё лета прыгодна.

4. На Казімера зіма ўмірае.

9 (с. с.). На 40 муч. з выраю прылятае 40 жаўранкаў. 40 мучанікаў — 40 маразоў.

10. На сьв. Прыска праб'е лёд і пліска.

12. На сьв. Рыгора йдуць рэкі ў мора.

17 (с. с.). Сьв. Ляксей сохі чэша.

19. На Язэпа пагода — год ураджайны.

25. На Дабравешчаньне Бог блаславуляе ўсе расьліны. На Дабравешчаньне і птушка гнязда не кладзе. Дабравешчаньне як захоча, дык і бусел заклякоча. У каго хлеба шмат — і Дабравешчаньню рад. Сьв. Дабравешчаньне заворвае.

27 (с. с.). На Матрону шчупак хвастом лёд прабівае.

## Зьмены надвор'я ў м-цы сакавіку 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1 — суха. 5 — сьцюдзена. 9 — зьменнае надвор'е. 12 — ясна. 14 — вецер і дождж. 23 — мароз і зьменнае надвор'е.

| Дні | Ст.ст | Праваслаўны календар | N styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| Ч | 19 | Хрызанта й Дар'і | 1 | Hugona i Tadory m. |
| П | 20 | С. Айцоў, пабіт. у Саб. | 2 | Pranciša z Paŭli |
| С | 21 | Якуба Спавядніка | 3 | Ryšarda |
| Н | 22 | **Крыжапаклон. 3-я В.П.** | 4 | Pravodnaja. Izydara |
| П | 23 | Нікана й 200 вуч. яго | 5 | Vincenta Fer. i Ireny |
| А | 24 | Захара. Арцёма | 6 | Celestyna pap. j Vilhelm. |
| С | 25 | **Дабрав. Пр. Багародз.** | 7 | Japifana |
| Ч | 26 | Сабор арх. Гаўрыіла | 8 | Dzianiza |
| П | 27 | Матроны | 9 | Maryi Kleofasavaj |
| С | 28 | Гілярыёна Новага | 10 | Maryi Ehipieckaj |
| Н | 29 | **IV-ая Вял. П. Маркі** | 11 | **Lavona V. pap.** |
| П | 30 | Івана Лесьвічыка | 12 | Juljuša op. |
| А | 31 | Ігната Чудатворцы | 13 | Hermenihilda kar. |
| | | КРАСАВІК | | |
| С | 1 | Марыі Эгіпецкай | 14 | *Apieki šv. Jazepa* Just. |
| Ч | 2 | Ціта. Палікарпы | 15 | Bazyla j Nastasi |
| П | 3 | Мікіты Спавядн. Арыны | 16 | Benedykta. Jazepa Lab. |
| С | 4 | Язэпа й Юр'я Малеіна | 17 | Aniceta pap. Roberta v. |
| Н | 5 | **V-я Вял.Посту. Феадула** | 18 | **Apalona i bł. Bahum.** |
| П | 6 | Аўціха. Мяфода вуч.сл. | 19 | Hermahiena |
| А | 7 | Юр'я Яміліцінскага | 20 | Todara v. j Jahniešy |
| С | 8 | Ап. Радзівона | 21 | Anzelma |
| Ч | 9 | Еўпсіха | 22 | Sotera j Kaja pap. m. |
| П | 10 | Цярэнція | 23 | Vajciecha i Juraha |
| С | 11 | Анціпы | 24 | Fidelisa Kapuc. |
| Н | 12 | **Вербніца. Васіля** | 25 | **Marki Evanhielista** |
| П | 13 | Арцімона | 26 | Kleta j Marcelina pap. |
| А | 14 | Марціна спав. *С.м.Віл.* | 27 | Piotry Kant. |
| С | 15 | Ап. Арыстарха | 28 | Paŭły ad Kryža |
| Ч | 16 | Агапы, Арыны. *Вял. Ч.* | 29 | Piotry z Verony |
| П | 17 | Сямёна. П. Засімы *В.П.* | 30 | Kaciaryny Senenskaj |

| *Сонца* | | | | *Зьмены месяца* | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дні | | Усх. | Зах. | Дні | | |
| 3 | — | 4.49 | 17.57 | 3 | ☾ Сход а гадз. | 13 |
| 10 | — | 4.31 | 18.11 | 10 | ● Вятох „ „ | 8 |
| 17 | — | 4.14 | 18.24 | 17 | ☽ Мал. „ „ | 24 |
| 25 | — | 3.56 | 18.40 | 25 | ○ Поўня „ „ | 15 |

За красавік прыбыло дня 2 г. 06 м.

## Гістарычны календар на м-ц красавік.

1.1557. Жыгімонта-Аўгуста „Устава на волакі“ або „валочная памера“ ў В. К. Літоўскім і ўвядзеньне трохпольнай сыстэмы гаспадараваньня.

5.1797. Павал I устанаўляе 3-х-дзённую паншчыну.

12.1917. Сьмерць паэты Максіма Багдановіча.

14.1101. Сьмерць Усяслава Полацкага — падзел Полацкага княства на ўдзелы.

14.1347. Мучаніцкая сьмерць сьв. Антонія — І-га патрона Беларусі.

15.1844. Указ Мікалая І-га аб увядзеньні інвэнтарных камітэтаў.

17.1563. Прывілей Жыгімонта-Аўгуста аб рэлігійнай талеранцыі і шляхоцкай вольнасьці.

17.1861. Адмена цялесных караў і адкупоў.

22.1919. Адозва Пілсудскага „Вольныя з вольнымі“ і заняцьце палякамі Вільні.

22.1922. Віленскі Сойм далучае Віленшчыну да Польшчы

26.1686. „Вечны мір“ з Масквою і саюз для барьбы з Турцыяй.

27.1430. Сьмерць Вітаўта Вялікага.

30.1905. Маніфэст аб рэлігійнай вольнасьці і грамадзкіх свабодах у Расеі.

## Беларускі народны календар.

Красавік сініць і дзьме, бабам цяпло нясе, а мужык пазірае ды галавою ківае. Красавік чорны ў полі, а ў бары белы. У красавіку грымот — цёплы будзе год.

5 (С. с.). На Арыну сей капусту на расаду.

18 (С. с.). У дзень Кузьмы сеюць моркву й буракі.

23. Два Юр'і: адзін галодны, другі халодны (26.XI). Юры пасе казу, а Мікола каня. Да Юр'я кармі дурня, а па Юр'і сам накорміцца. Да Юр'я корму і ў дурня. На сьв. Юра ня ўбачыш у жыце куры.

25. Дождж на сьв. Марка, дык зямля, як скварка.

30 (С. с.). На Якуба грэе люба. Калі сонца ўзыйдзе ясна — сухое лета, а калі праз хмары — дажджлівае. Калі ноч пад 1 траўня зорная й цёплы паўдзённы вецер — лета будзе з бурамі, але цёплае і ўраджайнае.

## Зьмены надвор'я ў м-цы красавіку 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

5 — сьцюдзена і суха. 8 — сьнег. 14— хмарна і халодны вецер. 17 — склоннасьць да грымотаў. 20 — холад, уночы дождж. Ад 23 — харошая пагода, уночы раса, пад канец дажджы.



| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N.styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 18 | *Вялікая. Івана* | 1 | Pilipa j Jakuba |
| Н | 19 | **Вялікдзень. П. Івана** | 2 | **Kryžovaja. Atanaza** |
| П | 20 | **2-гі дз Вялік. Тодара** | 3 | Kryž. dz. |
| А | 21 | Януарага | 4 | *Kryž. dz. Znacħ. św. Kr.* |
| С | 22 | Хведара Сыкеота | 5 | *Kryž. dz.* Piusa |
| Ч | 23 | *Юр'я.* Язэпа Праведнага | 6 | **Ušeście. Jana ŭ Aleju** |
| П | 24 | Саўвы Страцілата | 7 | Flarjana i Damiceli |
| С | 25 | Маркі Эвангелістага | 8 | Stanisłava |
| Н | 26 | **Хаміна. Васіля** | 9 | **Ryhora z Naz.** |
| П | 27 | *Радаўніца,* Сымона | 10 | Antanina. Izydara |
| А | 28 | *Кірылы Тураўскага* | 11 | Pranciša i Mamerta |
| С | 29 | 9 х муч. з Кізікі | 12 | Pankracaha j Nerjuša |
| Ч | 30 | Якуба. Мікіты | 13 | Sarvazaha |
| | | МАЙ | | |
| П | 1 | Макара | 14 | Banifacaha |
| С | 2 | Апанаса Вялікага | 15 | *Vileja.* Jana z Sal. Zofii |
| Н | 3 | **Міраносіцаў. Гаўрылы** | 16 | **Zasł. Duch. św. (Siom.)** |
| П | 4 | Палагеі Дзевы | 17 | **2-hi dz. Siomuchi.** |
| А | 5 | Арыны | 18 | Venantaha j Feliksa |
| С | 6 | Ёвы Многапакутнага | 19 | *Suchi dz.* Piotry Celest. |
| Ч | 7 | Акакія | 20 | Bernardyna z Seny |
| П | 8 | Івана Багаслова | 21 | *Suchi dz.* Cimachvieja |
| С | 9 | **Пер. мошч Мікалая Ц.** | 22 | *Suchi dz.* Julji. Aleny |
| Н | 10 | **Аб Расслабленым. Сымона** | 23 | **św. Trojcy. Dazydera** |
| П | 11 | Мяфода і Кірылы | 24 | *N.D.M. Uspam. Viernycħ* |
| А | 12 | Япіфана | 25 | Ryhora |
| С | 13 | *Перапал. Сёмухі.* Глікер. | 26 | Pilipa Nerjuša |
| Ч | 14 | Сідара | 27 | **Božaje Cieła. Bedy.** |
| П | 15 | Пахома Вял. | 28 | Aŭhustyna |
| С | 16 | Хведара. Ахрэма. | 29 | Maryi Mahdal. z Pazis |
| Н | 17 | **Аб Самаран. Андроніка** | 30 | **Feliksa** |
| П | 18 | Хвядота. Пётры | 31 | Anieli i Pietrunieli |

*Сонца*

| Дні | | Усх. | Зах. |
|---|---|---|---|
| 2 | — | 3.40 | 18.52 |
| 9 | — | 3.26 | 19.06 |
| 17 | — | 3.11 | 19.20 |
| 25 | — | 2.59 | 19.33 |
| 31 | — | 2.51 | 19.42 |

*Зьмены месяца*

| Дні | | |
|---|---|---|
| 2 | ☾ Сход а гадз. | 19 |
| 9 | ● Вятох „ | 19 |
| 17 | ☽ Маладзік „ | 18 |
| 25 | ○ Поўня „ | 7 |
| 31 | ☾ Сход „ | 24 |

За май прыбыло дня 1 г. 52 м.

## Гістарычны календар на м-ц травень.

1.1926. Заснаваньне Беларускай Друкарні ім. Д-ра Фр. Скарыны ў Вільні.

6.1926. Сьмерць паэты Казімера Сваяка.

14.1864. Праект Мураўёва аб русыфікацыі Беларусі.

18.1882. Устанаўленьне ў Расеі Сялянскага Зямельнага Банку.

20.1918. Сьмерць беларускага пісьменьніка Каруся Каганца.

23.1173. Сьмерць Афрасіньні Полацкай.

28.1910. Сьмерць этнографа Міколы Нікіфароўскага.

31.1863. Адозва рэвалюцыйнага Народнага Ўраду ў Польшчы да беларусаў і заклік іх да ўчасьця ў паўстаньні.

## Беларускі народны календар.

Май — жывёлу ў поле пхай. Май зямлю грэе, а сіверам вее. Май — каню сена дай, а сам на печ уцякай. У маі сьнег — на сухое лета.

2. (С.с.). Барыс і Глеб сеюць хлеб.

8. Сей лён на Станіслава — вырасьце, як лава.

9 (С.с.). Веснавы Мікола — сьвята канюхоў. Веснавы Мікола каня адкорміць. Прыпасай сена да Міколы — ня бойся зімы ніколі. Два Міколы: адзін з травою, другі з зімою.

11-га мокра, усё лета мокрае, а суха – усё лета сухое.

14 (С. с.). Прыйшлі Сідары, прыйшлі й сіверы.

15 (С.с.). Прыйшоў Пахом — запахла цяплом.

22 (С.с.). Ад Васіліска й салавей бліска.

22. Сей лён на Алёну будзе кашуля па калена.

24. (С.с.). Калі рой выйдзе перад Янам, пчаляр будзе панам.

29. Магдалена зязюльку прысылае.

## Зьмены надвор'я ў м-цы маі 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1 — хмарна і дождж. 6 – 8 — халодны вецер. 15 — зьменнае надвор'е. 19 — бура. 24—27 — дождж з ветрам.

Іюнь 1937 г. **ЧЭРВЕНЬ—CERVIEŃ** 30 dzion Czerviec 1937 h.

| Дні | Ст.ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| А | 19 | Патрыкея | 1 | Jakuba. Fortunata |
| С | 20 | Знах. мошчаў сьв. Алякс. | 2 | Sadoka |
| Ч | 21 | Канстанціна й Алены | 3 | Klatyldy. Erazma |
| П | 22 | Васіліска | 4 | *N. Serca Jezusa.* Pranc. |
| С | 23 | *Афрасіні, Асьвет. Белар.* | 5 | Banifacaha. Valery |
| Н | 24 | **Аб сьляпым. Сымона С.** | 6 | Norberta |
| П | 25 | 3-ці знах. гал. Івана Хр. | 7 | Roberta |
| А | 26 | Карпы. Юр'я новага | 8 | Medarda |
| С | 27 | Феранонта | 9 | Pryma j Felicyjana |
| Ч | 28 | **Ушэсьце Гасподне.** Мік. | 10 | Maŭharety |
| П | 29 | Хвядосі Дзевы | 11 | Barnaby |
| С | 30 | Ісака Далмацкага | 12 | Jana z Fakundo |
| Н | 31 | **Сьв. Айцоў і Усялен. С.** ЧЭРВЕНЬ | 13 | **Antoniaha z Padui** |
| П | 1 | Юстына | 14 | Bazyla |
| А | 2 | Мікіпара | 15 | Jolenty. |
| С | 3 | Лукільяна | 16 | Jana Pranciša Rehis. |
| Ч | 4 | Мітрафана | 17 | Marcyjana. Adolfa |
| П | 5 | Дарахвея | 18 | Achrema Dziak. |
| С | 6 | *Траецкая Субота.* Вісар. | 19 | Harvazaha j Pratazaha |
| Н | 7 | **Дзень сьв. Тройцы** | 20 | **Sylvera i Juljany** |
| П | 8 | **Дзень сьв. Духа.** | 21 | Aloizaha Honzagi |
| А | 9 | Кірылы | 22 | Paŭlina |
| С | 10 | Цімахвея | 23 | Zenana. Ahrypiny |
| Ч | 11 | Баўтрамея й Барнабы | 24 | *Naradz. Jana Chryśc.* |
| П | 12 | Ануфрага | 25 | Vilhelma |
| С | 13 | Ганны й Івана | 26 | Jana j Paŭly |
| Н | 14 | **Усіх сьвятых.** | 27 | Ŭładysłava |
| П | 15 | Амоса | 28 | Irynieja |
| А | 16 | Ціхана. | 29 | Piotry j Paŭly Apostałaŭ |
| С | 17 | Мануіла, Савела й Ізм. | 30 | Uspamin śv. Paŭly Amili |

*Сонца*

| Дні | | Уск. | Зах. |
|---|---|---|---|
| 8 | — | 2.44 | 19.52 |
| 16 | — | 2.41 | 19.58 |
| 23 | — | 2.41 | 20.00 |
| 29 | — | 2.44 | 20.00 |

*Зьмены месяца*

| Дні | | | |
|---|---|---|---|
| 8 | ● Вятох а | гадз. | 2 |
| 16 | ☽ Мал. „ | „ | 11 |
| 23 | ○ Поўня „ | „ | 16 |
| 29 | ☾ Сход „ | „ | 6 |

Да 22 чэрвеня дня прыбыло 26 мінут.

## Гістарычны календар на м-ц чэрвень.

6.1934. Сьмерць праф. Эпімах-Шыпілы — піонера беларускага адраджэнскага руху.

11.1812. Напалеон пераходзіць р. Нёман і ўступае на тэрыторыю Беларусі.

14—15.1922. Абвешчаньне аўтокефаліі Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.

28.1918. Вэрсальскі трактат, які закончыў Вялікую Сусьветную вайну.

---

## Беларускі народны календар.

Чэрвень — пачатак лета. У чэрвені ўбача спадар, што Бог дасьць у дар.

1 (С. с.). Юстын цягне ўверх каноплі, а Харытон—лён.

8 (С. с.). На Тодара раса — лета сухое і ўраджайнае. На Тодара раса — канапель паласа.

15 (С. с.). Прарок Амос цягне ўгору авёс.

23. На Купалу раса — будуць агуркі. У каго Купала пракосы ўбача — таго баба жнівом не заплачэ.

24. Сьв. Ян пчолы садзіць. Часамі Ян дасьць ягад збан. На Яна сонца гуляе.

27 (С. с.). На Самсона дождж—сем тыдняў то-ж.

28. Сьв. Пётра ў косы звоніць, а сьв. Паўла граблі робіць. Калі на Пятра пойдзе дождж — жыта, як хвошч; уродзіць мятліца — хлеба палавіца; зарадзіў званец—жыту канец. Калі зязюлька будзе кукаваць да Пятра — восень харошая, а калі па Пятры — лета доўгае й харошае, сьнег ня хутка выпадзе. Прыйшоў Пятрок — адпаў лісток, прыйдзе Ільля — адпадуць два, а па Ўсіх Сьвятых—ня будзе іх.

---

## Зьмены надвор'я ў м-цы чэрвені 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1 — хмарна і ветрана. 12 — горача. 19 — зьменнае надвор'е. 20 — пагодна. 21—23 — харошая пагода і вецер. 29 — холадна.

---

# ЛІПЕНЬ—LIPIEŃ

31 dzień

| Дні | Ст. ст | Праваслаўны календар | N.styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| Ч | 18 | *Дзевятнік.* Лявонця. | 1 | *N. Kryvi P. Jezusa* |
| П | 19 | Юды брата Господняга | 2 | *Naviedańnie N.Dz. Maryi* |
| С | 20 | Мяфода, | 3 | Lavona II pap. Anatola |
| Н | 21 | **Юльяна** | 4 | **Todara B.** |
| П | 22 | Аўсея. | 5 | Antoniaha. Maryi Zachar. |
| А | 23 | Агрыпіны | 6 | Izaja praroka. Daminiki |
| С | 24 | **Нараджж. сьв Івана Хр.** | 7 | Cyryla j Miatoda |
| Ч | 25 | Хаўроні | 8 | Alžbiety. Aŭhienia |
| П | 26 | Давіда | 9 | Veroniki. Zenona |
| С | 27 | Самсона | 10 | 7-ch bratoŭ mučan. |
| Н | 28 | **Пер. мошч. сьв.Кіра** | 11 | **Piusa I pap.** |
| П | 29 | **Пётры й Паўлы** | 12 | Jana Hvalberta |
| А | 30 | Сабор 12-х апосталаў | 13 | Anakleta |
| | | ЛІПЕНЬ | | |
| С | 1 | Кузьмы й Дзямяна | 14 | Bonaventury |
| Ч | 2 | Палаж. рызы Багар. | 15 | Razasłańnie šv.Apostałaŭ |
| П | 3 | Якінфа | 16 | *M.B. Škaplernaj.* Andreja |
| С | 4 | Андрэя Крыцкага | 17 | Alaksieja |
| Н | 5 | **Апанаса Афон.** | 18 | **Symona z Lipnicy** |
| П | 6 | Сісоя Вял. | 19 | Vincentaha z Pauli |
| А | 7 | Хамы й Акакія | 20 | Časłava. Hieronima |
| С | 8 | Пракопа | 21 | Praksedy |
| Ч | 9 | Панкрата | 22 | Maryi Mahdaleny |
| П | 10 | 45 м. ў Армэніі | 23 | Apalinaraha |
| С | 11 | Яўхімы | 24 | Kinhi Krystyny |
| Н | 12 | **Прокла й Гілярага** | 25 | **Jakuba ap.** |
| П | 13 | Сабор арх. Гаўрыіла | 26 | Hanny, Maci N.D.M. |
| А | 14 | Акілы | 27 | Natali. Panteleona |
| С | 15 | Кірыка й Юліты | 28 | Viktara I, pap. |
| Ч | 16 | Афіногена | 29 | Marty P. j Feliksa pap. |
| П | 17 | Марыны | 30 | Rufina j Abdona. |
| С | 18 | Амільяна й Івана | 31 | Ihnataha z Lojoli |

| *Сонца* Дні | | Усх. | Зах. | *Зьмены месяца* Дні | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | — | 2.51 | 19.56 | 7 | ● Вятох | а гадз. | 22 |
| 16 | — | 3.02 | 19.47 | 16 | ☽ Маладзік | „ | 1 |
| 22 | — | 3.10 | 19.40 | 22 | Поўня | „ | 23 |
| 29 | — | 3.22 | 19.28 | 29 | ☾ Сход | „ | 14 |

За ліпень дня ўбыло 1 г. 13 м

## Гістарычны календар на м-ц ліпень.

1.1569. Люблінская унія — поўная інкорпорацыя Беларусі ў Польшчу.

12.1580. Засн. Сьцяпанам Батураю езуіцкай калегіі ў Полацку.

14.1500 Перамога маскоўскім войскам беларусаў і літоўцаў на р. Ведрошы.

14.1914. Пачатак Вялікай Сусьветнай вайны.

15.1410. Бітва з крыжакамі пад Грунвальдам і Танэнбэргам.

23.1839. Далучэньне уніятаў да праваслаўя.

30.1514. Смаленск заваяваны Масквою.

30.1595. Прывілей Жыгімонта III уніяцкаму духавенству.

31.1924. Закон аб утраквістычных польска-беларускіх школах у Польшчы.

## Беларускі народны календар.

Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае. Ліпень пякучы, але даручы. Хто ў ліпні на полі пацее, таго ўзімку і печка грэе.

1. (С.с.). На Кузьму і Дзямяна касіць ня рана.

10. Сем братоў варожаць, колькі тыдняў пагоды.

19. (С.с.). Глядзі восень па Макрыне.

20. (С.с.). На Ільлю да абеду лета, а па абедзе восень. Да Ільлі поп у Бога просіць дажджу, а па Ільлі баба й хвартухом нагоніць. Ільля жніво пачынае, а лета канчае. На сьв. Гальляша з новых круп каша. Да Ільлі на сене пуд мёду, а па Ільлі — пуд гною. Ільля на полі копы лічыць.

25. Дождж на Якуба — для жалудоў згуба, а як Ганна з дажджом — дык гарэх з чарвяком.

26. (С.с.) Барыс і Глеб — пасьпеў хлеб. На Барыса сам бараніся. Сьв. Барыс снапы возіць.

30. (С.с.). Хто на Сілу жыта пасее, у таго на хлеб надзея.

## Зьмены надвор‘я ў м-цы ліпні.

*(Паводле 100-га календара Бруса).*

1 — харошая пагода. 3 — грымоты і дождж 5—хмарна. 7 — ясна. 8 — вецер. 11 і 12 — зьменнае надвор‘е, грымоты, вятры і дажджы. 24 — харошае надвор‘е. 28 — дождж.

| Дні | Ст.ст. | Праваслаўны календар | N.styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| Н | 19 | **Макрыны** | 1 | **Piotry Ap. ŭ Akovach** |
| П | 20 | *Ільлі. Апанаса Берасьц.* | 2 | *N.D.M. Anielskaj.* Alfonsa |
| А | 21 | Сымона й Івана | 3 | Znach. cieła św. Ściapana |
| С | 22 | Марыі Магдалены | 4 | Daminiki |
| Ч | 23 | Трахіма й Тафіля | 5 | *N.D.M. Śnieżnaj* |
| П | 24 | Крыстыны. Барыса | 6 | *Pieramianieńnie Jezusa* |
| С | 25 | Усьпеньне сьв. Ганны | 7 | Kajetana. Danata |
| Н | 26 | **Ермалая. М. Параскі** | 8 | **Cyryjaka i Amiljana** |
| П | 27 | Панцелеймона | 9 | Jana Vianneja j Ramana |
| А | 28 | Прохара | 10 | Łaŭryna |
| С | 29 | Калініка. М. Сарафіны | 11 | Zuzanny |
| Ч | 30 | Сілы й Сілуана | 12 | Klary. Hilaryi |
| П | 31 | Аўдакіма | 13 | Hipalita j Kasijana |
| | | ЖНІВЕНЬ | | |
| С | 1 | *Пач. Усьпен. Посту* | 14 | *Vileja.* Eŭzeba. Nastasi |
| Н | 2 | **Перан. мошч. с. Сьцяпана** | 15 | **Ŭniebaŭziaćcie N.D.M.** |
| П | 3 | Ісака Далмацкага | 16 | Jachima j Rocha |
| А | 4 | 7-х маладзёнаў Эфэскіх | 17 | Jacki. Stratona |
| С | 5 | Аўсьцігнея | 18 | Aleny ces. Ahapita |
| Ч | 6 | **Пераабражэньне Гасп.** | 19 | Ludvika i Juljuša |
| П | 7 | Дамэція | 20 | Bernarda |
| С | 8 | Амільяна Спавядн. | 21 | Joanny Fremio |
| Н | 9 | **Мацея** | 22 | **Cimachwieja** |
| П | 10 | Лаўрэнцця | 23 | Pilipa. Zachieja |
| А | 11 | Еўпла | 24 | Baŭtramieja |
| С | 12 | Фоція й Анікіты | 25 | Ludvika |
| Ч | 13 | Максіма Спавядніка | 26 | *M. B. Jasnahorskaj* |
| П | 14 | Міхея | 27 | Jazepa. Kalasantaha |
| С | 15 | **Усьпеньне Пр. Багародз** | 28 | Aŭhustyna |
| Н | 16 | **Нярукатвор. Абразу** | 29 | **Ściaćcie św. Jana Chr.** |
| П | 17 | Мірона | 30 | Ružy Limanskaj |
| А | 18 | Хлора й Лаўры | 31 | Rajmunda |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 6 | — | 3.36 | 19.13 |
| 14 | — | 3.50 | 18.58 |
| 21 | — | 4.04 | 18.40 |
| 28 | — | 4 16 | 18 24 |

*Зьмены месяц*

| Дні | | | |
|---|---|---|---|
| 6 | ● Вятох а гадз. | | 13 |
| 14 | ☽ Маладзік | „ | 1 |
| 21 | ○ Поўня | „ | 6 |
| 28 | ☾ Сход „ | „ | 1 |

За жнівень убыло дня 2 гадз. 3 мін.

## Гістарычны календар на м-ц жнівень.

1.1920. II-е абвешчаньне незалежнасьці Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

2.1413. Гарадэльская унія — прыняцьце беларускіх і літоўскіх баяраў у рады польскіх вяльможаў.

4.1392. Унія ў Востраве — Вітаўт становіцца самастойным князем Літвы.

6.1492. Земскі прывілей Аляксандра аб самастойнасьці і непадзельнасьці Вял. Кн. Літоўскага.

6.1517. Выданы ў Празе „Псалтыр“ Скарыны — І-ая беларуская друкаваная кніга.

8.1655. Расейцы займаюць Вільню.

12.1399. Бітва з татарамі на р. Ворскле і перамога імі Вітаўта.

14.1385. Крэўская унія.

18.1655. Януш Радзівіл пад Койданавам пераходзіць на бок швэдаў.

18.1905. Устанаўленьне Дзяржаўнай Думы ў Расеі.

20.1919. Сьмерць Івана Луцкевіча — беларускага адраджэнскага дзеяча.

30.1579. Заняцьце Полацку Сьцяпанам Батураю.

## Беларускі народны календар.

У жніўні панамі сярпы, маруды тады не цярпі. Кожная хата ў жніўні багата. Што поле ўродзіць, жнівень знаходзіць. Хто ў жніўні гуляе, той узімку галадае.

1 (С. с.). Першы Спас — провады лета. Ад першага Спаса халодныя росы.

3 (С. с.). Антоны—віхравеі.

6 (С. с.). Прыйшоў Спас — усяму час. Прыйшоў Спас — і лета ад нас.

10. На Лаўрына сьпяшай да млына.

15. Да сьвятка араць — лішнюю капу нажаць. Прыйшла Прачыста — стала поле чыста. Зельная Божая Маці ўсяго можа нам даці.

24. Сьв. Баўтрамей душыць аваднёў і труціць мухі. Сьв. Баўтрамей высылае буслаў па дзяцей. Прыйшоў Баўтрамей — жыта на зіму сей.

29. Да Яна прасеце, дзеткі, дажджу, а па Яне я адзін упрашу. Ян па лета прыйшоў, а ўжо восень знайшоў.

## Зьмены надвор'я ў м-цы жніўні 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1 — сухмень. 9 — холад і дождж. 13 — сталае надвор'е. 19 — жара, грымоты, дождж і вецер. 22 — хмарна. 23 — бура і град, да канца месяца вятры і буры з градам.

## Сентябрь 1937 — ВЕРАСЕНЬ—VIERASIEŃ — Wrzesień 1937

30 dzion

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 19 | Андрэя Страцілата | 1 | Idziaha |
| Ч | 20 | Самуіла | 2 | Ściapana |
| П | 21 | Хвадзея. Васы | 3 | Symona słupnika |
| С | 22 | Агафоніка | 4 | Razali |
| Н | 23 | **Калініка** | 5 | **Łaŭryna j Justynijana** |
| П | 24 | **Аўціха** | 6 | Zachara. Aŭhienia |
| А | 25 | Баўтрамея й Ціта | 7 | Melchijora j Rehiny |
| С | 26 | Адрыяна й Наталі | 8 | *Naradžeńnie N.D.M.* |
| Ч | 27 | Пімана Вял. | 9 | Piotry Klavera j Horgona |
| П | 28 | Майсея Мурына | 10 | Mikałaja z Talentynu |
| С | 29 | **Сьцяц. гал. Івана Хр** | 11 | Prota i Jacki |
| Н | 30 | **Аляксандра Неўскага** | 12 | **Imieńnia N.D.M.** |
| П | 31 | Пал. Паясу Пр. Багар. | 13 | Pilipa i Aŭhieni |
| | | ВЕРАСЕНЬ | | |
| А | 1 | Сымона | 14 | *Uźviž. śv. Kryža* |
| С | 2 | Івана Посьніка | 15 | *Suchi dz. M. B. Balesnaj* |
| Ч | 3 | Анфіма | 16 | Karnila j Cypryjana |
| П | 4 | Вавілы | 17 | *Suchi dz.* Ranaŭ św. Fr. |
| С | 5 | Захара | 18 | *Suchi dz.* Jazepa z Kup. |
| Н | 6 | **Цуд. Арх. Міхала** | 19 | **Januaraha** |
| П | 7 | Сазонта | 20 | Eŭstacha |
| А | 8 | **Нарадж. Пр. Багародзіцы** | 21 | Macieja |
| С | 9 | *Яўхіма і Ганны* | 22 | Tamaša. Maŭrycaha |
| Ч | 10 | Мінадоры, Мітрад. й Н. | 23 | Lina. Tekli |
| П | 11 | Хвядоры Алякс. | 24 | *N.D.M. ad vyk. z niav.* |
| С | 12 | Аўтанома й Карнута | 25 | Uładysława |
| Н | 13 | **Карніля Сотніка** | 26 | **Cypryjana j Justyny** |
| П | 14 | **Узьвіж. жыватв. Крыжа** | 27 | Kuźmy j Dziamjana |
| А | 15 | Мікіты. Філафея | 28 | Vacłava |
| С | 16 | Аўхімі | 29 | *Michała Arch.* |
| Ч | 17 | Зофіі, Веры, Надз. і Люб. | 30 | Hieronima |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 5 | — | 4.31 | 8.04 |
| 12 | — | 4.44 | 17.46 |
| 19 | — | 4.56 | 17.28 |
| 26 | — | 5.10 | 17.11 |

*Зьмены месяца*

| Дні | | | |
|---|---|---|---|
| 5 | Вятох а гадз. | | 5 |
| 12 | Маладзік | „ | 23 |
| 19 | Поўня | „ | 14 |
| 26 | Сход | „ | 16 |

За верасень дня ўбыло 2 г. 7 м.

## Гістарычны календар на м-ц верасень.

1.1432. Замах Жыгімонта і апанаваньне ім Беларусі.

1.1435. Разгром Жыгімонтам Сьвідрыгайлы на р. Сьвятой ля Вількаміру.

1.1906. Выхад І-й легальнай беларускай газэты „Нашай Долі".

4.1917. Адчыненьне І-й сярэдняй беларускай школы ў Слуцку.

5.1915. Акупацыя немцамі заходніх зямель Беларусі.

8.1252. Міндаўг прыймае каталіцкае хрышчэньне і карануецца каралём Літвы ў Наваградку.

8.1514. Перамога Канст. Астрожскага над маскоўцамі пад Воршаю.

12.1395. Смаленск падпадае пад уладу Вітаўта.

13.1119. Сьмерць Глеба Усяславіча—І-га менскага князя.

21.1621. Сьмерць Караля Хадкевіча — вялікага літоўска-беларускага гэтмана.

23.1654. Заняцьце маскоўцамі Смаленску.

30.1150. Устанаўленьне Смаленскага біскупства князем Расьціславам Мсьціславічам. І-шы біскуп — Мануіл.

## Беларускі народны календар.

Верасень — з досьвіткам дзень. У верасьні й ліст на дзераве ня трымаецца. Халодны верасень, але сыты. У верасьні адна ягада, ды й то горкая рабіна. У верасьні палі агонь і ў хаце і на полі.

1 (С. с.). Сымон да варот, на дварэ сем пагод: сее, вее, круціць, муціць, зьверху ліе, зьнізу мяце. На Сымона птушкі ў вырай лятуць.

8. Другі Сьвяток — восень, браток. Прыйшла менша Прачыста, канчай сеяць начыста.

11 (С. с.). На Тадору ўсякае лета канчаецца.

14. На Ўзьвіжаньне халат з плеч, а кажух на плечы. Узьвіжаньне з поля зьбірае. На Ўзьвіжаньня пару гадзюкі й вужакі хаваюцца ў нару.

26 (С. с.). Іван Багуслаў дружкі разаслаў, а на Пакровы дзеўка й гатова.

29. На Міхала ясная ноч — будзе трывалкая зіма. Калі на Міхала з поўначы вецер вее, то ня мей на пагоду надзеі.

## Зьмены надвор'я ў м-цы верасьні 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1—8 — заходнія вятры. 9—зьменнае надвор'е і дождж. 11 і 12—дождж. 13—халодны вецер. Ад 25—сільныя вятры.

## Октябрь КАСТРЫЧНІК–KASTRYČNIK Październik

1937 г. 31 dzień 1937 h.

| Дні | Су. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| П | 18 | Яўменя | 1 | Jana z Dukli |
| С | 19 | Трахіма, Саўвацея і Дары | 2 | Aniołaŭ Vartaŭnikoŭ |
| Н | 20 | **Аўстаха Плакіды** | 3 | **M. B. Ražancovaj.** |
| П | 21 | Кандрата | 4 | Prančiša Serafickah. |
| А | 22 | Фокі, Ёны | 5 | Placyda j Tavar. |
| С | 23 | Андрэя, Івана й Пётры | 6 | Brunona |
| Ч | 24 | Тэклі | 7 | Marki. Justyny |
| П | 25 | Афрасіні Аляксандр. | 8 | Bryhidy ŭd. Laŭrencii |
| С | 26 | **Івана Багаслова** | 9 | Dzianisa. Ludvika |
| Н | 27 | **Калістрата й друж. яго** | 10 | **Prančiša Borgjaša** |
| П | 28 | Харытона Спавядн. | 11 | Amiljana |
| А | 29 | Кірыяка. Кіпрыяна. | 12 | Maksimiljana |
| С | 30 | Рыгора | 13 | Advardaha |
| | | КАСТРЫЧНІК | | |
| Ч | 1 | **Пакровы Пр. Багарод.** | 14 | Kaliksta. Evarysta |
| П | 2 | Кіпрыяна | 15 | Taresy. Jadvihi ŭd. |
| С | 3 | Дзяніса Арэопагіта | 16 | Herarda Majeli |
| Н | 4 | **Ерахвея** | 17 | **Maŭharety AlakokP.** |
| П | 5 | Пётры й Піліпа | 18 | Łukaša Evanhielistaha |
| А | 6 | Хамы | 19 | Piotry z Alkantary |
| С | 7 | Сяргея й Вакха | 20 | Jana Kantaha |
| Ч | 8 | Палагеі й Таісі | 21 | Aršuli j Tavar. |
| П | 9 | Якуба Алфеевага | 22 | Karduli j Pilipa |
| С | 10 | Яўлампа й Яўлампіі | 23 | Severyna j Ramana |
| Н | 11 | **Піліпа** | 24 | **Rafała Archanieła.** |
| П | 12 | Кузьмы Маюмскага | 25 | Kryspina |
| А | 13 | Карпы й Панілы | 26 | Evarystaha |
| С | 14 | Назара, Гарваза й Прат. | 27 | Sabiny i Florenca |
| Ч | 15 | Яўхіма Новага | 28 | Symona j Tadeŭša |
| П | 16 | Лёнгіна Сотніка | 29 | Narcyza |
| С | 17 | Асіі | 30 | Alfonsa |
| Н | 18 | **Лукі** | 31 | **Śviata Chrystusa Vaład.** |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 4 | — | 5.25 | 16.50 |
| 12 | — | 5.40 | 16 30 |
| 18 | — | 5.52 | 16.16 |
| 26 | — | 6.08 | 15.58 |

*Зьмены месяца*

| Дні | | | |
|---|---|---|---|
| 4 | ● Вятох | а гадз. | 21 |
| 12 | ☽ Маладзік | „ | 7 |
| 18 | ○ Поўня „ | „ | 23 |
| 26 | ☾ Сход „ | „ | 11 |

За кастрычнік убыло дня 2 г. 10 м.

## Гістарычны календар на м-ц кастрычнік.

4(15).1582. Сьцяпан Батура ўводзіць рыгар'янскі календар.

4.1928. Заснав. у Менску Беларускай Акадэміі Навук.

7.1920. Абвешчаньне „Сярэдняе Літвы.“

8.1917. Выхад 1-га нумару „Крыніцы“ (цяпер „Беларуская Крыніца“) у Петраградзе.

9.1596. Берасьцейская царкоўная унія.

15.1432. Горадзенскі акт — вернута інкорпорацыя Беларусі і Літвы ў Польшчу.

15.1415. Зьезд літоўска-рускіх біскупаў у Навагрудку. Выбары Цамблака.

30.1921. Засн. у Менску Белар. Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

## Беларускі народны календар.

У кастрычніку — насмаркаць багачу, я свой сноп малачу. У кастрычніку й хата з дрывамі і мужык з лапцямі. Кастрычнік ходзіць па краю й гоніць птушак з гаю. Кастрычнік ні калёс ні палоз ня любіць.

1. (С.с.). Сьв. Пакраў пытаецца ў лотраў: „дзе вы леталі, дзе вы зімавалі, дзе вашыя рукавіцы й кажухі?“Сьв. Пакровы пакрываюць: траву лістам, зямлю сьнегам, ваду лёдам, а дзяўчат шлюбным чэпкам.

4. На Пранцішка зярнят шукае ў полі мышка.

26. (С.с.). Зьміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў. Да Зьмітра баба хітра, а па Зьмітры хоць анучай вытры.

28. Сымон з Юдаю працу ў полі канчаюць, хаты аглядаюць.

28. (С.с.) Параскевы Пятніцкай — ня можна прасьці.

19. (С.с.). Настуся пачынае стрыгчы авечак.

## Зьмены надвор'я ў м-цы кастрычніку.

*(Паводле 100-годняга календара Бруса).*

1 — холад, мокра і слата. 8 — дождж. 10 — ясна. 14—цёпла. 17 — зьменна. 18 — хмарна. 19—21—слата. Холад і вятры — да канца месяца.

Ноябрь 1937 г. | ЛІСТАПАД—LISTAPAD 30 dzion | Listopad 1937 h.

| Дн | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| П | 19 | Ёлла. Івана Рыльск. | 1 | **Usich Śviatych** |
| А | 20 | Арцёма Эгіпецкага | 2 | *Zadušny Dzień* |
| С | 21 | Гілярыёна Вялікага | 3 | Huberta j Sylvii |
| Ч | 22 | **Абразу Казанскай Б. М.** | 4 | Karala Baromeuša |
| П | 23 | Якуба | 5 | Zachara j Alžbiety |
| С | 24 | Арэфы. Апанаса | 6 | Feliksa i Leonarda |
| Н | 25 | **Маркіяна й Мартыра** | 7 | **Florenca** |
| П | 26 | Зьмітры Салун | 8 | Hotfryda j Maŭra |
| А | 27 | Нестара | 9 | Todara j Ursyna |
| С | 28 | Арсеня. Параскевы Пят. | 10 | Andreja z Aveliny |
| Ч | 29 | Абрагама. Настасі | 11 | Marcina |
| П | 30 | Зяноўя й Зяноўі | 12 | Marcina |
| С | 31 | Стахея й Амплея | 13 | Stanisłava Kostki |
| | | ЛІСТАПАД | | |
| Н | 1 | **Кузьмы і Дзяміяна** | 14 | **Jozafata j Jukunda** |
| П | 2 | Акіндзіна й Елпідыфара | 15 | Leapolda j Hiertrudy |
| А | 3 | Акепсімы. Язэпа | 16 | *M. B. Vostrabramskaj* |
| С | 4 | Ёанікія Вялікага | 17 | Salamei j Ryhora |
| Ч | 5 | Галакціёна | 18 | Anieli j Ramana |
| П | 6 | Паўлы Спавяд. | 19 | Alžbiety kar. ŭd. |
| С | 7 | Сьв. 33-х муч. Мэліцін. | 20 | Feliksa Valezaha |
| Н | 8 | **Сабор арх. Міхаіла** | 21 | **Achviarav. N. D. Maryi** |
| П | 9 | Анісіфара й Парфіра | 22 | Cecyli i Filimona |
| А | 10 | Алімпа й Радзівона | 23 | Klemensa I pap. |
| С | 11 | Міны, Віктара й Вікенц | 24 | Jana ad kryža |
| Ч | 12 | Івана Міласьцівага | 25 | Kaciaryny. Erazma |
| П | 13 | Івана Залатавуснага | 26 | Leonarda z Portu |
| С | 14 | Піліпа. Рыгора Паламы | 27 | Valerjana j Virhila |
| Н | 15 | **Пач. Піліпаўкі. Гурыя** | 28 | **N. I Adventu. Mansveta** |
| П | 16 | Мацьвея | 29 | Saturnina j Filimona |
| А | 17 | Рыгора. Нікана | 30 | Andreja. Justyny. |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 3 | — | 6.24 | 15.41 |
| 10 | — | 6 38 | 15 27 |
| 17 | — | 6.52 | 15.16 |
| 25 | — | 17.07 | 15.04 |

*Зьмены месяца*

| Дні | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 3 | Вятох | а гадз. | 12 |
| 10 | Маладзік | „ | 15 |
| 17 | Поўня„ | „ | 11 |
| 25 | Сход „ | „ | 8 |

За лістапад дня убыло 1 г. 41 м.

## Гістарычны календар на м-ц лістапад.

5.1922. Выбары ў І-шы польскі Сойм. Беларусы здабылі 12 мандатаў.

6.1661. Перамога над маскоўцамі пры Глыбокім.

7.1925 Адкрыцьцё Белар. Коопэрат. Банку ў Вільні.

10.1921. Пачатак рэгулярных набажэнстваў для белар.-каталікоў пры літоўскім касьцеле сьв. Мікалая ў Вільні.

10.1906. Выхад І-га нумару „Нашае Нівы."

11.1618. Дэвулінскі мір. — Смаленск і Чарнігаў адыходзяць ад Масквы.

12.1623. Замучаны ў Віцебску Ёзафат Кунцэвіч — Полацкі уніяцкі арцыбіскуп.

20.1864. Закон аб яўным судаводзтве.

30.1529. І-шы Статут В. К. Літоўскага.

## Беларускі народны календар.

У лістападзе гола ў садзе. Прыйшоў лістапад, кармі скацінку, брат. У лістападзе кладзі капусту ў кадзі. Лістапад сьнегу навее — хлеба прыбудзе, а вада разальецца — сена набярэцца.

1. Усе Сьвятыя як засваволяць, дрэвы дарэшты аголяць. Па Ўсіх Сьвятых холад для ўсіх.

8. На Тадора поўная камора.

9. (С.с.). З Матроны становіцца зіма.

12. (С.с.). Калі 12 дождж або сьнег — аж да Грамніцаў будуць адлігі.

14. (С с.). Запусты на Піліпаўку — пачынаюцца вячоркі й попрадкі.

15. (С.с.). Калі на Піліпаўку пагода хмарная або сьнежная травень будзе мокры.

22. (С.с.), Пракоп па сьнезе ступае, дарогу капае.

24. Прыйшла Кацярына, прыйдзе й пярына.

30. Андрэя — дзяўчаты гадаюць: „сьв. Андрэю, канапелькі сею, дай мне знаць, з кім буду спаць."

## Зьмены надвор'я ў м-цы лістападзе.

*(Паводле 100-га календара Бруса).*

1 — хмарна. 2 — слата. 4 — дождж і вецер. 8 — холадна і мокра. 10 — холад. 13 — хмарна. 21 — дождж. 24 — цёпла. 29 — сьнег.

Декабрь **СЬНЕЖАНЬ – ŚNIEŽAŃ** Grudzień

**1937** **31 dzień** **1939**

| Дні | Ст. ст. | Праваслаўны календар | N. styl | Katalicki kalendar |
|---|---|---|---|---|
| С | 18 | Платона й Рамана | 1 | Eliha. Natali |
| Ч | 19 | Аўдзея. М. Варлама | 2 | Bibjany. Hipalita |
| П | 20 | Рыгора Дэкаполіта | 3 | Pranciša Ksaveraha |
| С | 21 | **Уводзіны ў Хр. Пр. Баг.** | 4 | Barbary. Piotry Chryz. |
| Н | 22 | **Філімона** | 5 | **Nastasi. Sabby** |
| П | 23 | Амфілоха | 6 | Mikałaja |
| А | 24 | Кацярыны | 7 | Ambrožaha |
| С | 25 | Кліманта | 8 | **Biazhr. Pač. N. D. Mar.** |
| Ч | 26 | Агіпія й Якуба | 9 | Leokadzi j Valery |
| П | 27 | Якуба Пэрскага | 10 | *N.D.M. Loretanskaj* |
| С | 28 | Сьцяпана Новага | 11 | Damaza I pap. |
| Н | 29 | **Парамона й Філумэна** | 12 | **Alaksandra. Justyna** |
| П | 30 | *Андрэя Першазванага* | 13 | Łucyi. Otyli |
| | | СЬНЕЖАНЬ | | |
| А | 1 | Навума | 14 | Dyjaskora j Śpirydona |
| С | 2 | Авакума | 15 | *Suchi dz.* Valerjana |
| Ч | 3 | Сафона. Саўвы | 16 | Eŭzeba |
| П | 4 | Барбары | 17 | *Suchi dz.* Łazara. Alimpii |
| С | 5 | Саўвы Асьвячонага | 18 | *Suchi dz.Cakańnie N.D.M.* |
| Н | 6 | **Мікалая** | 19 | **Urbana i Nemeza** |
| П | 7 | Амвроса. Антона | 20 | Tachvila |
| А | 8 | Патапа | 21 | Tamaša |
| С | 9 | Ганны | 22 | Zenona j Hanoraha |
| Ч | 10 | Міны, Ермагена й Еўгр. | 23 | Viktoryi |
| П | 11 | Данілы Слупніка | 24 | *Vilcja.* Adama j Evy |
| С | 12 | Сьпірыдона | 25 | **Nar. Jezusa. Kalady** |
| Н | 13 | **Яустрата й Аксенця** | 26 | **2-hi dz. Kal. ściapana** |
| П | 14 | Фірса й Хілімона | 27 | Jana ap. |
| А | 15 | Элеўфэрыя | 28 | Dzietak |
| С | 16 | Агея | 29 | Famaša |
| Ч | 17 | Данілы й 3-х маладзён. | 30 | Aŭhienia |
| П | 18 | Савасьцяпа й дружыны | 31 | Sylvestry. Malani |

*Сонца*

| Дні | | Усход | Заход |
|---|---|---|---|
| 2 | — | 7.18 | 14.57 |
| 9 | — | 7.?8 | 14.52 |
| 17 | — | 7.37 | 14.52 |
| 25 | — | 7.41 | 14.54 |

*Зьмены месяца*

| Дні | | | |
|---|---|---|---|
| 2 | Вятох а гадз. | | 2 |
| 9 | Маладзік | „ | 22 |
| 17 | Поўня | „ | 3 |
| 25 | Сход | „ | 5 |

Да 22 сьнежня дня ўбыло 30 мінут.

## Гістарычны календар на м-ц сьнежань.

1.1812. Дэкрэт Наполеона аб утварэньні Вялікага Кн. Літоўскага.

8.1432. Бітва пад Ашмяною Жыгімонта са Сьвідрыгайлам.

17.1884. Сьмерць поэты Дуніна-Марцінкевіча.

18.31.1917. Усебеларускі Зьезд у Менску.

19.1915. Нямецкі „Унівэрсал аб конфэдэрацыі Вял. Кн. Літоўскага".

## Беларускі народны календар.

Сьнежань зямлю грудзіць, хаты студзіць. Сьнежань год канчае, зіму пачынае. Сухі сьнежань — сухая вясна, сухое лета.

1 (С. с.). Навум розуму вучыць.

4. Барбара ночы ўрвала. На Барбару мароз — рыхтуй ужо воз.

6 (С. с.). Хвалі зіму па Міколе. Да Міколы дабра ніколі. Зімовы Мікола каня заганяе.

25. Прыйшлі Калядкі, гаспадаром парадкі. Калядкі добрыя сьвяткі: бліны ды аладкі. На Каляды мяцеліца — на пчолы ўраджай; неба зорнае — ураджай на гарох. На Каляды шарон — хлеба вагон. На Каляды вецер — летам шмат гарэхаў; неба зорнае — будуць грыбы й ягады. Па Калядах ясна — ясна й па Пятры.

31. Якая пагода перад Новым Годам — такая будзе й перад Пятром. Калі перад Васілём сьнег—добры ўраджай. Сьветлае неба на багатую куцьцю — вясёлы год.

## Зьмены надвор'я ў м-цы сьнежні 1937 г.

*(Паводле 100-годняга к-ра Бруса).*

1 — сьнег. 2 — дождж. 8 — ціха і сьцюдзена. 10 — адліга. 12 — вецер. 17 — хмарна. 21 — зьменнае надвор'е. 28 — харошая пагода. 29 — сьнег і заходні вецер.

# Важнейшыя юбілеі і ўгодкі ў 1937 г.

## Беларускія ўгодкі і юбілеі ў 1937 г.

У 1937 г. мінае гадоў:

10 ад 14—15.I.1927 г. — Ліквідацыя „Бел. Сялянска-Работніцкай Грамады“.

15 ад 15.XI. 1922 г. — Выбары ў I-шы польскі сойм і перамога беларусаў (выбрана было 12 паслоў і 3 сэнатараў). Арганізаваньне беларускага школьніцтва ў Латвіі. Заснаваньне ў Менску „Інстытуту Беларускай Культуры“. Сьмерць (†) Ядвігіна Ш. — беларускага пісьменьніка.

20 ад 1917 г. — Выхад першага нумару „Крыніцы“ (цяпер „Беларуская Крыніца“) (8 кастрычніка). Адчыненьне I-й сярэдняй беларускай школы ў Слуцку (4 верасьня). Стварэньне „Вялікай Беларускай Рады“ (у кастрычніку). Усебаларускі Зьезд у Менску (18—31 сьнежня). † Поэта Максім Багдановіч (12 красавіка).

25 ад 1912 г. — I-ы беларускі спэктакль у Вільні (25 лютага).

40 ад 1897 г. — † Поэта Ян Няслухоўскі.

60 ад 1877 г. — † Іван Насовіч — беларускі этнограф.

100 ад 1837 г. — Выхад I-шага зборніку беларускіх народных песьняў Яна Чачота. Пабудаваньне Ськірмунтам суконнай фабрыкі ў Парэччы на Піншчыне.

125 ад 1812 г. — Дэкрэт Наполеона I-а аб утварэньні Вялікага Княства Літоўскага (1 сьнежня).

350 ад 1587 г. — Надрукавана I-ая беларуская граматыка і I-ы беларускі календар.

800 ад 1137 г. — Стварэньне асобнай эпіскопіі ў Смаленску.

## Важнейшыя культурныя юбілеі і ўгодкі ў 1937 г.

У 1937 г. мінае гадоў:

10 ад 1927 г. — Пералёт Ліндбэрга на аэраплане цераз Атлянтыцкі акіян. Заснаваньне ў Нямеччыне I-й у сьвеце фабрыкі вырабу цукру з дзерава.

25 ад 1912 г. — Адкрыцьцё Амундсэнам паўднёвага полюсу зямлі.

40 ад 1897 г. — Вынаход Гэйльманам электрычнай лё-

комотывы. Вынаход Марконі'м і Паповым бяздротнага тэлеграфу. Фінзэн запачаткаваў лячэньне сьвятлом.

50 ад 1887 г. — Вынаход Годвінам кінэматографічнага фільму. Вынаход Лявалем паравой турбіны. Вынахад Бэрлінэрам грамафону. Заснаваньне ў Парыжы І-га ў сьвеце бюра працы.

75 ад 1862 г. — Вынаход Лёрдам рэгулятара для таўшчыні тканіны. Адкрыцьцё Німанам кокаіну да абязбольваньня апэрацыяў.

100 ад 1837 г.—Адкрыцьцё Флюрансам нэрвовага асяродка дыханьня. † Францускага прапагатара коопэрацыі Фур'е.

125 ад 1812 г. — Вынаход Кауфманам гармонікорду.

200 ад 1737 г. — Азначэньне Свамэрдамам плоці маткі пчол.

300 ад 1637 г. — У Вэнэцыі пабудаваны І-шы ў сьвеце опэрны тэатр.

## Важнейшыя палітычныя ўгодкі ў 1937 г.

У 1937 г. мінае гадоў:

25 ад 1912 г. — Абвешчаньне рэспублікі ў Кітаі і адрачэньне імпэратара ад пасады.

40 ад 1897 г. — І-шы ўсенародны перапіс у Расеі.

50 ад 1887 г. — Пачатак вайны Італіі з Абісыніяй і абвешчаньне протэкторату над ёю.

75 ад 1862 г. — Судовая рэформа ў Расеі.

125 ад 1812 г. — Пачатак асвабаджэнскае вайны Злуч. Штатаў П. Ам. з Англіяй. Паход Наполеона на Расею. Барадзінскі бой 26.VIII. Гібельная пераправа цераз Бярэзіну 26—29.XI.

300 ад 1637 г.—V-е паўстаньне казакоў проціў Польшчы.

400 ад 1537 г. Адкрыцьцё Чылі.

1200 ад 737 г. — Заваяваньне арабамі Авіньёна.

1300 ад 637 г. — Заваяваньне арабамі Ерузаліму.

1600 ад 337 г. — Сьмерць Канстантына Вялікага, рымскага імпэратара, прызнаўшага хрысьціянства дзяржаўнай рэлігіяй.

2000 ад 63 г. да Нар. Хр. — Заваяваньне рымлянамі Понтскага царства. Палестына пастаўлена ў залежнасьць ад Рыму.

2200 ад 263 г. да Нар. Хр. — Падаўленьне македонцамі паўстаньня ў Афінах.

# II | Беларусы | II

## Фізыка-географічны агляд.

Беларускі народ засяляе землі па верхніх цячэньнях Дняпра, Нёмана і Дзьвіны, паміж 51° і 57° паўночнае шырыні і 40° і 52° усходняе даўжыні ад Фэрро.

## Дзе жывуць беларусы.

Беларусы засяляюць гэткія землі: усю Магілёўшчыну і ўсю Меншчыну, бадай усю Горадзеншчыну, вялізарную большасьць Віцебшчыны і Віленшчыны, палавіну Смаленшчыны, а так-жа яшчэ большыя й меншыя часьці іншых сумежных зямель.

## Даўжыня этнографічных межаў.

З украінцамі — каля 1000 клм., з расейцамі — каля 900 клм., з ліцьвінамі — 400 клм., з палякамі — каля 250 клм. і з латышамі — каля 200 клм.

## Вялічыня прастору.

Даўжыня этнографічна-беларускіх зямель з усходу на захад каля 700 клм., шырыня з поўначы на поўдзень—каля 550 клм. Прастор — каля 300 тыс. квадратных кілёмэтраў; перавёўшы гэта на гэктары атрымаем каля 30 мільёнаў га. Па свайму прастору Беларусь стаіць на 11 месцы ў сьпісе эўрапэйскіх краёў (на 1-м — Расея), і амаль роўна Англіі (без калёніяў — 314 тыс. кв. клм.).

## Паверхня.

Вышыня паверхні Беларусі над роўнем акіяну — сярэдне 160 мэтраў. Сярэдняя вышыня ўзвышшаў—210—220 м.

нізін — 110 м. Найвышэйшы пункт — Лысая Гара, 338 м. Узвышшы ляжаць на захадзе і паўночным усходзе, нізіны — на паўдні і паўночным захадзе.

Найбольшае ўзвышша — Дзьвінскае Ўзгор'е. Найбольшае пласкае ўзвышша — Вокаўскі лес. Найвышэйшае ўзвышша — Сьвянцянска-Докшыцкае ўзвышша, вышыня каторага над роўнем мора даходзіць да 270 мэтраў.

## Найвышэйшыя пункты.

Лысая гара, 338 мэтраў,—на поўнач ад Менску. Сьвятая гара, 336 мэтраў,—на паўднёвы захад ад Менску. Замковая гара, 317 м., — у Наваградку. Гара каля Меднікаў, 289 м. Паганаўская гара, 287 м., — у Віцебшчыне.

## Найбольшыя нізіны.

Палеская — каля 80 тыс. кв. клм. прастору, цягнецца з усходу на захад больш як праз 500 клм., і Полацкая нізіна

## Клімат Беларусі.

Клімат Беларусі найбольш залежыць ад Атлянтыцкага акіяну і ўзімку ён больш контынэнтальны, улетку блізка акіянічны. Пачарзе пануюць у нас то акіянічнае заходняе надвор'е (вільготнае і лагоднае), то ўсходняе сухаземнае (сьцюдзёнае і сухое).

Вятры дзьмуць найбольш паўднёва-заходнія, заходнія і паўночна-заходнія, якія прыносяць з сабою ўлетку дождж і пахмурнае надвор'е, узімку сьнег і адлігу. Побач з гэтымі вятрамі, дзьмуць і ўсходнія, якія прыносяць яснае і сухое надвор'е ўлетку і вялікія маразы ўзімку. Бязветраныя дні на Беларусі здараюцца рэдка.

## Тэмпэратура паветра.

Сярэдняя гадавая тэмпэратура для ўсяго краю—+ 6°Ц. Сярэдняя гадавая тэмпэратура студня — — 6,5°Ц. Сярэдняя гадавая тэмпэратура ліпня — каля + 18,5°Ц.

Гадавая амплітуда (розьніца паміж тэмпэратурай зімы і лета) хістаецца ад 22° да 27,8°) — у сярэднім будзе каля 25° Ц.

Найцяплейшы куток — Берасьцейшчына: сярэдняя гадавая тэмпэратура + 7° Ц.

Найхаладнейшы—Смаленшчына: сярэдняя гадавая тэмпэратура + 5°Ц.

## Паветраныя вопадзі.

На Беларусі выпадае за год каля 550 мілімэтраў розных вопадзяў (дажджу, сьнегу, расы, туману), найбольш у Меншчыне — 600 мм., найменш у Палесьсі — менш 550 мм.

Найбольш вопадзяў у ліпні, найменш — у лютым.

**Поры году** (паводле мэтэоролёгічных зьявішчаў).

Прадвесьне пачынаецца каля 15—20 сакавіка, калі тэмпэратура паветра ўстанаўляецца вышэй 0°.

Вясна — больш-менш ад 5—10 красавіка, калі тэмпэратура паветра падыймаецца да + 5°.

Лета — ад пачатку чэрвеня, калі пачынае быць тэмпэратура вышэй + 15°.

Восень — ад пачатку верасьня, калі тэмпэратура паветра зьніжаецца да + 5°.

Позная восень — у кастрычніку, калі тэмпэратура ніжэй + 5°.

Зіма — з лістападу, калі тэмпэратура спадае ніжэй 0°.

## Найважнейшыя рэкі.

Дняпро — 2000 клм.; яго прытокі: Дзясна — 940 клм., Бярэзіна — 590 клм., Прыпяць — 600 клм. і Сож—555 клм.

Нёман — 825 клм.; ягоны прыток Вяльля—430 клм.

Дзьвіна — 920 клм.

Буг — на Беларусі 170 клм.

## Найбольшыя вазёры.

Нарач — каля 70 кв. клм., даўжыня больш 12, а шырыня да 10 клм. Асьвея — каля 50 кв. клм. Князь — каля 45 кв. клм. Дрысьвяты — 40 кв. клм. Лукомскае — каля 30 кв. клм.

Найглыбейшае возера — Дрысьвяты, больш 50 мэтраў.

Сваёю прыгожасьцю вызначаюцца вазёры: Сьвітэзь Баторын.

**Найбольшыя балоты** — на Палесьсі: Зарэчча, каля 1400 кв. клм., і Качайла, каля 1000 кв. клм.

## Расьціннасьць Беларусі.

Беларусь ляжыць у паясе мяшаных лясоў, якія займаюць каля 10 мільёнаў гэктараў прастору. Найбольш лясоў — на Палесьсі, на Вокаўскім Лесе і ў вярхоўях Дзьвіны ды Дняпра. Большую частку прастору займаюць мяшаныя лясы, у каторых найчасьцей спатыкаюцца дзеравы: елка, бяроза ды асіна.

Больш значнейшы прастор лесу — Белавежская пушча, перавышае 100 тыс. гэктараў прастору, і пушча Налібоцкая.

**Рэдкія расьціны.** Азалея, або турэцкі багун — у паўднёвым Палесьсі; ліннэя — у Віцебшчыне; мадрына (лістаўніца) і піхта — у Белавежскай пушчы.

## Фауна Беларусі.

Сярод жывёлаў Беларусі маем прадстаўнікоў некалькіх кліматычных паясоў, але з важнейшай рэдкай зьвярыны спатыкаецца:

Зубр — у Белавежскай пушчы, бобр — у Палесьсі, на паўночных прытоках Прыпяці і каля вусьця р. Сьвіслачы, тумак — у паўднёва-ўсходняй Беларусі, куна, мядзьведзь і рысь — у большых лясох.

Паміж птушак характэрныя тыя, што жывуць на вазёрах, балотах ды мокрых сенажацях.

У рэках і вазёрах Беларусі жыве больш 40 відаў рознае рыбы, рэдкімі прадстаўнікамі ёсьць: сялява, устынка, сея, сіг і ласось.

## Насяленьне Беларусі.

Паводле агульнага перапісу ў 1897 г. на Беларусі было 10½ мільёнаў чалавек. Пазьнейшыя падлічэньні выявілі, што насяленьне ў нас у сярэднім прырастае на 2 прац. у год. Карыстаючыся з гэтых цыфраў, падлічылі, што ў мамэнт пачатку сусьветнае вайны (1914 г.) на Беларусі жыло каля 14 з паловай мільёнаў чалавек. За час вайны Беларусь страціла каля 5 мільёнаў насяленьня.

Цяпер на Беларусі жыве каля 12 мільёнаў чалавек. Па ліку насяленьня Беларусь займае ў Эўропе 12-е месца (на першым — Расея). Гушчыня насяленьня—40 чал. на 1 кв. клм. Найгусьцей заселены: Наваградчына і Мсьціслаўшчына — 50.55 чал. на 1 кв. клм...

Натуральны прырост—20 чал. на тысячу (родзіцца 45 чал., умірае 25 чал.). Паводле прыросту насяленьня Беларусь — на 3-цім месцы (на 1-ым—Расея). Чым далей пасуваецца па Беларусі на ўсход, тым сьмяротнасьць насяленьня павялічваецца — на 100 чал. памірае: у Віцебшчыне — 22, у Меншчыне—26, у Смаленшчыне — 39. Найбольшы натуральны прырост маюць палескія паветы (асабліва — Мазырскі).

**Нацыянальны склад** насяленьня ў працэнтах: беларусаў — 77, жыдоў — 14, палякоў — 4, расейцаў — 4, іншых (немцаў, латышоў, ліцьвіноў, украінцаў, татараў) — 1.

**Рэлігійны склад** насяленьня ў працэнтах, на 1 сотню: праваслаўных — 63, каталікоў — 21, іншых хрысьціянаў — 1, жыдоў 14, іншых нехрысьціянскіх веравызнаньняў — 1.

## Гаспадарчая дзеяльнасьць.

Беларусь — краіна земляробская. На 100 чалавек працаўнікоў: у земляробстве — 73, у прамысловасьці — 9, у гандлі і комунікацыі — 7, іншых — 11. Найбольш земляробаў на ўсходзе Беларусі, найменш—у Горадзеншчыне (60).

**Ужыцьцё зямлі**, у мільёнах гэктараў: ворнае зямлі — каля 12, сенажацяў — каля 4, лясоў — каля 10, няўжыткаў — каля 4.

## Земляробская культура.

Пераважаючая сыстэма гаспадараваньня—трохпалёўка.

Найбольш ураджайныя краіны: Случчына і Наваградчына.

Найбольш сеюць: аўса—у Смаленшчыне, ячменю — у Віцебшчыне, бульбы — у Беласточчыне і Горадзеншчыне, грэчкі — у паўднёвай Беларусі, канапель — у паўднёва-ўсходняй Беларусі, лёну — у Смаленшчыне.

**Гародніцтва** найбольш разьвіта каля Магілёва, пад Гомлем, Навазыбкавам і Трокамі.

**Садоўніцтва** (прамысловае) разьвіта ў Рагачоўскім і Гомельскім паветах.

**Пчалярства** найбольш разьвіта ў Пінскім і Мазырскім паветах.

## Гадоўля скаціны.

У 1912 г. на 100 гэктараў ворнае зямлі выпадала: коняў — 22, кароў — 45, авечак і коз — 32, сьвіней — 24.

Найбольш пашырана гадоўля скаціны — у Меншчыне.

У абсалютных лічбах Беларусь мае мільёнаў штук: коняў — каля 2, кароў — 4,5, авечак і коз—3, сьвіней — 2,5.

Найбольш пашырана: гадоўля коняў—у Наваградчыне і Случчыне, кароў — у Меншчыне і Смаленшчыне, сьвіней — у Меншчыне і Віцебшчыне, авечак — у Смаленшчыне.

## Мінэральныя багацьці Беларусі.

Буры жалязьняк — у Віленшчыне й Меншчыне. Балотная жалезная руда — на Палесьсі. Вохра (на фарбу) — у Смаленшчыне і Мсьціслаўшчыне. Каменны вугаль — у паўночна-ўсходнім куце краю. Буры вугаль, горны воск і фасфарыты — ў Рослаўскім павеце. Лігніт — у Лідзкім пав. Торф — найбольш на Палесьсі. Крэйда і вапна — па ўсей Беларусі. Каолін — у Піншчыне. Мінэральныя крыніцы — найбольш у паўночнай Беларусі.

## З хатніх рамёслаў найбольш пашыраны.

Ткацтва — па ўсей Беларусі. Выраб глінянага судзьдзя — Наваградзкі павет (Ясянец), кахлі — Менскі пав., дахоўкі—Горадзеншчына. Стальмахоўства (сталярства)—у цэнтральнай Беларусі. Выраб малатарняў—Ракаў, жорнаў—Аршанскі і Сеньненскі пав., шапак і вайлакоў—Гомельскі і Чаускі пав.

**З галін фабрычнай прамысловасьці:** бравары—па ўсей Беларусі. Сыраварні — у Меншчыне і Смаленшчыне. Алейярні — у Смаленшчыне й Гомельшчыне. Пільні, смалярні—па ўсей Беларусі. Паперні — Дабруш, Чашнікі, Барысаў. Фабрыкі сернікаў — Пінск, Барысаў, Гомель. Ткацкія — Беласток, Клінцы, Ярцава. Табакі—Горадня, Пінск, Віцебск. Шкла — Талочын, Залесьсе. Мэталёвыя — Віцебшчына.

**Важнейшыя парты для Беларусі:** Рыга, Клайпэда, Кэнігсбэрг, Гданск — пры Балтыцкім моры і Хэрсон, Адэса і Мікалаеў — пры Чорным моры.

**Вадзяных дарог у** Беларусі — больш 12 тыс. клм. Найважнейшыя рачныя прыстані: Гомель, Пінск, Магілёў, Віцебск.

Судаходных каналаў 4: Бярэзінскі, Агінскі, Каралеўскі і Аўгустоўскі.

**Даўжыня ўсіх** чыгунак на Беларусі—больш 7 тыс. клм.

**Даўжыня шосаў** — каля $4^1/_2$ тыс. кілёмэтраў. Найбольш — у Горадзеншчыне.

**Гарадоў** на Беларусі — каля 70, мястэчкаў — больш 500; жыве ў іх каля 25 прац. усяго насяленьня.

Найбольшыя гарады: Дзьвінск, Менск, Віцебск, Беласток, Горадня, Смаленск, Гомель.

## Галоўныя мамэнты з гісторыі Беларусі.

Паводле першага летапісу ў IX веку на Беларускай зямлі жылі тры славянскія пляменьні: крывічы, дрыгвічы і радзімічы.

Крывічы займалі паўночную Беларусь. Летапіс IX веку называе іхнія гарады: Полацак, Віцебск, Менск, Смаленск, Лагойск.

Дрыгвічы займалі Прыпяцкае Палесьсе і Наднёманскі край. Іхнімі найвялікшымі гарадамі былі: Тураў, Мазыр, Берасьце, Драгічын, Горадня, Слуцак.

Радзімічы займалі ўвесь край паміж Дняпром і Дзясною.

Гэтыя тры пляменьні ня розьніліся паміж сабою ані мовою, ані правам сваім, ані рэлігіяй, але гэтымі азнакамі

розьніліся ад пляменьняў, якія сталіся асновай Расейскага і Украінскага народаў.

Беларускія пляменьні гісторыя знаходзіць ужо з сваімі князямі, з пачаткам дзяржаўнае арганізацыі. У IX і X вякох сярод беларускіх пляменьняў пачынаецца працэс тварэньня моцных і вялікіх дзяржаваў.

На першы плян тут высоўваецца Полацак. Полацкія князі загарнулі пад сябе ўсю паўночна-заходнюю Беларусь. Побач з Полацкам умацаваўся Смаленск, пашырыўшы свае межы далёка на ўсход.

Але прыйшоў час больш поўнага і шырокага злучэньня беларускіх пляменьняў і земляў. Літоўскі князь Міндоўг у сярэдзіне XIII в. заснаваў новую дзяржаву, Літоўска-Беларускую, якая ўжо пры ім абняла вялікшую частку Беларускае зямлі. Гэдымін (1315—1340 г.) умацаваў Беларуска-Літоўскую дзяржаву і давёў яе межы аж да Смаленшчыны й Чарнігаўшчыны. Вітаўт (1392—1430 г.) забраў і Смаленск.

Каля 100 гадоў жыла Беларусь злучанаю. Аж у пачатку XVI в. Расея адрэзала ад Беларусі Смаленшчыну, паўночную і ўсходнюю Віцебшчыну, Гомельшчыну і Чарнігаўшчыну. Расея добра ўмацавалася і доўга не маглі Вялікія Князі Літоўскія адабраць ад яе гэтых земляў. Наадварот, расейцы ня раз пераходзілі з агнём і мячом цераз усю Беларусь, з канца ў канец, а ў забранай частцы пазаводзілі свае расейскія парадкі, папасялялі расейскіх людзей, а тамашніх беларусаў масамі высялялі ў Расею.

У 1569 г. Літоўска-Беларуская дзяржава злучылася ў фэдэрацыю з Польшчай.

Цяпер ужо Літва (Беларусь) адабрала назад тое, што заваявалі расейцы. Але йзноў нядоўга цешылася з гэтага. Пасьля цяжкіх войнаў з расейцамі, па Андрусаўскаму міру (1667 г.) Расея йзноў адабрала Смаленшчыну і Чарнігаўшчыну.

У гэткім стане Беларусь аставалася аж да разьдзелаў Польшчы. Па першым разьдзеле (1772 г.) Расея забрала паўночную і ўсходнюю Беларусь. Па другім разьдзеле (1793 г.) да Расеі адыйшла Меншчына, а па 3-м разьдзеле (1795 г.) да Расеі адыйшла рэшта Беларусі, апрача Беласточчыны. Беласточчына была прылучана да Расеі ў 1807 г.

Гэткім парадкам у 1807 г. уся Беларусь апынулася пад Расеяй і гэтак было ажно да Вялікай Сусьветнай вайны.

Па вайне заходнія часьці беларускіх этнаграфічных зямель на падставе Рыскага дагавору ў 1921 г. адыйшлі да Польшчы, частка да Латвіі, а з большасьці беларускіх зямель на ўсходзе створана Беларуская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка з сталіцай Менскам.

Мяжа Вял. Літоўскага Княства—гэта мяжа Беларусі, дзеля таго, што фактычна гэта была дзяржава беларуская— з беларускаю культураю, моваю, законамі. На захадзе Вялікае Княства Літоўскае межавалася з Польшчаю, або Каронаю, па лініі Граева-Візна-Драгічын-Бела. Пазьней, хоць літоўская дзяржава злучылася ў фэдэрацыю з Польшчай, але юрыдычна ўвесь час лічылася самастойным гаспадарствам. На Люблінскай вуніі была замацавана мяжа паміж Польшчаю й Літвою-Беларусьсю. Яна йшла па паўднёвых межах быўшых Менскай і Горадзенскай губэрніяў і далей на Белу, Мельнік і Аўгустоў.

---

# III Сельская гаспадарка III

Інж. А. Клімовіч.

## Агульны агляд гаспадаркі.

### Вясна.

Абгледзіць усю гаспадарскую снасьць, а перадусім плугі, бароны, культыватары. Хто ня мае валачыла, хай чымхутчэй на яго ўздабудзецца. Час ужо выпрацаваць падробны плян сяўбовы і гнойны: што, дзе і колькі пасеяць? Колькі на гэта трэба сяўбы, колькі ўгнаеньня, колькі ўсяго гэтага ёсьць у гаспадарцы і колькі трэба прыкупіць? Мімаходам трэба зазначыць, што больш трэба сеяць расьцін стручковых і асабліва варыва.

Трэба сьлядзіць за сходам сьнегу з палёў. Дзе сьнегу шмат — у лагчынах, пад адкосамі — там трэба яго ўсякімі магчымымі спосабамі зварушыць, каб на яго лепш дзеяла сонца і вецер.

Прыгатаўляць трэба сяўбовае насеньне, старанна яго вычышчаючы: пры большай колькасьці на арфах і трыерах, а пры меншай — хоць-бы на звычайным рэшаце: усё недаразьвітае і глухое насеньне, пры выкружываньні на рэшаце, зьбіраецца ўсярэдзіне і стуль яго трэба толькі выбіраць. Апрача таго трэба мець пэўнасьць, што насеньне ёсьць вольным ад зародкаў розных хваробаў, дзеля чаго найлепш праводзіць г. зв. байцаваньне (заморываньне хваробывых зародкаў).

Пры веснавым абрабляньні глебы трэба ўзяць за правіла, каб ня ўжываць плуга. Мусіць хапіць валачыла, бараны і спранжыноўкі. Плуг можа быць ужытым толькі на пакрываньне гною. Першай снасьцяй пад сяўбу ярыны мусіць быць валачыла, якое раўнуе зямлю, разьбівае грудкі і пабуджае да прарастаньня насеньне рознага шкоднага зельля. Калі-ж гэтае зельле прарасьце і абыйдзе — ісьці з бараной, якая яго вырывае і нішча.

Ня сьцягіваць з сяўбой — чым раней, тым лепш, абы толькі абсыханьне зямлі было здавольваючым. На сухіх грунтох пачынаць веснавыя засевы трэба ўсейваньнем у жыта белай качюшыны і сэрадэлі. На цяжэйшых грунтох

гэтае ўсейваньне радзіцца рабіць пазьней, бо тут няма ніякай небясьпекі змарнаваньня зімовай вільгаці. Як толькі прасохне зямля, сеяць ня толькі стручкова-матыльковыя расьліны (апрача лубіну, які баіцца прымаразкаў), каласістыя збажжавіны (авёс, ячмень), але й акопніны (бульбу, буракі).

Засеваў ня можна пакідаць без дагляду, а ў першую чаргу трэба перашкодзіць тварэньню на глебе скарынкі, якая можа задушыць пасевы, ці то яшчэ зусім не абыйшоўшыя, ці толькі што праросшыя. Да ламаньня скарынкі ўжываецца вострая лёгкая барана — калі пасевы ўжо абыйшлі — або валак, калі пасевы йшчэ не абыйшлі. Лёгкая вострая барана ўжываецца таксама для нішчэньня сьвірэпкі ў ярыне, для баранаваньня чырвонай канюшыны і сенажацяў.

Хлявы з сярэдзіны трэба старанна вычысьціць і пабяліць вапнай. Веснавыя парасяты надаюцца на гадоўлю. Коні вясной цяжка працуюць, дык добра іх трэба карміць і старанна даглядаць.

У садох трэба садзіць больш усякіх ягадных кустоў і вытрымалыя сарты фруктовых дрэваў, напр. яблыкі Антонаўкі.

## Лета.

Пачатак лета (чэрвень) мусіць дакончыць спозьненую сяўбу і садзьбу (лён, бульба й інш.). Усё-ж засеенае й засаджанае мусіць быць дагледжана; пеліва ніколі ня можа быць за шмат.

Бульбу трэба ў час аборываць, а бурак гакаваць. Ня сьцягіваць з працай у папары, каб пасьля магчы ў час пайсьці на сенакос і жніво. Поле, пакінутае на папар, трэба цяпер мелка ўзараць (падлушчыць) і зараз-жа валаваць валам і баранаваць. Валаваньне і баранаваньне можна і трэба адлажыць, калі-б зямля была мокрай: трэба тады пачакаць, пакуль высахне. Цяпер таксама месца й пара праводзіць у папары вапнаваньне закіслых грунтоў, якія прад тым аднак мусяць быць асушаны ад надбыткаў вады. Грунты ў добрай культуры (добра пагноеныя й абробленыя) пакідаць пад папар нельга, бо гэта прыносіць страту.

Зараз-жа па працы ў папары прыходзіць сенакос. Усе добрыя гаспадары цьвердзяць, што сенакос мусіць быць да Купальля (24 чэрвеня) скончаны.

На змаганьне з шкодным зельлем мусіць быць зьвернута асаблівая ўвага. Папар мусіць заўсёды ляжаць чорным, г. зн., што ніколі ня сьмее на ім зелянець і цьвісьці рознае пустазельле. Ад арбы да арбы выбароныраць яго больш аднаго разу. Баранаваць бульбу і матыкаваць буракі і морх-

ву трэба перш, чымся заселянее ад абыйшоўшага зельля. Яравыя засевы (авёс, ячмень), калі ў іх няма ўсеенай сэрадэлі або канюшыны, трэба вострай лёгкай бараной забаранаваць, пакуль рунь яшчэ малая — ярыне гэта паможа, а зельле выцягнецца наверх і засохне.

У міжчасе дасьпявае ў полі азіміна й ярына. Прыгатаваць сярпы і косы. Жаць жыта трэба пачынаць, як толькі ягонае зерне ломіцца праз пазногаць У часе жніва сьцерагчыся піць сырую сьцюдзёную ваду: лепш, здаравей і бесьпячней ужываць хлебны квас. Коняў сьцерагчы трэба ад зьяданьня жытніх каласоў. Карміць каня жытам можна толькі ў патрэбе (пры нястачы аўса), ды й то даецца жыта мочанае. Сушыць пажатае, або пакошанае збожжа трэба старанна, асабліва жыта пажатае нізка з травою; ячмень мусіць „выпаціцца". На неўзараным аржышчы ёсьць шмат высыпанага збожжа, а на ўзараным — розных жукоў і рабакоў: на ўсё гэта трэба прывозіць ці прыносіць у поле курэй.

Пакошанае або пажатае збожжа трэба зараз-жа саставіць радамі ў копкі, а аржышча, калі ў яго з вясны нічога ня было ўсеена, пагнаіць каінітам, мелка узараць і засеяць аржышчанай рэпай (на лягчэйшых перагноях) або матылькковымі расьлінамі. Засевы пры нармальна сухой глебе валуюцца цяжкім гладкім валам. Зьлітыя і ссохлыя пасьля навальніцы глебы трэба пры акопнінах (бульба, бурак) узорываць, а пры каласістых збажжавінах — баранаваць або валаваць.

Ад паловы м-ца жніўня (Аспажа) трэба мяшаць пад азіміны. Гнаіць хляўным гноем можна толькі ў разе канешнай патрэбы. Гной пры гэтым мусіць быць перапрэўшы і дробненька рукамі растрэсены. Адначасна трэба прыгатаўляць (малаціць, чысьціць, байцаваць) насеньне на засевы азімін. У гэтым-жа часе (каля 15—VIII) сеецца азімая касматая віка, якая ёсьць вельмі добрым ранна-веснавым кормам для скаціны.

Дойнай карове не шкадаваць „дадаткай": добрай зялёнай травы, вотрубаў, а для цялят — аўса. Усю жывёліну трэба сьцерагчы ад дакучлівых мухаў, якія й заразу разносяць: хлявы чысьціць, ветрыць і бяліць вапнай.

Запас яяк, якія ўлетку бываюць таннымі, трэба кансэрваваць на зіму ў вапеннай вадзе або у г. зв. вадзяным шкле. Садовыя фрукты й ягады трэба таксама цяпер сушыць або перарабляць на мармаляду і канфітуры: каштуе гэта цяпер малы грош, а рэч вельмі добрая.

## Восень.

Сяўба азімінаў ёсьць найважнейшай васеньняй працай у полі. Нельга толькі з ёю сьцягаваць і да канца верасьня сяўбу трэба скончыць.

Усьлед за сяўбой азіміны прыходзіць капаньне бульбы і іншых акопнінаў. Уважнае перабіраньне выкапанай бульбы зразу ж на полі ёсьць варункам добрага перахаваньня яе праз зіму. Выкапаўшы бульбу, з поля трэба выбраць усё, што толькі на ім па бульбе асталося — гнілыя й папсутыя бульбіны, бульбоўнік і ўсякае нaціва. Усё гэта найлепш спаліць, а попел — скампаставаць.

Як бульбянішча, так і бурачанішча і асабліва аржышча па азімых і яравых збажжавінах мусяць быць на зіму глыбака пераараны і пакінуты на мароз у вострай баразьне (незабаранаванымі). Трэба толькі запэўніць на ўсіх палёх і сенажацях добры адплыў для васеньняй і веснавой водаў, каб не тварыліся шкодныя затопы. Цяпер так-жа час капаць равы, для асушываньня палёў, сенажацяў і пасьбішчаў.

Закісшыя ад надбытку вогкасьці мясцы, перадусім асушыўшы іх, увосені так-жа найлепш звапнаваць. На гэктар лягчэйшых грунтоў навозяць 10—15 цэнтнараў (60—90 пудоў) паленай вапны; на цяжэйшыя грунты (гліна, глей) даюць на гэктар 20 - 25 цэнтнараў (120—150 пудоў). Вапну развозяць па полі і або рассыпаюць малымі кучкамі, прыкрываючы іх шчыльна зямлёй на 2—3 тыдні, каб вапна адгасілася сама і пасьля яе роўна растрасаюць па полі і прыкрываюць — або вапну проста з ваза насыпаюць у кошыкі, затапляюць у вадзе (гасяць) і, рассыпаўшы па полі, перамешваюць з глебай. Сенажаці найлепш пагнаіць каінітам і тамасшляком (тамасынай) і забаранаваць.

Зьдзічэўшыя сенажаці, а нават і дзірваны, калі толькі яны не на сыпучым пяску, увосені даюцца адмаладзіць. Іх трэба перадусім выкарчаваць з розных кустоў, мурашнікі, кратавіньне пазраўняць і ўсё на зіму глыбака перааараць. Вясной такое поле добра выбаранаваць і сеяць: у першым годзе авёс або грэчку, на другі — бульбу, а па ёй ячмень з канюшынай, або самая толькі многалетняя мешанка канюшыны з кармавымі травамі.

Увосені трэба вывезьці і заараць гной пад бульбу. Заараць пад ярыну лубін і сэрадэлю.

У садзе за суха зьбіраць фрукты, але не трасьці й не абіваць, але зрываць рукамі. Старыя фруктовыя дрэвы ўвосені можна адмаладзіць, скарачваючы бязплодныя старыя галіны. Толькі нельга за адзін раз абцінаць усіх галін, а разлажыць гэту працу на 2—3 гады. Зямлю ўвакол дрэваў — як шырока сягаюць галіны кароны — ускапаць і пагнаіць. На тым-жа орасторы ад пнёў вострымі калкамі робяцца ў зямлі дзіркі, у каторыя заліваецца гнаёўка (цеча з-пад гною). Маладыя дрэўцы забясьпечыць ад зайцоў. Капаць ямы для веснавога засаджваньня ўшчэпаў.

У гародзе, як на бульбянішчах, трэба пазьбіраць усе рэштکі па гародніне і або іх скарміць, або спаліць і скампаставаць. Самую зямлю трэба на зіму глыбака пераараць або перакапаць.

Свойскую жывёлу трэба ў час прывучыць да сухога корму ў хляве. Пасьвіць трэба як найдаўжэй, але з засьцярогай, што ня будзе пасьвіцца ані на размокшых сенажацях, ані на абмарожаных канюшынішчах. Старанна трэба прыгатаваць хлявы на зімаваньне жывёлы: трэба іх абгледзіць, каб былі цёплымі і пабяліць вапнай.

У час трэба разрахаваць запасы корму для жывёлы, а яе старанна чысьціць. З канцом лістапада трэба пакрываць сьвіней, каб раньняй вясной (за 120 дзён), мець парасят.

Нельга так-жа забывацца і аб собскай хаце. Трэба абгледзіць вокны, дзьверы, печы, коміны і стрэхі. На ўсякі выпадак трэба абзапасіца пяском і вапнай. Запас дроў на зіму нікому яшчэ не зашкодзіў.

## Зіма.

Пакуль ня зьмерзьне ў груду зямля, трэба дакончыць прыводзіць у парадак усе асушаючыя равы на палёх і сенажацях. Так-жа з усюль пазьбіраць каменьне, а сенажаці павыкарчоўваць з усялякіх кустоў. Цяпер таксама час навазіць на лёгкія пяшчаныя грунты гліны і напраўляць дарогі. Каб унікнуць вялікай груды на дарогах, радзяць дарогі гэтыя прад спадзяваным марозам разбаранаваць вострымі баронамі.

Дальшай справай ёсьць падбаць аб акуратны перагляд летняй гаспадарскай снасьці: што надапсута — паправіць. Усе жалезныя часьці гаспадарскіх прыладаў трэба дасуха выцерці і пасьля намазаць якой-небудзь клустасьцяй, або газай (карасінай). Заржаўленыя часьці вычысьціць ад ржаўчыны — на гэта радзяць ужываць мешанкі крэйды (або стэарыну) з карасінай.

Вальнейшы час у зімовыя вечары выкарыстаць на чытаньне разумных кніжак і газэт, як земляробска-фаховых, так і агульна-асьветных.

У хляве ўзімку шмат-шмат чаго ёсьць пазнаць і дапоўніць. Дагляд цельных кароў, як і самога і цяленьня, мусіць быць сумленным. Цельную карову нельга паіць сьцюдзёна-лядовай вадой; па цяленьні карова мусіць шчысьціцца, а ад цяляці нельга адкрадаць малозіва.

Цялё на племя радзяць пускаць найлепш з тых, што нарадзіліся ў м-цы студні.

Побач з кормам жывёлы, узімку вялікае значэньне мае і дагляд: жывёла штодзень мусіць пабываць на вольным паветры і ўжыць руху.

Вельмі чулыя на мароз бываюць куры. Пабялеўшыя ад марозу, або і прад самым яшчэ марозам курыныя грабяні трэба намазаць нясоленай клустасьцяй. Удзень трэба даваць курам бульбу з абмешкай, а ўвечары зярняты, бо яны праз ноч „грэюць". „Прысмакам", пабуджаючым аднačасна курыцу нясьціся, ёсьць жменя сагрэтай капусты.

Дрэва на будову трэба пілаваць каля Новага Году, бо толькі такое дрэва ўважаецца за найбольш трывалкае.

Садовыя дрэвы ўжо ў лютым трэба пабяліць вапнай. З дрэваў трэба паздымаць усё старое лісьцё і заматаныя ў павучыну гнёзды розных шкоднікаў ня толькі садоўніцтва, але наагул земляробства і ўсё гэта старанна спаліць.

Чым бліжэй пад вясну, тым уважней трэба глядзець на польныя засевы, каб яны ня душыліся ані пад зьледавацелаю скарынкаю сьнегу, ані пад вадой, — ледзяную скарынку трэба ўсякім спосабам крышыць, а ваду спускаць.

---

## Дагляд над земляробскімі прыладамі і снасьцяй.

**Упраж,** каторая за даўжэйшы час сьцьвярдзела і стала ломкаю, трэба ачысьціць ад пылу і старога шмару, вымыць яе ў летняй вадзе з мылам, пасьля выцерці сухою анучачкаю і высушыць. Калі высахла — нашмараваць несалёнаю клустасьцяй (аліваю, маслам, шмальцам, транам). Клустасьці да шмараваньня ўпражы павінны быць сьвежымі, няёлкімі, а ўжываць іх у цёплым стане, нагрэтымі, бо тады толькі яны лёгка і глыбака праходзяць у скуру. Шмары ўціраць у скуру моцна і ня звонку, а сысподу, ад боку мяздры. Звонку ўпраж шмаруецца толькі нагэтулькі, каб адчувалася пад пальцам, што яна стала вільготнай. Усе мэталёвыя часткі ўпражы ачысьціць ад іржы парашком цэглы, або пяском, павыціраць анучачкаю і потым нацерці шмарам. Шмараваць упраж трэба пад вечар, каб яна магла да раніцы высахнуць; нявысахшай ад шмару упражы ніколі ня можна накладаць на каня. Шмараваць упраж тым шмарам, які ўжываецца да колаў, ня можна, бо ў ёй ёсьць шмат вапны, каторая „паліць" скуру.

**Воз.** Найлепей захоўвае дзерава пакост, каторы ня толькі ўваходзіць у дзерава, але і зьверху творыць моцную клустую павалочку — яна то й не дапускае ў дзерава вільгаці. Мазаць дзеравяныя часьці возу карбалінэумам або дзёгцем ня можна. Але перад тым, як пацягнуць воз пакостам, ён павінен быць ачышчаны ад балота і гразі, вы-

мыты і высушаны. Мэталёвыя часткі возу, як новыя, так і старыя, старанна ачышчаныя ад іржы, пакрываць жалезным лякерам. Тыя мэталёвыя часткі, каторыя стала трушча адна аб другую (восі, буксы), павінны шмаравацца калёснаю мазьзю. Воз вымагае сталага дагляду і апекі, дзеля таго хоць раз на тры месяцы павінен быць ачышчаны ад балота і добра агледжаны. Аглядаючы воз, трэба: шпары і трэшчыны — закітоўваць, шрубы — дацягіваць, выстаўшыя цьвякі — загінаць, паломаныя часткі — замяняць новымі, што разышлося — дацягнуць і сьціснуць. Воз павінен заўсёды стаяць у ценю, пад страхою, а не адкрыта — на сіве-ры і пад праменьнямі сонца.

**Плуг, барана і іншыя прылады,** як лапаты, косы, граблі, матыкі інш. штодзень па ўжываньні павінны ачышчацца ад балота і гразі. На зіму найлепш ачысьціць, нашмараваць несалёнаю й няёлкаю клустасьцяй і схаваць у сухім мейсцы. Плуг і барану перахоўваць пад страхою.

**Земляробскія машыны** — арфы, малатарні, сячкарні — павінны быць заўсёды чыстымі. Дзеравяныя часткі землярабскіх машын трэба маляваць алейнаю фарбаю, перад гэтым закітаваўшы ўсе шпары. Часткі мэталёвыя перад маляваньнем трэба добра вычысьціць, загрунтаваць мініяй з пакостам, а потым маляваць. Часта спраўджаць „ход" машын і дакручываць шрубы — не дапускаць „люзаў."

---

# Увагі аб гнаёх.

## Які пожыў выцягіваюць расьціны з зямлі.

Жыта, авёс, грэчка — *азот,* пшаніца —*азот,* фосфар; ячмень — *азот,* калі, фосфар; сэрадэля — *калі,* фосфар, вапну; лубін — *калі*; бульба — *азот, калі;* лён і каноплі— *азот, калі;* буракі — *азот, фосфар,* калі, вапну; гарох, віка, канюшына — *вапну, фосфар, калі.*

## Г н о й.

Гной (хляўны) мае ў сабе ўвесь пожыў, патрэбны для жыцьця расьцін, — азот, фосфар, калі і вапну.

Азоту амаль пораўну ў кале і мачы. Азот, што ў мачы, для гаспадара мае больш вартасьці, бо там ён распушчаны і расьціны яго лёгка ўсмоктываюць. Азот, што ў кале, мусіць раней разлажыцца ў глебе, а тады ўжо становіцца даступным для расьцін.

Фосфар амаль увесь знаходзіцца ў кале, і тольні ў мачы сьвіней ён ёсьць у большай колькасьці.

Паташ (калі) амаль увесь у мачы, а ў кале яго зусім мала.

Дык, знача, калі будзе зьмешаны кал з мачою, тады толькі атрымаем поўны (натуральны) гной. Чым гной сушэйшы, тым скарэй сagraвaeцца, таму конскі гной — гарачы, а сьвінскі — халодны.

Гной у зямлі выдзяляе шмат газаў, каторыя прысьпяшаюць выветрываньне глебы і памагаюць пераходу розных спажыўных матэрыяў у форму, даступную для расьцін.

## Колькі можа даць гною жывёла.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Карова ў хляве | за год | — 18 | вазоў | параконных |
| " " | " зіму | — 12 | " | " |
| Конь " " | " год | — 9—14 | " | " |
| Авечка " " | " " | — 1 | " | " |
| Сьвіньня " " | " " | — 2—3 | " | " |

Гною ад каровы за год хопе на чверць гэктара зямлі.

## Сьцёлка.

Цеклая частка гною вельмі цэнная, таму трэба старацца, каб яна не марнавалася. Як найбольш трэба даваць на сьцёлку сухой саломы, бо яна больш паглынае цечы. Таму й радзіцца сьцёлку сячы на доўгую сечку, каб яна болей затрымлівала цечы.

Паглынае:

| | | |
|---|---|---|
| 100 кл. саломы цэлай | — 220 | літраў цечы |
| " " " пацятай на сечку (10—25 см. даўжыні) | — 250—300 л. | " |
| 100 кл. сьцёлкі тарфяной | 400—900 л. | " |
| " " лісьця | —да 400 л. | " |
| " " моху | — 200—250 л. | " |

З'ужывае сьцёлкі ў дзень:

| | | |
|---|---|---|
| Конь | — 2 4 клгр. | саломы |
| Карова | — 3—6 " | " |
| Авечка | — $1/4$—$1/2$ " | " |
| Сьвіньня | — $1\,1/2$—4 " | " |

## Як перахоўваць гной.

Гной трэба трымаць моцна зьбітым, каб не даходзіла паветра, якое выклікае хуткі расклад гною—«гной прэе, гарыць.» Чым балей зьбіты гной, тым больш ён паглынае гнаёўкі, жыжкі, і робіцца багацейшым на спажыўныя часткі для расьцін.

Вільгаць гною павінна быць мерная — трэба сьцерагчы яго, як ад дзеяньня ветру, так і ад сонечных праменьняў, а так жа і ад дажджоў, якія выпаласківаюць спажыўныя часткі яго. Дзеля гэтага ў хлеў не павінна зацякаць вада, а дно хлява павінна быць непрапускальным.

Вывезены ў поле гной зараз павінен быць разьбіты і заараны, а гэта таму, каб не дапусьціць страты азоту, які ў форме амоньяку вытыхаецца ў паветра. Калі ня можна зараз разьбіць гной, дык трэба яго на полі складаць у вялікія кучы і моцна зьбіваць. Кучы прыкрываць зямлёю, або торфам, а зімою — сьнегам, і зьбіваць.

Вельмі шкодна пакідаць гной у малых кучках — трацішча шмат азоту, а дажджы вымываюць іншыя спажыўныя часткі, і ўрэшце ад гною астаецца толькі бязвартасная салома.

## Абэцэда штучных гнаёў.

Штучныя гнаі служаць для дапаўненьня натуральных, вытвараных у самой гаспадарцы. У гнаёх натуральных, хоць у малой частцы, але ёсьць усе складовыя кармовыя часткі, патрэбныя для расьцін: азот, фосфар, калі (паташ) і вапна. У штучных-жа гнаёх з пералічаных складовых частак знаходзіцца толькі адна, часам дзьве. Залежна ад гэтага, штучныя гнаі бываюць: азотныя,фосфарныя, калійныя (паташавыя) і вапенныя. Лік, ці лепш форма, у якой штучныя гнаі спатыкаюцца ў продажы, ёсьць неаграніччаны і штораз павялічываецца.

Найбольш распаўсюджаны гэткія штучныя гнаі:

1) азотныя: чылійская салетра, азотняк, серкаамонная соль (сярчанік амону) „Нітрофос“ (азотна-фосфарны гной).

2) фосфарныя: супэрфасфат, тамасшляк (тамасына), супэртомасына.

3) калійныя (паташавьʼя): калійная (паташавая) соль, каініт.

4) вапенныя: вапна.

Кожны гатунак з названых гнаёў мае сваё празначэньне: з азотных гнаёў расьціна будуе сваё „зялёнае расьціннае мяса,“ фосфарныя гнаі сьпеляць расьціну, паташавыя — памагаюць расьціне ў працы пры вытвараньні крахмалу, вапенныя — даюць расьціне шкялет.

Хоць кожны з пералічаных штучных гнаёў можа быць ужыты на кожнай глебе, аднак-жа практыка паказала, што найлепш іх ужываць у залежнасьці ад характару глебы — цяжкай ці лёгкай. І так ужываюцца:

| на лёгкіх глебах | на цяжкіх глебах |
| --- | --- |
| азотныя: | |
| азотняк | салетра |
| фосфарныя: | |
| тамасшляк (тамасына) | супэрфасфат |
| калійныя: | |
| каініт | калійная соль. |

Вапенны-я гнаі ўжываюцца на кожную глебу, якая патрабуе вапны (дзе растуць усякія кіслыя травы, ак асака, шчаўё, кукаль ды інш.).

Пад збажавіны трэба дадаваць штучных гнаёў азотных і фосфарных, а пад акопніны — перадусім калійных і азотных. Высяваюцца штучныя гнаі або паасобку, або зьмешаныя разам. Мяшаць аднак нельга: 1) супэрфосфату з азотняком, вапняковай салетрай, тамасшлякам і вапнай; 2) серкаамоннай солі з азотняком, вапняковай салетрай і вапнай; 3) тамасшляку—з серкаамоннай сольлю, амоннай салетрай і супэрфосфатам. Толькі каініт, калійную соль і чылійскую салетру можна прад пасевам мяшаць з кожным іншым штучным угнаеньнем. Пры высейваньні штучных гнаёў трэба мяркаваць, каб час быў бязветраны, а пры гнаеньні „на ліст" — і сухі, без расы і дажджу. Кожны штучны гной мусіць быць перамешаны з глебай (прыбаранаваны). Некаторыя гнаі даюцца надоўга перад сяўбой збажыны, напр. каініт даецца на вясну, як толькі сойдзе сьнег. Падобна і тамасшляк. Іншыя-ж, як азотняк, даюцца за тыдзень перад сяўбой, або прад самай сяўбой (супэрфасфат і чылійская салетра), ці ўрэшце ўзышоўшым ужо збожжы (чылійская салетра, азотняк і „Нітрофос").

Купляюцца і цэняцца штучныя гнаі паводле працэнту самых гнойных сваіх частак. Ад вільгаці штучныя гнаі зьбіваюцца ў каменьні, таму іх трэба перахоўваць у сухіх мясцох, але купляць штучныя гнаі «на запас" ніколі ня варта.

Урэшце трэба зацеміць, што штуччыя гнаі прыносяць карысьць толькі на грунтах добра вырабленых, а галоўнае — асушаных ад надмернай вільгаці.

# Аб удабрэньні расьцін штучнымі гнаямі.

Азіміна, каторая вышла з-пад сьнегу аслабленай, разрэджанай павінна атрымаць: на лёгкіх грунтох чылійскай салетры каля 100 кл. на гэктар, а на цяжкіх або для хуткага ратаваньня на лёгкіх — калійнай салетры каля 100 кг. на га. Салетраваць азіміны трэба раньняй вясной.

Ярыну на глiністых глебах і кіславатых найлепш падсіляць 24 прац. азотняком (60—100 кл. на га). Рассыпаць

азотняк на пару дзён перад сяўбой. На глебах сушэйшых і вапенных замест азотняку лепш ужываць серкаамонную соль (70—100 кл. на га). Апрача гэтага ярыну, асабліва ячмень, трэба падсіліць 30 прац. супэртамасынаю (100—200 кл. на га).

Буракі цукровыя і кармовыя вымагаюць шмат гною. Калі яны пасеены на гнаі, то перад сяўбою яшчэ досыць даць каля 50 кл. на га азотняку, а па прарываньні падсіліць калійнаю салетраю (каля 80 кл. на га).

Бульбу, калі садзіцца бяз гною, трэба падсіляць 24 прац. азотняком (100 кл. на га), 30 прац. супэртамасынаю (100 кл. на га) і калійнаю сольлю (250 кл. на га). — Зьмешаныя паміж сабою парашкі высяваць за некалькі дзён перад саджэньнем бульбы.

Азіміны на восень павінны атрымаць на гэктар: 50—80 кл. азотняку і 70—100 кл. супэртамасыны.

Лугі і пасьбішчы найлепш падсіляць познаю восеньню. На 1 гэктар даецца: 70 кл. азотняку, 150 кл. супэртамасыны і 400 кл. каініту. Зьмешаныя парашкі высяваюцца на луг, перад гэтым пабаранаваны, а па сяўбе яшчэ раз барануецца.

### Азнакі нястачы корму ў расьціи.

**Нястача азоту.** Лісьцё набірае *ясна-зялёнай ахварбоўкі*, амаль *жоўтае*. Калі лісьцё засыхае — колер гэты пераходзіць у жоўты або ясна-руды; вярхоўкі робяцца чырванавымі.

**Нястача фосфару**. Лісьцё набірае *нябесна-зялёнай ахварбоўкі*, на берагох творацца чорныя плямы. Засыхаючы лісьцё становіцца цёмна-рудым. Расьціны слаба растуць.

**Нястача паташу**. На лісьцёх творацца жоўтаватыя плямы, якія пашыраюцца ад краёў на цэлыя бляшкі. Хвосьцік і жылкі лісьця астаюцца зялёнымі, але згінаючыся выпучваюцца дагары.

**Нястача вапны** выяўляецца ў вырастаньні *доўгага лісьця*, асаджанага на доўгіх і тонкіх хвосьціках, а так-жа ў тым, што *лісьцё скручваецца*.

---

## Некалькі слоў аб садох.

### Ці вялікі закладаць сад.

Закладаючы сад, трэба ведаць, дзеля якой мэты ён будзе служыць для патрэбаў сваей гаспадаркі, ці для гандлю?

У першым выпадку сад мусіць быць невялікі, каб даваў выстарчальную колькасьць пладоў на хатнія патрэбы.

Такі сад мусіць быць рознаякі што да гатунку пладоў, і ніяк ня можа перавышаць чверці гэктару па сваей вялічыні.

Сад гандлёвы павінен быць такой вялічыні, каб аплацілася праца і капітал, патрачаныя на яго закладаньне.

У той час, калі ў гаспадарскім садзе праз нейкі час можна вясьці міждрэўную культуру расьцін, у гандлёвым — ужо ад першага году трэба гэтага адрачыся.

## Якія плады прадукаваць у гандлёвых садох.

Поблізу вялікіх гарадоў найлепш прадукаваць тыя плады,якія не ператрымліваюць далёкага транспарту(перавозкі)— чарэшні, салодкія вішні, сьлівы-ранклёды, летнія яблыкі і йгрушы, пладовыя кустоўнікі, асабліва-ж маліны.

Поблізу летнішчаў, дачаў і мясцовасьцяў лячнічых трэба прадукаваць тыя плады, якія дасьпяваюць у адпаведным сэзоне.

У мясцовасьцях аддаленых ад цэнтраў збыту — найлепш прадукаваць цьвёрдыя плады, каторыя вытрымліваюць далёкі транспарт — позьнейшыя йгрушы, сьлівы-вэнгеркі, а перадусім зімовыя яблыкі (антонаўкі), на каторыя заўсёды ёсьць найбольшае запатрабаваньне.

## Як садзіць пладовыя дрэўцы.

Чым малодшая расьціна, тым лепш вытрымлівае пасадку, таму найлепш садзіць дрэўцы 2 і 3-летнія.

Паводле навейшай практыкі, пладовыя дрэўцы трэба садзіць на глебе, прыгатаванай гэткім спосабам, як гэта робіцца пад іншыя культуры, напр. пад буракі — глыбокая ворка. Садзіць дрэўцы трэба ў ямкі такой вялічыні, каб толькі магло зьмясьціцца карэньне. Пасадзіўшы дрэўка, зямлю на карэньнях трэба зьбіць, а калі садзіцца вясною, то й паліць вадою.

## Калі садзіць пладовыя дрэўцы.

Садзіць дрэўцы трэба ад часу, калі яны паськідаюць лісьцё, што бывае каля паловы кастрычніка, аж да часу, пакуль на іх не паявяцца пупышкі, г. зн. да канца красавіка. А таму дрэўцы можна садзіць і зімою, абы толькі пазваляла надвор'е і зямля ня была замерзшай.

Аднак прынята, чым дрэўка пасаджана раней, тым лепш яно расьце, — гавораць, што пры восенскай пасадцы дрэўца само расьце, а пры веснавой — яму трэ' памагаць расьці. Восенская пасадка пажадана на лягчэйшых, на сушэйшых грунтох, а на грунтох цяжкіх, вільготных — лепш садзіць вясною.

Праз першыя гады па пасадцы пень дрэўка трэба сьцерагчы ад зайцаў і маразоў. Найтаней і найпрасьцей — акручываць іх саломаю або ялаўцом. Над карэньнямі насыпаць капцы да 40—50 см. вышыні,—вясною іх раськідаць.

## Штучныя гнаі для саду.

Пладовыя дрэвы найбольш высмоктываюць калія (паташу), менш азоту і найменш фосфару.

Калі (паташ) спрыяе прыросту дзеравіны, салодкасьці пладоў і трываласьці іх у перахоўваньні, а так-жа мацнейшаму трыманьню лісьця і пладоў на дрэвах. Знача, перад усім патрэбны калі.

Азот спрыяе буйнаму росту лісьця і цёмна-зялёнаму колеру іх.

Фосфар прысьпяшае дасьпяваньне пладоў.

Пад пладовыя дрэвы даюцца тыя самыя штучныя гнаі, што і пад іншыя расьціны і ў тэй-жа колькасьці на гэктар.

Колькасьць штучнага гною, празначанага пад сад, дзеліцца на колькасьць дрэваў, рассыпаецца навокал пня ў адлежнасьці $1^1/_2$ мэтраў ад яго і перамешваецца з зямлёю.

Супэрфосфат, сярчанік амону і салетра рассыпаюцца раньняю вясною, а тамасоўка, каініт і вапна — увосень.

---

# Асновы гародніцтва.

## Колькі зямлі трэба пад гарод.

Каб мець гародніну для ўласнага ўжытку, ня трэба многа зямлі. Калі ў гаспадара блізка хаты знойдзецца кавалак адпаведнага грунту на якіх 50 мэтраў даўжыні і 20 м. шырыні, дык гэтага й хопе. Такі гарод будзе мець нейкіх 100 араў паверхні і дасьць гародніны на круглы год для сярэдняй сям'і з 5 душ.

## Месца пад гарод.

Гарод ня любіць як ніскіх сырых грунтоў, так і вельмі высокіх, сухіх. Найлепшае месца — роўнядзь з лёгкім нахілам на паўдзень або паўднёвы захад, нават і на паўднёвы ўсход. Унікаць пахілаў на поўнач і на ўсход, бо на іх гародніна будзе цярпець ад халадоў; унікаць так-жа вельмі вялікіх нахілаў на поўдзень, бо тутака гародніна будзе выгараць ад сонца. Добрае для гароду месца пры ставох, рэках і вазёрах — тутака ня так шкодзяць прымаразкі, якія ў нас вельмі частыя вясною і ўпачатку лета. Ад поўначы

і ад усходу гарод павінен быць забясьпечаны ад халодных вятроў будынкамі, садам або лесам, але бліжэй, чым на 20—40 мэтраў, гарод не павінен падходзіць да лесу, бо карэньні дрэваў будуць сушыць гарод. Пад расаднікі і парнікі абавязкава трэба адводзіць месцы, дзе балей сонца— найлепш пры будынку з паўдзённага боку.

## Грунт для гароду.

Для гароду той грунт найлепшы, каторы мае глыбокі верхні перагнойны пласт зямлі. Грунт можа быць суглінкам або пясчаным чарназёмам, абы толькі не ілаваты ці тарфяністы. Глiністы грунт можна палепшыць, дадаючы торф, пясок, саломісты гной, вапну, мэргель. Для пясчаных грунтоў лепшае лякарства — гліна, торф і гной. Суглінiстыя і супясчаныя грунты кожны год удабраюцца гноем. Грунт пад гарод павінен быць рыхлы, таму ён мусіць быць перакапаны на глыбіню прынамсі да 40 сантымэтраў.

## Удабрэньне гародаў.

Самым звычайным удабрэньнем у сялянскай гаспадарцы служыць хляўны гной. На гарод у 10 араў*) паверхні трэба хляўнога гною каля 250 пудоў ці каля 10 вазоў, але на бедных грунтох класьці яго трэба яшчэ больш. Звычайна гной кладзецца адзін раз у 3 гады, пад капусту. Для гароду самымі адпаведнымі гнаямі будуць: конскі на парнікі, на цяжкія грунты, дзе яго раськідаюць з восені, потым авечы і нарэшце каровіны, каторы ўжываецца пераважна на супясі. Добрая й мешаніна з гэтых гнаёў, хоць яна дзее памалу, але доўга.

## Выраб грунту.

Грунт на гародзе вырабляць трэба ўжо з восені, калі яго аруць або перакопываюць з гноем на сантымэтраў 15 або бяз гною на сант. 30. Зямля не разьбіваецца, а пакідаецца на зіму ў камох — яе добра разрыхліць мароз. Вясною як найраней барануюць, каб зямля не перасохла, а потым аруць або перакопываюць. Калі ўвосень аралася або капалася на 15 сант., дык цяпер арэцца на сант 30 і наадварот. Гной на цяжкіх грунтох кладзецца ўвосень, а на лёгкіх — вясною.

*) ар мае 100 кв. м. (напр. 10 м. удоўжкі і 10 м. ушыркі).

## Грады.

Грады робяцца вышыні на якіх 20—30 см. (на цяжкіх грунтох вышэй, на лёгкіх ніжэй). Шырыня градаў — ня больш 120 сант., каб зручна было палоць. Самая выгадная даўжыня — 10 мэтраў. Даўжыня град павінна йсьці поперак нахілу, скату паміж градаў — разоры, ня шырэйшыя за 30—40 сант. Бакі градаў павінны быць абабіты лапатамі! Як бакі градаў так і разоры трымаць чыстымі ад дзікага зельля. Паверхня градаў павінна быць роўная, каб раўнамерна магла паліваецца дажджом ці апырсківаццa вадою.

## Расада.

Нашае лета вельмі кароткае, таму некаторыя расьціны прыходзіцца садзіць на грады (у грунт) ужо вырасшымі — расадаю. Расаду разводзяць у парніку або ў расадніку. Расаднік, градка, прыгатаўляецца з самай раньняй вясны дзе-небудзь у зацішным сонечным месцы і на ім сеецца насеньне капусты, бручкі. Калі расада вырасьце на адзін-два лісткі, яе перасаджваюць у радкі на новую градку (пікуюць), пры чым у капусты на траціну ці чверць абрываецца галоўны корань. Расьпікаваную расаду паліць і добра хоць на дзень прыцяніць яе. Расада ніколі не павінна быць выцягнутай, а наадварот, павінна быць каранастаю, прысадзістаю з цёмна-зялёнымі лісьцямі. Расаду памідораў можна вывясьці ў скрынках, якія трымаюцца ў хаце, пры акне, пакуль холадна, а як пацяплее — то паступова прывучаюць яе да паветра.

## Калі сеяць на градах.

Увосень перад часам сільных маразоў сеецца пятрушка, каторая потым вясною добра і дружна ўсходзіць. Некаторыя ўвосень сеюць моркву і буракі, але яны вясною йдуць у сьцібло, а ня ў корань. Раньняю вясною сеюць тую гародніну, што не баіцца невялікіх маразоў, як пятрушку, гарох, радыску, рэпу, рэдзьку, крыху пазьней — моркву і буракі. Перад самым канцом ранішніх прымаразкаў, або нават калі яны пройдуць — сеюць фасолю, гуркі, гарбузы. Летам сеюць тую гародніну, каторая хутка расьце— радыска, рэпа, кроп, салата.

## Як садзіць расаду.

Расада садзіцца на грады ў ямкі, каторыя робяцца або рукою або адумысловым таўкачыкам. Зямля моцна пры-

біваецца да карэньняў расады, а зьверху на градзе робіцца невялікая ямка для паліваньня. Расаду для пасадкі ня можна вырываць з зямлі, а трэба ўперад добра паліць, а потым асьцярожна выкопываць з радкоў дзеравянаю лапатачкаю. Пасадзіўшы расаду, калі стаіць сонечная пагода—карысна яе берагчы ад сонца, пакуль не прыжыве. Гэта лёгка дасца зрабіць наткнуўшы з паўдзённага боку галінак якіх-небудзь дрэваў. Найлепш садзіць расаду пад вечар, а найлепшая для гэтага пагода — пахмурная.

## Пладазьмен на градах.

З гародных расьцін, адны вымагаюць для сябе з грунту шмат пожыву, другія — менш; адным расьцінам шкодзіць сьвежы гной, другія — любяць яго. У гародзе таму трэба садзіць і сеяць расьціны ў некаторай пасьлядоўнасьці адных за другімі — гэта і будзе пладазьмен. Пры пладазьмене зусім ня трэба удабраць гноем увесь гарод, а толькі тую частку яго, дзе будуць расьціны, якія вымагаюць шмат пожыву і любяць сьвежы гной. Практыка паказала, што найлепш падзяліць гарод на 3 часткі і пасьлядоўна ўдабраць адну за другою. Такім парадкам кожная дзель будзе атрымліваць гной раз на тры гады. Зразумела, што пры такім парадку для ўгнойванай дзелі трэба даваць балей гною.

## Гароднiна ў пладазьмене.

На сьвежым гнаі найлепш удаецца капуста і зродныя для яе расьціны: салата, гуркі, гарбузы, буракі (на бацьвіньне), радыска. Усе гэтыя расьціны вымагаюць шмат гною, які аднак павінен перапрэць да іхняга пасеву.

На леташнім гнаі найлепш удаюцца: пятрушка, морква, буракі (на корань), пастарнак, рэдзька, рэпа, цыбуля, часнок. Гэтыя расьціны вымагаюць багатага ў пажыўныя часткі грунту, але ня любяць сьвежага гною (за выняткам кампосту, ды то добра перапрэўшага ў кучы). На гэтай дзелі і найлепшае месца бульбе, каторая заўсёды смачнейшая, калі вырасла не на сьвежым гнаі.

На гнаі двулетнім, ці на другі год па капусьце, найлепш удаецца гарох і фасоля. Калі-ж грунт сам па сабе пладародны, то можна на двулетнім гнаі разводзіць моркву, цыбулю і часнок. На гэтай дзелі высаджываюцца на насеньне высадкі капусты, бручкі, буракоў і інш.

## Табліца пладазьмену.

| | 1 год | 2 год | 3 год |
|---|---|---|---|
| I дзель | Гной Капуста | Бяз гною Буракі Цыбуля | Бяз гною Фасоля |
| II дзель | Бяз гною Фасоля | Гной Капуста | Бяз гною Буракі Цыбуля |
| III дзель | Бяз гною Буракі Цыбуля | Бяз гною Фасоля | Гной Капуста |

## Трускаўкі.

Трускаўкі даюць шмат карысьці і даходу, асабліва бліска гарадоў, і ў той-жа час ня выборлівыя ні ў грунце ні ў доглядзе. Трускаўкі нават зусім задавальняюцца звычайным гароднім грунтам і гароднім удабрэньнем.

Найлепшы час садзіць трускаўкі — месяц жнівень. Дзеля гэтага бяруць маладыя расьцінкі трускавак, але ўжо добра разьвітыя і з разросшымі карэньнямі. Калі б гэткіх ня было, дык можна ўзяць леташнія, але яны цяжэй прыжываюць на новым месцы.

Грунт для трускавак, як і для гародніны, павінен быць загадзя ўгноены, добра ўзрыхлены і старанна перакапаны. Грады трэба рабіць ня шырэй 75 сантымэтраў, з глыбокімі разорамі паміж іх. Калі трускаўкі з буйнымі ягадамі, то кусьцік ад кусьціку садзіцца на адлежнасьці 30 сантымэтраў, трускаўкі з сярэднімі ягадамі — на адлежнасьці 20 см., а з дробнымі яшчэ гусьцей.

Пасаджаныя ў жніўні трускаўкі да зімовых халадоў зусім умацуюцца і лёгка ператрываюць нават цяжкую зіму, але калі яны будуць прыкрыты перапрэўшым гноем, або хоць мохам ці саломаю. На вясну зямлю навакол кусьцікаў добра разрыхліць, і... чакаць поўнага збору ягад, каторы будзе ў наступным годзе.

Калі трускаўкі будуць даваць ягады буйныя, дык яны сваім цяжарам прыгнуцца аж да зямлі, і ня толькі будуць брудзіцца, але на іх пачне пападаць усякая машкара

і смаўжы. Каб гэтага ня было, паміж кусьцікаў трэба насыпаць саломеннай сечкі, або хораша вылажыць мохам.

Удабраць градкі ў працягу лета трэба два разы: адзін раз да цьвету, а другі раз пры завязі ягад. Удабраць трэба гнаёўкаю, разьведзенаю вадою, і ліць асьцярожна наўкол кусьцікаў, каб не пападала гнаёўка ў сярэдзіну іх, адкуль выходзяць чаранкі лісьце. Сабраўшы ягады, градкі пільна ачысьціць ад зельля і час ад часу адрываць вусы, а потым пакрыць градкі перапрэўшым гноем і перапрэўшым лісьцём.

Калі трускаўкі дадуць пяць ураджаяў, яны павінны быць заменены маладымі, — так, як аб гэтым гаварылася вышэй.

Калі хто баіцца, што трускаўкі пасаджаныя ў жніўні могуць вымерзнуць, дык пасадзіць можна й вясною.

---

# Практычныя зацемкі аб жывёлагадоўлі.

## Як доўга трывае цяжарнасьць.

Час цяжарнасьці ў сярэднім трывае:

У кабылы 48 тыдняў, або 340 дзён (здараецца ад 330 да 420 дзён).

У кароў 40 тыдняў, або 280 дзён (здараецца ад 240 да 320 дзён).

У сьвіней 17 тыдняў, або 120 дзён (здараецца ад 110 да 130 дзён).

У авечак і козаў амаль 22 тыдні (здараецца ад 146 да 158 дзён).

## Як доўга трывае парод.

У кабылы — каля паўгадзіны.

У каровы — да 6 гадзін, сярэдне 3 г.

У сьвіньні — першы парод гадзін дзьве, наступныя да 10 мінут.

У авечкі — як у каровы.

**Як паступаць са скацінаю па пародзе.**

1. Добра паслаць, каб адпачыла.
2. Не карміць цяжкастраўным кормам.
3. Даць цёплае пойла з атрубоў.
4. Без патрэбы не ганяць.

**Як паступаць з новародкам.**

1. Падсунуць саміцы, каб аблізала і асушыла. Калі матка ня хоча лізаць, трэба самому асушыць мяккаю тка-

нінаю цела новародка, асабліва, калі холадна ў хляве зімою, ці калі дакучаюць мухі летам.

2. Калі ў новародка запханы сьлюзам ноздры—пастарацца іх ачысьціць пёркам.

3. На адлежнасьці пядзі пад жыватом перавязаць вывараным шпагатам пупавіну, рэшту адрэзаць нажом і заліць ранку ёдам.

4. Падсунуць новародка да маткі і памагчы, каб высса̌ў малодзіва. Забясьпечывае яно ў прышласьці ад хваробаў, якія мела матка ў сваім жыцьці.

5. У парасят паадразаць вострымі шчыпчыкамі клыкі, каторыя раняць цыцкі сьвіньні.

## Як доўга трымаць новародка пры матцы.

Цялят найлепш зараз-жа адсаджываць і паіць матчыным малаком. Калі-ж астаецца пры матцы — хопіць 8—10 тыдняў.

Жарабяты павінны ссаць 4—5 месяцаў. Парасяты — 8 тыдняў. Ягняты — 3-4 месяцы.

## Як доўга трывае „беганьне."

У кабылы выступае цераз 10 дзён па пародзе, трывае 24—36 гадзін і ў разе незапладненьня—варочаецца цераз 8—10 дзён. У каровы найчасьцей выступае ў 6 тыдняў па ацяленьні, трывае 24—36 гадзін, — варочаецца цераз 28 дзён, а то й раней. У сьвіней — цераз 42 дні па пародзе, трывае 24—72 гадзіны — варочаецца па 42 днёх. У авечкі — цераз 42 дні, трывае 24-36 г. — варочаецца цераз 42 дні.

## Калі пакрываць скаціну.

Найлепш пакрываць: кабылы — ў красавіку і траўні, сьвіньні — два разы: І-шы раз — у кастрычніку і лістападзе, ІІ-гі раз — у траўні і чэрвені, авечкі—два разы: І-шы—ў кастрычніку, а ІІ-гі ў траўні.

## У якім веку найлепш надаецца скаціна для расплоду.

Кабыла — 3—15 г., карова—2—12., сьвіньня—9 мес.— 6 г., авечка — 9 мес. —5 г.

## Як пазнаць, ці цельная карова.

У шклянку чыстай халоднай вады упусьціць каплю малака.

Калі карова цельная, дык малако, якое ў яе стала ўжо

клейкім, не распускаецца хутка ў вадзе, а амаль цэлаю капляю даходзіць да дна шклянкі. Калі карова ня цельная, дык упушчаная капля малака зараз-жа распускаецца, расплываецца ў вадзе. У 5—6 месяцы цельнасьць каровы ўжо лёгка пазнаць — можна вычуць рукою: калі рукою моцна прыцісnуць каля пахвіны правы бок каровы, адчуецца нібы адваротны удар плоду. Калі нашча вывесьці карову з хлява і даць ёй напіцца халоднай вады — з правага боку каровы можна заўважыць моцныя рухі плоду.

## Як пазнаць, ці жарэбная кабыла.

У першых 4 месяцах дагэтуль яшчэ няма спосабу пазнаць жарэбнасьць кабылы. У 5—6 месяцы можна заўважыць рухі плоду, увёўшы нашчую кабылу ў ваду. Рухі плоду можна адчуць рукою, прыкладаючы яе паміж вымем і пупам, бліжэй да левага боку.

---

# Асновы кармленьня жывёлы.

У разумна ведзенай гаспадарцы мала мець жывёлу, мала мець чым яе карміць, трэба ведаць яшчэ: каму, калі, колькі й якога корму даць, каб мець з гэтага карысьць. На колькі гэта важна, даказуюць аблічэньні з розных практыкаў: пры разумным кармленьні можна лёгка выкарміць чатыры штукі жывёлы там, дзе прад тым былі толькі тры. У чым-жа тут сакрэт? Кожны гаспадар болей-меней ведае, што адна кармавіна бывае больш „сытная,“ другая—менш; адна кармавіна „ганіць малако,“ а другая — „сала“ і г. д. Ведае гаспадар і тое, што кожная жывёла зьядае корму гэтулькі, колькі ёй трэба. Іншымі словамі і якасьць і колькасьць корму мусяць акуратна адказываць патрэбам жывёлы. Гэтым і кіруецца навука аб кармленьні. Тутака разгледзім толькі якасны бок кармавінаў.

Кармовая вартасьць кожнай кармавіны (сена, саломы, канюшыны) залежыць ад ейных складовых частак, найважнейшымі з каторых ёсьць групы: 1) азотная, 2) вугляводы (безазотная), 3) тукавая (клустасьць), 4) мінэральная (попел), 5) цэлюлёзная і 6) вітамінавая. Кожная з гэтых складовых частак кармавіны мае сваё асобнае назначэньне і адна другую незаўсёды могуць замяніць. І так:

1. Азотная група кармавых складнікаў мае ў сабе бялкі і служыць на вытварэньне мяса (ня сала!), малака, шэрсьці, пёраў, яёк і г. п. З кармавінаў вырабляных у гаспадарцы на азотныя часткі багаты: сачыўка, гарох, віка, збаж-

жавіны (ячмень, пшаніцца, жыта), вотрубы, канюшына, добрая сачыстая трава, мурожнае сена і г. пад.

2. Вугляводы маюць у сабе найбольш крахмалу і цукру і служаць для вытварэньня цялеснай цяплыні і сілы на працу. З вугляводаў у целе жывёлаў вытвараецца лой, сала, малочная клустасьць (масла), малочны цукар. З гаспадарскіх кармавінаў на вугляводы багаты: бульба і кармовы бурак (найтанейшыя!), збажжавіны, вотрубы, каштаны, жалуды, канюшына, сена і г. п.

3. Тукавая група кармавых складнікоў (расьцінныя алеі), як і вугляводы, служыць да вытвараньня цяпла і сілы. На расьцінны тук багаты: лён і каноплі, а таксама збажжавіны: авёс і кукуруза.

4. Мінэральная група кармавых складнікоў, што пры спаліваньні корму астаецца ў форме попелу, служыць да будовы касьці жывёлы. Кожная гаспадарская кармавіна мае ў сабе мінэральныя часткі.

5. Цэлюлёзная група кармавых складнікоў мае „мэханічнае" значэньне: каб напоўніць жалудак, (бо йнакш ён у жывёлы няздольны пераварыць). Найбагацейшая на цэлюлёзу розная салома і перастаяўшае сена.

6. Вітаміны маюць іншае значэньне, яшчэ ня вывучанае навукай. Аднак ведама, што недахоп вітамінаў у кармавінах выяўляецца living рознымі хваробамі, між іншымі скорбут (цынга) і нэрвовыя хваробы, і ня толькі ў кожнай жывёлы, але і ў самога чалавека. Ведамыя ўжо дагэтуль вітаміны падзелены на групы: А, Б, С. З гаспадарскіх кармавін найбагацейшымі на вітаміны зьяўляюцца: маладая сочная паша, мурог сухі і зялёны, канюшына, мяшанка з стручковых расьцінаў, морхва, пшанічныя вотрубы; менш вітамінаў мае малако, авёс, бручка, гарох, бульба; яшчэ менш вітамінаў мае зьбіранае малако, сываратка, пшаніца, жыта, ячмень; зусім ня маюць вітамінаў—салома, крахмал, цукар.

Умелае і ўмеснае выкарыстаньне абгаварываных тут уласьцівасьцяў розных кармавінаў залежыць ад разумовага разьвіцьця кожнага гаспадара паасобку. Тутака-ж для агульнай толькі орыентацыі варта зазначыць, што кожная маладая жывёла, а таксама дойныя каровы і нясучыя куры павінны ў корме даставаць такія кармавіны, якія маюць шмат бялкоў (азотная група). Калі-ж выкармліваць жывёлу на жыр, а таксама на сілу (працоўныя коні і валы),—у першую чаргу трэба даваць кармавіны — вугляводы, багатыя на крахмал і цукар.

Маладая жывёла ў першую чаргу патрабуе кармавінаў багатых на бялкі і мінэральныя (касьцятворчыя) часткі; кармленьне ж яе кармавінамі, багатымі на крахмал і цукар, як бульба ды кармавы бурак, можа быць апраўдана толькі там, дзе гэтая жывёла празначана на малады жыр.

## Нормы корму для каня.

Непрацуючаму каню вагою ў 400 кг. даволі на дзень: 3 кг. сена, 3 кл. саломы, 5 кл. бульбы і 700 гр. аўса. Пры лёгкай працы павялічваць авёс на 1,7 кл., пры сярэдняй — на 1,2 кл., а пры цяжкай — яшчэ на 1,2 кл. Таму цяжкапрацуючы конь павінен атрымаць: 3 кл. саломы, 3 кл. сена, 5 кл. бульбы і 4,8 кл. аўса. Авёс можна замяніць гэтак: 1,2 кл. аўса=1 кл. ячменю=1 кл. жыта=3 кл. бульбы плюс паўкілё вотрубаў. Летам непрацуючаму каню 400 кл. вагі можна даваць салодкія травы 30—35 кл., а пры працы — дадаваць авёс, як вышэй.

## Колькі разоў у дзень карміць скаціну?

Скаціну карміць заўсёды ў аднэй і тэй самай пары і ў роўных одступах часу:

Дарослую рагатую скаціну — 3 разы ў дзень.
Цялят і жарабят — 4 " " "
Коней і авечкі — 3 " " "
Сьвіней — 4 " " "

## Колькі на дзень трэба саломы на сьцёлку.

Карове — 4 кл., каню — 2 кл., сьвіньні — 2 кл., авечцы — $1/2$ кл.

Апрача таго скаціна павінна атрымліваць для лізаньня соль у пластах па норме:

Карова — 25 гр., конь — 15 гр., сьвіньня — 10 гр., авечка — 4 гр.

## Як паіць цялят.

1. Паіць малаком маткі.
2. Даваць малако рэгулярна праз роўныя одступы часу: у першым тыдні—5 разоў на дзень, далей—па 3 разы.
3. Даваць толькі сьвежае малако.
4. Утрымліваць чыста начыньне, з каторага поіцца цялё.
5. Павялічаць колькасьць малака [па]меры прыросту цяляці.
6. Найбольш малака даваць паміж 4 і 10 тыднямі.
7. Ад 10 тыдня малако паступова зьмяншаць.

---

# Для ведама пчаляроў.

**Колькасьць пчолаў** у вадным кіле: бяз мёду — каля 13.000 шт., з мёдам — 10.000 штук.

**Пчолы жывуць:** матка ад 3 да 5 гадоў, рабочая пчала

ад 6 тыдняў (летам) да 10 месяцаў (каторыя перажываюць зіму), трутні ад 3 да 5 месяцаў (у рэдкіх выпадках перажываюць зіму).

**Далячыня палёту** пчолаў — да 3 кілёмэтраў, у рэдкіх выпадках да 5 клм.; раі лятуць за 5 клм. і далей.

**Разьвіцьцё чэру** цягнецца: маткі 17 дзён, рабочай пчалы 20 дзён, трутня 24 дні —іншы раз зацягваецца: маткі да 22 дзён, рабочай пчалы да 26, а трутня да 28 дзён.

**Фармаваньне цела** па выхадзе з сотаў цягнецца: у маткі паўдня, у рабочай пчалы і ў трутня 2 дні.

**Не вылятае** з вульля: матка 1 дзень, рабочая пчала і труцень 6 дзён.

**Поўнае разьвіцьцё** пчалы цягнецца: у маткі 18 з палавінаю дзён, у рабочай пчалы — 28 дзён і ў трутня 32 дні.

**Матка** вылятае першы раз для запладненьня, па выхадзе з матачніку, на 3—7 дзён, здольна запладняць 21—40 дзён, можа пачаць чарвіць на 3 дзень па запладненьні і на 11 дзень па нарадзінах.

**Колькасьць мёду і воску.** За адзін дзень моцная сям'я можа сабраць да 4 кілё мёду. Сярэдне сям'я за лета дае 16 кілё мёду. На зіму пчолы павінны сабраць яшчэ каля 15 кілё мёду. Воску атрымліваецца ад сярэдняй сям'і каля 250 грамаў. Найбольшы збор мёду з аднаго вульля бываў да 130 кілёграмаў.

## IV Лекарская помач IV

Др. Я. Малецкі

# Галоўныя асновы здароўя.

Здароўе — гэта ёсьць раўнавага і гармонія ўсіх працэсаў у людзкім арганізьме. У псыхіцы чалавека ляжыць— быць заўсёды здаровым, і таму здаровыя людзі так мала наогул думаюць аб хваробах і так мала іх высьцерагаюцца. Вопыты людзей старэйшых, якія ў сваім жыцьці не адну перанясьлі хваробу, мала навучаюць. Толькі як чалавек сам перахварэе, то пасьля стаецца крышку асьцеражнейшым. Але нажаль, ня ўсе змогуць пасьля хваробы быць асьцярожнымі, бо многіх сьмерць ужо пасьпее прыгарнуць да сябе. Дык таму, паважаны чытач, ніколі не пашкадуеш, калі пачытаеш і падумаеш аб галоўных падставах здароўя.

Хваробы наогул паўстаюць: 1. з забурэньня абмены матэрыі ў нашым арганізьме, 2. ад заражэньня нашага арганізму звонку і 3. з пашкоджаньняў арганізму звонку.

1. Каб працэсы абмены матэрыі добра адбываліся, то мусімо зьвярнуць увагу на яду, паветра і сонца. Есьць мусімо ў меру, у сьцісла азначаную пару, 3—4 разы ўдзень. Патравы павінны быць заўсёды сьвежыя і рознаякія. Ня можна аб'ядацца аднаго мяса, аднэй бульбы, ці хоць-бы аднаго малака. Найлепш яда мяшаная з перавагай малочных патраў, бульбы і агародніны. Сокі нашых страўных дарог раскладаюць прынятую страву на яе драбнейшыя складовыя часткі, з якіх адны (бялко) служаць арганізму будаўляным матарыялам, а другія (тук і цукры) згараюць у арганізьме, вытвараючы патрэбную чалавеку энэргію. Да працэсу спаляньня патрэбны ёсьць яшчэ тлен ($O_2$), які мы атрымоўваем праз лёгкія з паветра.

І тут адзначаецца важная роля чыстага паветра. Калі мы будзем дыхаць такім паветрам, дзе мала ёсьць тлену, або дзе многа ёсьць дамешак непатрэбных і шкодных газаў, то мы нарушаем нармальны працэс спаляньня туку і цукраў у нашым арганізьме, — мы будзем мець мала энэргіі да працы. Калі хто звонку прыйдзе ў малую хату, дзе сядзіць шмат асоб і кураць, то ён адразу пачуе душнасьць і цяжар на грудзёх. Гэта ёсьць першы знак, што ў гэткай хаце здароўя не нажывеш, а толькі нажывеш катару лёгкіх і горла, запаленьня лёгкіх і сухотаў.

Апрача ўмераннасьці ў колькасьці і якасьці яды і чыстага паветра, патрэбна яшчэ чалавеку да здароўя сьвятло сонца. Кожнаму ведама, што нпр. восенскія курчаты вельмі дрэнна растуць, бо замала для іх сонца. Таксама й чалавек — ня можа добра разьвівацца бяз сонца і быць здаровым. Асабліва сонца патрэбна ёсьць для ўзросту чалавека. Дзеці, калі ім мала сонца, хварэюць на ангельку, малакроўе, скулы і іншыя хваробы. Дык таму трэба хаты будаваць з вялікімі вокнамі, кутом на паўдзень і каб у вокнах заўсёды былі фортачкі. Фортачкі трэба адчыняць зімой, а летам трэба адчыняць цэлае вакно.

2. Заразныя хваробы атрымліваюцца ўваходам у арганізм маленькіх жывучак, званых заразкамі. Заразкі гэтыя можна ўбачыць толькі праз мікраскоп, г. зн. павялічыўшы іх у 500 да 1000 разоў. Кожную хваробу выклікае асобны заразак. І так: палачка Эбэрта выклікае тыфус брушны, палачка Коха — сухоты, стрэптокок — рожу, стафілёкок — скулы і г. д. Многіх заразных хвароб заразкі яшчэ ня выкрытыя.

Каб не захварэць заразнай хваробай, ня трэба мець сутычнасьці з хворымі на заразную хваробу. Пры гэтым трэба ведаць, што чалавек можа заразіцца брудам і гразёй, бо там найбольш ёсьць усякіх бактэрыяў і таму трэба вельмі дбаць аб чысьціню. Штотыдзень трэба хадзіць у лазьню і мыцца цёплай вадой з мылам і зьмяняць бялізну. Перад ядой трэба мыць рукі. Усе амаль бактэрыі гінуць на сонцы і таму яшчэ раз не шкадуйма сабе сонца, чыстага паветра і вады з мылам.

3. З вонкавых пашкоджаньняў найчасьцей бываюць пераломы і абпараньні. Дзеля гэтага пры кожнай працы трэба быць асьцярожным і перш чым прыступіць да працы, агледзь, разваж добра, ці тут дзе што не пагражае твайму здароўю. Асабліва трэба быць асьцярожным пры спушчаньні з пня дрэваў, перавозцы цяжараў і каля ўсякіх машын. Не адзін пашкадаваў, што быў неасьцярожны пры гэтых работах.

Парады гэтыя далёка не абымаюць усіх праяваў хвароб і таму, хто хацеў-бы больш абзнаёміцца з хатняй мэдыцынай, раджу прачытаць кніжку Д-ра Ст. Грынкевіча п. наз. „Rady chworym i zdarowym". (Купіць і выпісаць можна ў беларускай кнігарні „Пагоня," Вільня, Завальная 1—1).

---

## Кароста.

Каросту ў чалавека й жывёлы выклікаюць падобныя да кляшчоў жывучкі, якіх можна ўвідзець на'т голым вокам, бо самка мае 0,4 мм вялічыні, а самец толькі 0,2 мм.

Заражаецца чалавек гэтымі жывучкамі праз сутычнасьць з хворым на каросту, напр. пры танцы, прывітаньні, або праз рэчы, як напр. адзежу, венікі ў лазьні.

Самкі точаць у скуры чалавека каналікі і там нясуць свае яечкі, з каторых па 2 тыднях выходзяць маладыя жывучкі. Адна самка ў працягу 2 месяцаў можа быць маткай $1^1/_2$ міліёнаў каростных жывучак. Найлепш кароста разьвіваецца там, дзе ёсьць мяккая скура: у пахвінах, паміж пальцамі. Дзеля таго, што—як кажа прыказка: „кароста ня проста — панская хвароба",—чалавек нічога іншага ня робіць, як толькі скрабецца, ёсьць яна вельмі дакучнай, ды скрабучы скуру лёгка могуць паўстаць розныя скулы і нарывы.

Каб усьцерагчыся ад каросты, — **ня мей сутычнасьці з хворым на каросту, не карыстайся тымі рэчамі, якімі ўперад карыстаўся кароставы, часта мый рукі з мылам і часта мыйся ўвесь.**

Лячыць каросту трэба цярпліва й сыстэматычна. Насамперш трэба добра вымыцца ў лазьні, а пасьля два разы ўдзень праз 2 або 3 дні трэба мыць шчоткачкай усё цела, за вынняткам галавы і твару, наступнай масьцяй: для дарослых: Rp Benzo Naphtoli, Sulfuri praecipit. aa 10,0, Saponis viridis 50,0, Vaselini flavi 75,0; для дзяцей: Rp. Ung. Wilkinsoni 100,0, Balsami peruviami, Vaselini flavi aa 50,0.

Пасьля апошняга мазаньня трэба чыста вымыцца і надзець чыстую бялізну. Усю пасьцель трэба зьмяніць. Пасьцілкі і навалачкі трэба выгатаваць, а коўдру ватовую трэба выпрасаваць, а найлепш пасьля дэзынфэкцыі не карыстацца ей праз пару месяцаў.

Масьць з серкай дае няпрыемны запах і таму можна правясьці далікатнейшае лячэньне: хворы мыецца чыста ў лазьні або ваньне, пасьля мажа ўсё цела пэндзлям, змочаным у такім лякарстве: Rp. Benzyli benzoici, Alcoholi 90°, Sapo Kalini aa 50,0.

Мазаньне гэтае паўтараецца што 15 мінут яшчэ 2 разы. На другі дзень трэба чыста вымыцца і надзець чыстую бялізну, а таксама трэба зьмяніць бялізну ў ложку, каб не заразіцца зноў.

Дзяцей хворых на каросту ня можна пасылаць у школу

---

## Лекарская помач.

**Падучая хвароба.** Хворага палажыць на мяккую пасьцель, расшпіліць гузікі, асабліва на шыі, і даглядаць, каб ён не зваліўся і ня ўдарыўся. Каб хворы ня прыкусіў сабе языка — штонебудзь улажыць яму між зубоў, напр., лыжку, завернутую ў палатно.

**Кроў з носа.** У гэты час ня трэба пахіляцца, чхаць;

трэба стаяць або сядзець і, змачыўшы хустку сьцюдзёнай вадой, прыкладываць яе да пераносься. Добра мачыць сьцюдзёнай вадой патыліцу. Галаву адкінуць назад і нос заткнуць чыстай тканінай або ватай.

**Кроў з горла.** Хворы павінен не гаварыць, мець поўны спакой, палажэньне поўляжачае. На грудзі кладзецца гумовы мяшочак з лёдам, а ў ногі —бутэлькі з гарачай вадой. Даваць глытаць кавалкі лёду,або рашчыну кухоннае солі (1 гарбатнюю лыжку солі на 1 шклянку кіпячонае астуджанае вады). Зьвярнуцца да дохтара.

**Адмарожаньне.** Замёрзшага чалавека ня можна ўносіць у цёплы пакой. Трэба адмарожаныя часьці цела адцерці сьнегам, або сьцюдзёнай вадой, уважаючы, каб не зламаць адмарожаную канчыну; калі чалавек адыйдзе (скура пачырванее), трэба ўнесьці яго ў хату, палажыць у ложак, цёпла накрыць, аблажыць бутэлькамі з гарачай вадой і напаіць гарачай гарбатай з каньяком ці гарэлкай.

**Пры апараньні.** Ёсьць тры віды апараньня: 1) калі скура на целе толькі чырванее; 2) калі зьяўляюцца пузыры; 3) калі кавалкі цела абварваюцца і адвальваюцца, напр. моцныя асмаленьні вагнём.

У першых двух выпадках да хворага месца прыкладаецца халодны аклад. Ня можна зьдзіраць пузыроў, але можна чыстаю голкаю прапускаць пузыры. Тое-ж месца, дзе пузыры зьдзёрты, трэба залажыць палатном, нашмараваным вазэлінай або алеем, на палавіну з вапнаваю вадою. У трэцім выпадку трэба найхутчэй зьвярнуцца да дохтара.

Пры апаленьні пякучымі кісьлямі трэба хворае месца паліваць вадой з дадаткам соды, або вадой, разьмешанай з вапнаю, або мыдлінамі.

Пры апячэньні вока вапнай трэба прамыць яго добра прафільтраванай вадой або малаком.

Пры апараньні лугам трэба апаранае месца паліваць вадою з дадаткам цытрыновага соку або оцту.

**Зацярушаньні вока.** Ня можна вока цёрці, але трэба яго прамыць чыстай, перакіпячонай вадой, а калі гэта не паможа, дык зьвярнуцца да дохтара.

**Непатрэбны прадмет у вуху.** Хворага трэба палажыць хворым вухам дагары і ўліць у вуха некалькі капляў цеплаватага алею ці гліцарыны. Нельга даставаць прадмет з вуха шпількай ці дротам, бо гэтым можна пакалечыць вуха, заганяючы прадмет яшчэ далей.

**Атручаньне:**—*чадам.* Учадзеўшага трэба вынесьці на сьвежае паветра. У хаце адчыніць вокны, дзьверы, юшку. Змачыць галаву хворага халоднай вадой і нацерці віскі нашатырным сьпіртам; даваць яго нюхаць; зрабіць, калі трэба, штучнае дыханьне. На ногі палажыць цёплыя кампрэсы (ручнік памачыць у гарачай вадзе і выкруціць). Калі

хворы ня прыходзіць да прытомнасьці, дык зьвярнуцца да дохтара. — *Грыбамі.* У гэтым выпадку трэба неадкладна выклікаць ваніты (рвоты), пры помачы казытаньня паднябеньня. Пасьля гэтага даць рыцыны, а праз некаторы час— выпіць чорнай кавы з віном ці ромам. Каб запабегчы атручаньню грыбамі, трэба іх перад смажаньнем ці гатаваньнем апарываць кіпятком, а пасьля ваду гэту адліць. — *Мясам або каўбасой.* Выклікаць ваніты, даць рыцыны або паставіць леватыву (клізму), з выварам льнянога насеньня. Даць выпіць у працягу 15 мінут 1 шклянку вады з распушчанай у ёй 1 лыжкай солі. — *Рыбай.* Выклікаць ваніты і паставіць леватыву, пасьля даць выпіць чорнай кавы з ромам ці віном. — *Алькаголем.* Выклікаць ваніты, або паставіць леватыву, зрабіць сьцюдзёны аклад на галаву і сьцюдзёныя абліваньні, піць моцную каву. Калі хворы перастаў дыхаць, зрабіць штучнае дыханьне. — *Лугам.* Даваць піць ваду з цытрынавым сокам, або кіслае малако. Сьпіну абліваць сьцюдзёнай вадой.—*Ёдам.* Даваць крахмал, разбаўтаны ў вадзе, бульбу. — *Ляпісам.* Даваць малако або салёную ваду 2—3 шклянкі. — *Карболкаю.* Даваць малако, або ангельскую соль, распушчаную ў вадзе, або 6—8 сырых яёк. — *Сулемаю.* Паставіць леватыву, даваць яечныя бялкі з вадою, малако. — *Фосфарам* (галоўкамі ад сернікаў). Даць піць цёплай вады, пасаліўшы яе, і вызваць ваніты. Не даваць малака і клустасьцяў.

**Павешаньне.** Самагубцу трэба асьцярожна зьняць з пятлі і палажыць на ложак. Расшпіліць гузікі, асабліва каля шыі, рабіць штучнае дыханьне, і калі хворы пачне дыхаць, даваць нюхаць нашатырны сьпірт і піць моцную каву з віном, ромам ці гарэлкаю. Яго-ж самога пакрыць цёплымі коўдрамі, аблажыўшы бутэлькамі з цёплай вадой.

**Паражэньне пяруном.** Хворага трэба распрануць, рабіць штучнае дыханьне, расьціраючы хворага.

**Паражэньне сонцам.** Хворага распрануць і палажыць у цені. Калі твар сіні — галаву яго трэба падняць угару, а калі бледны — апусьціць уніз. На галаву і грудзі палажыць хустку, змочаную ў сьцюдзёнай вадзе; цела расьціраць сьцюдзёнай вадой. Як толькі хворы можа глытаць, даваць як можна болей піць вады. Калі гэтыя сродкі не памогуць, трэба зрабіць штучнае дыханьне або даць кіслароду.

**Утапленьне.** Калі топленік бяспрытомны, трэба найхутчэй выкінуць з роту і носу пясок і балота і выпусьціць з горла ваду. Пасьля гэтага рабіць штучнае дыханьне, расьціраць, каб разагрэць цела.

**Утрата прытомнасьці.** Адразу зьвярнуцца да дохтара. Да яго прыходу трэба расшпіліць усе часьці вопраткі, палажыць хворага так, каб галава была ніжэй за рэшту це-

ла, скропліць твар і грудзі вадой, даць панюхаць нашатыр нага сьпірту.

**Пералом.** Да прыезду дохтара хворы мусіць мець поўны спакой. Зламаную руку ці нагу абкладаюць лёдам.

**Зьвіх.** Помач такая-ж, як пры пераломе. На зьвіхнутае месца кладзецца мяшочак з лёдам.

**Укус гадзіны.** Рана прамываецца пераваранай вадой з воцтам; перавязаўшы моцна рамянём ці ручніком вышэй раны, трэба пасьля гэтага рану высмактаць, *калі ў роце няма ніякіх царапін,* або выпаліць распаленым жалезам. Даваць хвораму шмат піць і старацца, каб ён пацеў.

**Укус авадня.** Трэба абмыць рану пераваранай астуджанай вадой з оцтам, або пашмараваць нашатырным сьпіртам.

**Укус шалёнага сабакі.** Рану абмыць і зьвярнуцца да дохтара для процішаленскага прышчэпу.

**Раптоўны кашаль** можна стрымаць гарачым малаком. Адна шклянка малака і адна лыжка несалёнае топленае саланіны (шмальцу).

**Калацьцё.** Калацьцё і боль у грудзёх, калі здаровае сэрца, заспакойваюць цёплымі кампрэсамі, якія трэба зьмяняць што 6—8 гадзін.

**Прастуда.** Хворага палажыць у ложак і напаіць гарачай гарбатай або ліповым цьветам, і добра цёпла акрыць.

**Боль галавы.** Лёд або хустку змачыўшы халоднай вадой прылажыць да галавы.

**Патлівасьць ног.** Трэба часта (што-дня) мыць ногі ў халоднай вадзе. Купіць у аптэцы 50 грамаў чыстага формаліну. Вымыць ногі з мылам у вельмі цёплай вадзе, каб распарыліся. Узяць 1-лыжку формаліну на 2 бутэлькі чуць цёплай вады і ў гэтай расьцечы трымаць ногі 20 мінут. Рабіць гэта праз 4—5 гадз. разы тры.

**Мазалі на нагах.** Распарыць ногі ў гарачай вадзе, зрэзаць мазалі нажніцамі. Трэба насіць выгодны абутак.

**Калі пячэ пякотка.** Разьмяшаць лыжачку ачышчанай соды ў вадзе і выпіць. Можна таксама прабаваць піць сьцюдзёную ваду маленькімі глыткамі, або халоднае малако. Есьці толькі белае мяса і малочныя патравы. Калі пякотка доўга трывае, трэба зьвярнуцца да дохтара.

# V Парады V

## Розныя парады для земляробаў.

**Як прысьпяшыць высыханьне дзерава і забясьпечыць яго ад скручываньня і трэсканьня.** 1. Сячы ў часе, калі дзерава мае найменш сокаў.

2. Сьсекшы хвойнае дзерава, пакінуць яго з гальлём, аж пакуль не пачнуць ападаць хвоі—тады ацярэбліваць.

3. Ліставое — на пню абдзерці з кары і сьсячы цераз некалькі месяцаў.

4. Сьсечаныя бэлькі класьці на падкладках.

5. Дзерава забясьпечываць ад вятроў, сонца і дажджоў.

6. Канцы бэляк акручываць пaпераю або анучамі, каб ня трэскалі.

7. Каб дзерава (дошкі) ня скручывалася, мачыць яго (калі трэба) ў цякучай вадзе, а потым сушыць у ценю.

**Забясьпечаньне дзерава ад гніцьця і грыба.** Паступаць, як сказана вышэй, апрача таго, два разы высмараваць гарачым карболінэумам або сінім каменем (80 грамаў на літр вады).

**Забясьпечаньне ад рабакоў.** Смараваць дзерава лугам, тарпатынаю, або сінім каменем (100 гр. на 1 л. вады).

**Калі найлепш сячы будаўлянае дзерава.** Дуб—у лістападзе, студні й лютым.

Ясень і граб — у лістападзе й студні.

Клён, грушу і яблыню — ў лістападзе й сакавіку.

Яліну — ў лютым.

Бярэзіну — ў лістападзе й сакавіку.

Алешыну, асіну і ліпу — ў лістападзе.

Вярбу — ў лістападзе й сакавіку.

Сасну — ў лістападзе й сьнежні.

Наагул-жа дзерава на будоўлю сячы тады, калі ўсе сокі з яго зыйдуць у карэньне (сьнежань—люты), або перад самым пачаткам руху сокаў (сакавік).

**Саленьне грыбоў.** Грыбы чысьцяць, апускаюць на 3—5 мінутаў у падсолены кіпяток (можна даць крыху воцту), адкідаюць на рэшата, абліваюць у рэшаце халоднаю вадою і даюць астынуць. Потым грыбы пластамі кладуць у судзіну, шапачкамі ўверх, перасыпаючы кожны пласт сольлю і перакладаючы перцам, кропам, чабаром. Судзінку накрываюць кружком і прыціскаюць камень. Калі грыбы асядуць, дапаўняюць судзінку сьвежымі грыбамі сказаным вышэй спосабам і нарэшце судзінку ставяць у халоднае месца.

На вядро грыбоў бяруць каля дзьвюх шклянак солі. Да саленьня добра надаюцца: сыраежкі, зялёнкі, апенькі, а так-жа казьлякі (масьлянкі).

**Марынаваньне грыбоў**. Чыста абцёртыя грыбы апускаюць у кіпяток, крыху падсолены й падкісьлены воцтам. Паварыўшы некалькі мінут, грыбы вымаюць, абліваюць на рэшаце халоднай вадой, даюць астынуць і складываюць у слоік, шапкамі ўверх. Потым — добры моцны воцат, прыпраўлены сольлю, перцам, лістамі, кмінам кіпяціць праз 10 мінут і калі ён астыне працадзіць і заліць ім грыбы.

Цераз 4 дні зьліць з грыбоў воцат, яшчэ раз пракіпяціць, астудзіць і ўзноў заліць ім грыбы. Калі цераз некаторы час воцат памутнее, яго замяніць сьвежым, таксама прыгатаваным, як і першы.

**Кансэрваваньне памідораў**. Сьвежыя, здаровыя, добра дасьпелыя памідоры перапусьціць праз машынку да мяса, або проста іх патаўчы. На кожнае кілё памідораў узяць 5 грамаў саліцылавай кісьлі і дакладна зьмяшаць з памідоравую масаю. Цяпер пералажыць масу ў бутэлькі, добра закаркаваць, коркі заліць лякам, або парафінаю і вынесьці ў пограб.

Гэтак прыгатаваныя памідоры могуць стаяць вельмі доўга, ня псуюцца й ня трацяць ні свайго колеру ні смаку.

Звычайна-ж сьпелыя памідоры вараць на кашу і, калі яна астыне, раскладываюць у бутэлькі, зьверху, засыпаюць саліцылавую кісьляю і закаркоўваюць, як вышэй. Гэты спосаб танейшы.

**Канфітуры з памідораў**. Перамыўшы ў халоднай вадзе дробныя зялёныя памідоры, апускаюць на адну ноч у моцна пасоленую ваду. Потым памідорам у гэтай-жа вадзе даюць раз закіпець, перакідаюць на рэшата і абліваюць халоднаю вадою. Цяпер памідоры важаць і на кожнае кілё іх робяць сыроп з 1 кілё цукру, дабавіўшы ў яго крыху ванілі і цэдры (жоўтай скуркі) ад 2 цытрын. Памідоры вараць у сыропе на лёгкім агні, аж пакуль яны ня стануць празрыстымі, старанна ачышчаюць ад пены, студзяць і захоўваюць як звычайныя канфітуры.

**Марынаваньне грушаў**. Сьпелыя грушы чысьцяць і кідаюць у халодную ваду — хвастоў не адразаюць. Потым халодную ваду зьліваюць і абліваюць кіпятком, каб яны памякчэлі. Выбраўшы грушы ў рэшата, даюць сьцячы гарачай вадзе, а потым складываюць іх у слоікі і абліваюць халодным сыропам, звараным з роўнай часьці вады і цукру.

Выстаяўшы 25—30 гадзін у халодным месцы, сыроп зьліваюць, дабаўляюць чацьвертую часьць моцнага воцту,

цынамону і гвозьдзікаў, вараць і астудзіўшы заліваюць грушы.

**Саленьне гуркоў.** I. Добра перамытыя ў халоднай вадзе гуркі кладуць радамі ў бочку і заліваюць адварам, прыгатаваным наступным спосабам.

На вядро вады бярэцца 80 дэка солі, паўгорсьці чабару (травы), пучок кропу і з паўгорсьці часнаку (зялёнага). Усё гэта варыцца, працэджваецца і ўліваецца ў гуркі. Залітыя гуркі зьверху пакрываюцца пластам дубовага, вішнёвага або смуроднікавага лісьця. Адвару наліваецца гэтулькі, каб ім былі пакрыты ўсе гуркі.

II. Сьвежыя зялёныя гуркі кладуць радамі ў кадушку і кожны рад перасыпаюць сечанаю гароднінай: кропам, хрэнам, гарчыцаю (можна класьці каліўцы чорнага перцу); калі кладзецца часнок—дык яго патаўчы, завязаць у палатнінку і палажыць у сярэдзіну кадушкі. Напоўніўшы кадушку гуркамі, засыпаць гароднінай і заліць расолам.

Расол гатуецца гэтак: бутэльку добрага воцту (віннага ці з эсэнцыі) уліць у вядро вады, усыпаць кілё солі і варыць (ведама, прыгатаваць гэтулькі вёдраў расолу, каб хапіла заліць гуркі). Калі расол закіпіць — зараз-жа й ліць у гуркі. Калі кадушка напоўніцца расолам, даць яму ў ёй астыць, потым гуркі прыціснуць кружком ці каменем.

**Сушэньне йгрушак і сьлівак.** Да сушэньня найлепшыя сарты йгрушак, што маюць шмат цукру і мяккае мяса. Прад сушэньнем іх трэба ценка абабраць, а большыя—раскроіць папалам; зярнят выбіраць ня трэба.

Перад тым, як сушыць грушкі, трэба іх спарыць. Парацца йгрушкі так доўга, аж пакуль зьмякнуць і даюцца прапіхнуць саломінай, але не разваліваюцца. Пасьля гэтага раскладаюцца па аднэй і пачынаюць сушыцца, адразу пры высокай тэмпэратуры (аж да 80° С). З часам тэмпэратура абніжаецца. У часе сушэньня йгрушкі трэба што 10—15 мінут перастаўляць, або пераварачываць.

Парнік да параньня йгрушак павінен мець добрую накрыўку і другое дзюркаванае дно, пад каторым знаходзіцца кіпячая вада.

Спосаб сушэньня сьлівак такі-ж, як і йгрушак. Толькі сьліўкі да сушэньня мусяць быць якнайстараньней высьпеленыя й цэлыя. Самае сушэньне сьлівак ня сьмее быць наглым, а толькі павольным.

**Кава з дубовых жалудоў.** Жалуды сушацца ў печы датуль, пакуль луска не адстане ад ядра. Пасьля жалуды абіраюцца, заліваюцца 6—8 разоў сьцюдзёнай вадой, на 6 гадзін кожны раз, каб сьцягнуць з іх горыч, а пасьля ўзноў сушацца на вольным паветры, пакуль зусім не сьцьвярдзеюць, і іх можна малоць у кавовым млынку або таўчы.

Малоць (таўчы) трэба як можна грубей, а атрыманы шрот прасеяць праз рэшата. Пражыць трэба буйны шрот асобна, а дробны — таксама асобна, прычым трэба ўважаць, каб яго як не перапаліць і каб не недапражыць. Ад гэтага залежыць і смак кавы.

**Гарбата з яблычных скурак.** Яблычныя скуркі праз дзень прасушыць у хатняй тэмпэратуры, потым дробна парэзаць, разлажыўшы на скаварадзе ценкім слоем, лёгка падагрэць на лёгкім агні, аж пакуль яны зусім ня высахнуць і не пацямнеюць. Гэтак высушаныя скуркі перахоўваць у шчыльных пачках і ў сухім месцы. Ужываюць — як і праўдзівую гарбату.

**Выраб мармэляды.** Ужываюцца яблыкі, ігрушы, цярэшні і інш. садовіна, нават ападкі, а таксама лясныя ягады.

Яблыкі (дзеля прыкладу!) перабраць, перамыць і выразаць папсутыя часьці. Уліць у пасудзіну крыху на дно вады, усыпаць садовіну і, стала мяшаючы, разварыць на кашу. Кашу працадзіць праз лыкавае (не драцянае!) рэшата і атрыманую мязгу варыць яшчэ каля гадзіны, стала мяшаючы. Пасьля даецца на кожнае кілё спатрабаваных яблыкаў — дэка пясковага цукру і варыцца яшчэ 30—40 мінут, усьцяж мяшаючы.

Варэньне мармэляды кончана тады, калі яна з лапаткі, якою мяшаецца, не сьцякае роўна, але спадае асобнымі кавалкамі. Гатовую мармэляду, яшчэ гарачую, зьбіраюць у шырокія слаі, лёгка іх прыкрываюць і пакідаюць стынуць да другога дня; завязываюцца слаі пэргаміноваю папераю і стаўляюцца ў халоднае месца.

Пры выраблянньні мармэляды з ігрушак, радзяць на кожныя дзьве часьці йгрушак даваць адну часьць яблыкаў: — мармэляда хутчэй і лепш згусьцее.

**Рабінавы сок.** Зьмерзлыя рабіны ўжываюцца дзеля вырабу соку, каторы, калі да яго прыдаць крыху цукру, паварыць і ўзноў працадзіць, замяняе сок цытрыновы, а зьмешаны з вадою дае добры напітак.

**Перахоўваньне яек на зіму.** Дзеля перахоўваньня невялікай колькасьці яек ёсьць некалькі спосабаў, з каторых найлепшыя:

1. *Рашчына з вапны.* На 1 кілё вапны даць 15—20 літраў вады, добра перамяшаць і цераз 2—3 дні зьліць рашчыну ў іншае начыньне, але без асадку. Цяпер дадаецца 2—4 гр. солі, мяшаецца і кладуцца яйкі так, каб над імі было на якую далонь цечы. Начыньне пакрываецца палатном і пасыпаецца слоем вапны.

2. *Рашчына солі.* На 1 літр вады даць 12—15 грамаў солі і 2—3 лыжкі вапны. У гэтай рашчыне яйкі добра перахоўваюцца нават пры ніскай тэмпэратуры.

*3. Воднае або цеклае шкло.* На 1 літр воднага шкла даецца 10 літраў вады.

Укладаючы яйкі ў начыньні трэба глядзець, каб яны не датыкаліся адно да другога. Яйкі, кансэрваваныя гэткім спосабам, ня трацяць ні запаху ні смаку, а перад ужываньнем да варэньня шкарлупу трэба накалоць голкаю, каб варачы ня лопалі.

**Да чаго служыць соль.** Што соль дае смак страве, кожны ведае, але ня кожны знае, што соль можа служыць:

1) да чышчэньня начыньня ад нагару. — Прыгатаваць рашчыну — на кожнага паўлітра вады сталовая лыжка солі — і праварыць яе ў начыньні. Нагар лёгка адстане і начыньне будзе як новае.

2) да ўзмацненьня шчаціны і валосься ў шчотках. У паўлітры цёплай вады распусьціць 2 лыжкі солі і ў гэтай расьцечы пратрымаць мінут 10 новую шчотку — ня так будзе ламацца і выцірацца валосьсе.

3) Варачы яйкі, яны часта лопаюць і выцякае бялок. Сродкам процiў гэтага — соль, якая сыпецца ў ваду (на паўлітра — лыжка солі).

**Полыск мядзянага начыньня.** Каб мядзянае начыньне даўжэй захоўвала свой полыск, трэба выціраць яго пастаю, прыгатаванаю з лыжкі мукі і солі з дадаткам лыжкі воцту. Выцершы начыньне — выпаласкаць у вадзе з содаю і дасуха выцерці.

**Соль да кансэрваваньня мяса.** Мяшаецца 35 ч. солі, 35 ч. салетры і 30 ч. борнай кісьлі і атрымліваецца парашок. Парашок гэты лепш кансэрвуе мяса, чым адна соль.

**Гартаваньне шкла.** Шклянае начыньне, а так-жа і шклы да лямпаў кладзецца ў начыньне, напоўненае вадою, у каторым крыху распушчана солі, а варыцца аж да кіпеньня. Потым, ня выймаючы з вады, зусім астудзіць.

**Чышчэньне бочак і іншага судзьдзя.** Залежна ад вялічыні бочкі, загасіць у ёй крыху вапны, накрыўшы чым-небудзь бочку (усыпаную вапну для гашэньня заліць вадою — так, каб яна стаяла над вапнаю на пальцаў 2—3). Калі вапна згасіцца, даліць болей вады (зрабіць вапеннае малако) і дзеркачом высмараваць бакі бочкі. Нарэшце бочку вымыць чыстаю вадою.

Вапеннае малако можа быць ужыта, напр., да бяленьня сьцен у хлявох, да заліваньня памыйных ямаў, да прыгатаваньня тынку і інш.

**Барацьба з мухамі ў хлявох.** Для барацьбы з мухамі ў хлявох і канюшнях радзяцца наступныя спосабы:

1) Добра праветрываць будынкі і калі ў іх ёсьць вокны — замазываць іх вапенным малаком з сінькаю.

2) Абмазываць сьцены вапнаю, крэалінам, галыном, газаю ці карболінэумам.

3) Намазываць самую скаціну сродкамі, якіх мухі баяцца: адварам у воцце зялёнага лісьця арэшніку, адварам тытуню ці бабковага лісьця ў сьвіным сале. Ужываюць таксама разьведзеныя ў вадзе крэалін, крэзалін, лізоль і карболавую кісьлю. Добра дзее анісавы алеек, тарпатына і рыцына. Так-жа часта націраюць скаціну альясам, распушчаным у гарачай вадзе, разьведзеным у вадзе дзёгцем, моцным адварам зялёных канапель, сасновых шышак.

4) Мухі вельмі любяць гной, куды кладуць свае яйкі— зародкі будучых мухаў. Для зьністажэньня гэтых зародкаў гной пасыпаюць калійнымі парашкамі, асабліва-ж каінітам.

5) Заўважана, што мухі ня любяць памешканьняў, сьцены каторых памалёваны сіняю фарбаю.

**Нішчэньне тараканоў**. Добраю атрутаю на тараканоў ёсьць зялёная фарба — швэйнфурцкая зелень. Парашок зелені, зьмяшаны з дробненькім парашком цукру, сыпецца ўсюды, дзе тараканы любяць спацыраваць. Яны ня толькі ядуць гэтую атруту, але ходзячы па ёй аблепліваюць свае ногі і потым затручываюць сабе іншую ежу.

**Сродкі на клапоў**. 1. У 15 част. вады пры награваньні распускаюць 4 ч. зялёнага мыла і да яшчэ цёплай рашчыны дабаўляюць: 1 ч. тарпатыны і 2 ч. газы.

Атрыманаю мешанінаю мажуць усе шчыліны ў сьценах і ложках.

2. 20 ч. тарпатыны, 50 частак стручковага перцу і 50 ч.. настойкі альясу мяшаюць пры награваньні. Калі мешаніна яшчэ не астыла — дабаўляюць 1 ч сулімы.

Ужываюць, як і першую.

3. Добра нішчыць гнёзды клапоў серкаваю кісьляю, каторую потым яшчэ паліваюць кіпятком.

Серкавую кісьлю ўжываць вельмі асьцярожна, каб ёю не забрызгаць сабе адзежы, ці рук або твару. Трэба быць вельмі асьцярожным пры наліваньні кісьлі вадою.

4. Расьцерці ў вадзе белага купарвасу і, дабавіўшы нягашанай вапны, замазаць усе шчыліны і дзіркі ў сьценах, перад гэтым аскробшы іх ад пабелу (калі сьцены былі пабелены). Сьцены нанова выбеліць вапнаю на купарваснай вадзе (на хату ў 5 мэтраў шырыні й даўжыні трэба ня болей 1 кілё белага купарвасу. Дзьверы, сталы, ложкі і інш. мэблі вымыць купарваснаю вадою, а калі ў падлозе ёсьць шчыліны, то іх так-жа добра намачыць гэтаю вадою.

# Розныя парады для рамесьнікаў.

## Масьцікі (кіты, замазкі).

*(Добра выпрабаваныя рэцэпты).*

Масьцікі служаць для склейваньня і цэмэнтаваньня прадметаў, да прыклейваньня частак прадметаў, як на старыя месцы прадметаў, так і на новыя, для запаўненьня дзюрак, трэшчынаў і інш. пустых месцаў.

*I. АЛЕЙНЫЯ МАСЬЦІКІ* — прыгатаўляюцца з высыхаючых алеяў (пераважна на пакосьце) і ў вадзе твораць нераспушчальныя злучэньні. З іх найважнейшыя:

*Цынкавая замазка* — 60 частак мелу, 20 ч. цынквайсу, 25 ч. пакосту (для мяккасьці дабаўляюць каля 1 ч. тарпатыны).

*Міньёвая замазка* — 50 ч. мелу, 25 ч. цынквайсу, 12 ч. мініі і 25 ч. пакосту. Замест пакосту бяруць копалавы лякер — ён робіць замазку мацнейшаю.

Служыць такая замазка для злучэньня шкла, або шкла з мэталем, для замазываньня дзюрак у дзераве.

*Француская масьціка* — пяску 300 ч., вапны нягашанай 100 ч., глейты 50 ч., ільнянага алею 35 ч.

Цьвярдзее доўга і служыць для злучэньня каменьняў, для замазываньня орнамэнтаў. Для гэтага служаць яшчэ:

*Інфузорная масьціка* — інфузорнай зямлі 10 ч., глейты 8 ч., мініі 1 ч., гашанай вапны 5 ч., пакосту 4 ч., цынквайсу 1 ч.

*Масьціка Дэвільля* — роўныя часткі блейвайсу і гіпсу разводзяцца льняным алеем, лепш нагрэтым. Цьвярдзее хутка.

*II МАСЬЦІКІ СА СМОЛАМІ* — вельмі непраніклівыя для вады і газаў.

*Ляк звычайны* — шарляку 60 ч., тарпатыны 50 ч., драўлянай смалы 20 ч., цынобры 20 ч. Для лепшага ляку склад будзе такі: шарляку 55 ч., тарпатыны 74 ч., магнэзіі або мелу 30 ч., цынобры 13 ч.

*Масьціка для шкла* — 60 ч. шарляку і 40 ч. тарпатыны пры асьцярожным награваньні.

*Для склейваньня парцэляны* — 10 ч. бурштыну, 10 ч. серкавага вугляроду і 5 ч. бэнзыны. Бурштын распускаюць і награваюць датуль, пакуль ён не перастане выдзяляць газы, потым, ахаладзіўшы, яго таўкуць і ўсыпаюць у рашчыну бэнзыны з серкавым вуглеродам. Склейваць як найхутчэй.

*Для склейваньня скуры* — 1 ч. асфальту, 1 ч. каляфоні і 4 ч. гумілястыкі распускаюць у 20 ч. серкавага вугляроду.

*Для заліваньня нажоў у ручках* — 20 ч. каляфоніі,

5 ч. серкі, 5 ч. жалезных апілкаў. Усё гэта растапіць і заліваць у ручкі.

*Для замацаваньня жалеза ў камені* — 40 ч. вару (шавецкай смалы), 5 ч. тарпатыны, 10 ч. серкі, 20 ч. жалезных апілкаў.

*III. МАСЬЦІКІ НА ГУМЕ (каўчуку) І ГУМІЛЯСТЫЦЫ.* *Для скуры* — рашчына гумілястыкі ў серкавым вугляродзе з невялікай колькасьцяй газы (карасіны).

*Для склейваньня гумовых грабянёў* — паломаныя часьці намазаць моцнаю рашчынаю гумілястыкі ў серкавым вугляродзе і злучыць; калі высахне — змачыць рашчынаю серкі ў серкавым вугляродзе.

*Для шкла і скуры* — 100 ч. гумілястыкі, 100 ч. асфальту, 15 ч. тарпатыны. Ужываецца нагрэтай.

*Для прыгатаваньня непрамакальных тканінаў і для склейваньня скуры* — гумілястыкі 10 ч., бэнзыны 100 ч., пакосту 100 ч.

*Для склейваньня дзерава, шкла, парцэляны, рогу* — гумілястыкі 100 ч., сасновай смалы 200 ч.

*IV. МАСЬЦІКІ НА ТВАРАГУ, КЛЕЮ І КРАХМАЛЕ.* *Для парцэляны* — 10 ч. твարагу і 60 ч. цеклага шкла.

*Для дзерава* — 10 ч. тварагу і 5 ч. бураксу з вадою.

*Для мэталяў* — 10 ч. пяску, 8 ч. тварагу, гашанай вапны 10 ч. з вадою.

Каб масьцікі на тварагу маглі доўга захоўвацца, да тварагу дадаецца крыху камфоры.

*Для наклеяк* — рыбінага клею 25 ч., цукру 12 ч., вады 36 ч. і некалькі капляў карболкі.

*Для шкла* — 200 ч. клею распускаюць у 100 ч. вады пры награваньні і дабаўляюць 50 ч. гашанай вапны. Ужываюць гарачай.

*Для склейваньня шкла і парцэляны* — карыстаюцца нагрэтаю рашчынаю жэлятыны ў 50 працэнтавай воцатнай кісьлі.

*V. ІНШЫЯ МАСЬЦІКІ. Гліцарынавая масьціка* — гліцарына з глейтаю дае добрую масьціку, якая хутка застывае і не зьмяняецца ні ад кісьлі ні ад лугу. Можа служыць для склейваньня дзерава, мэталяў і шкла.

*Масьціка з гіпсам* — гіпс разводзіцца гуміарабікам, які бярэцца ў рашчыне, або сухім. Добрая масьціка.

*Для злучэньня трубаў,* на якія дзее высокая гарачыня, — мелу 100 ч., цеклага шкла 25 ч.

*Агняўпорная масьціка* — 20 ч. жалезных апілкаў, 45 ч. гліны і 10 ч. перакісі мангану мяшаюць з вадою, у якой распушчана 5 ч. солі. Масьціка супроцьставіцца высокай тэмпэратуры, пры чым вытварае шклістую масу.

*Чышчэньне залочаных рамак, забруджаных мухамі.* 1. Рамка зьвільжваецца вінным воцтвам, цераз некалькі мінут змываецца халоднаю вадою і сушыцца пры ўмеранай цяпліні.

2. Пакроеную цыбулю мачаць у вінным сьпірытусе і выціраць ёю пазалоту.

*Сродак да чышчэньня шкла і мэталяў.* Кусочак паленай магнэзіі зьвільжыць бэнзынай так, каб яна была толькі мокрай, а не расплывалася. Пры ўжываньні маса набіраецца на анучачку, або на кусочак мяккай скуркі і чысьцецца ёю дадзеныя рэчы.

Апрача гэтага бэнзынавая магнэзія служыць да выбіраньня клустых плямаў з воўны, сукна, шоўку, а нават і з далікатнай разьбы на дзераве.

Так прыгатаваную бэнзынавую магнэзію лёгка перахоўваць у добра закаркаваным шкляным слоіку.

*Мазь для непрамакальнасьці абутку.* 1. Растапіць 1 ч. па вазе смалы з 2 ч. мыла. Перад ужываньнем гэтай мазі скуру нагрэць і потым шмараваць пэндзлем, як верх абутку, так і падэшвы, каб потым такой скуры вярнуць глянец — шмаруецца мешанінаю з 1 ч. воску і 1 ч. тарпатыны, зафарбаванай сажаю.

2. Растапіць разам крыху лою й саланіны — астудзіць. Для шмараваньня абутку распускаецца прыгатаванай масы гэтулькі, колькі трэба для 1—2 пар. Калі маса пачне кіпець — дадаць лыжку тарпатыны. На абутак мазь ужываецца ў цёплым стане. Абутак потым высушываецца.

*Агняўпорны кіт да печаў.* Парашок 1 ч. бураксу зьмяшаць з 4 ч. гліны і вадою разьвясьці на цеста. Лепей-жа буракс распусьціць і зьмяшаць з сухою глінаю, — такі склад лепшы.

*Звычайны кіт да печаў.* 1. Варыцца ў вадзе галын з крышкаю солі і мяшаецца з бульбяною мукою, каб атрымаць густую цечу, з каторай мяшаецца парашок гліны. Так прыгатаваным цестам замазываюцца дзюркі.

2. Чысты, прасеяны попел мяшаецца з сольлю і перарабляецца на цеста. Калі да гэтага дадаць крыху гліны, дык маса будзе шклістаю.

Гэтым кітам вельмі добра замазываць дзюркі ў жалезных печах.

*Агняўпорны кіт да мэталяў, парцэляны і глінянага начыньня.* 1. Салодкі сьвежы тварог распускаецца ў гарачай вадзе і мяшаецца з расьцёртаю нягашанаю вапнаю, пакуль мешаніна ня дасца выцягаць у ніткі.

Яшчэ лепш тварог распусьціць не ў вадзе, а ў бялку ад яек.

2. Стваражыць воцтам літр салодкага малака. Астудзіўшы, зьліць сыраватку і тварог зьмяшаць з 4—6 бялкамі, дадаць парашку нягашанай вапны і ўсё дакладна перамяшаць.

Гэткі кіт па ўжываньні прасушываецца на паветры, потым на агні.

Замест бялка можна ўжыць валовую кроў.

*Спосаб адсьвежыць лякераваныя рэчы.* Лякераваную рэч ачысьціць ад пылу і зьлёгка пры помачы чыстай мяккай анучачкі пацягнуць аліваю. Потым сухою чыстаю хусткаю выцерці аж да сухасьці.

Спосаб гэты надаецца і для адсьвежаньня палітураваных рэчаў.

*Застасаваньне нашатырнага сьпірытусу.* 1. Да чышчэньня абразоў — сталовая лыжка сьпірытусу на 5 бутэляк вады.

2. Да чышчэньня тканінаў з клустых плямаў—капнуць сьпірытусам на пляму, а калі ён вытхнецца, перапрасаваць цераз паперу.

3. Да чышчэньня залатых і срэбных рэчаў і дарагіх каменьняў — зглажыць зубную шчотачку ў расьцечы лыжачкі сьпірытусу на лыжачку гарачай вады.

4. Для злагоджаньня болю ад укусу восаў і камароў— змачыць укушанае месца.

5. Да чышчэньня шчотак і грабянёў — мыць у вадзе, да каторай дадаецца сьпірытус у большай або ў меншай колькасьці, залежна ад іх забруджаньня.

*Адсьвежываньне мэбляў.* Палітураваныя мэблі, забруджаныя мухамі, шмаруюцца цестам з алівы і пшанічнай мукі. Калі цеста падсохне — выцерці нашмараваныя мясцы ватаю, воўнаю або мяккаю скуркаю.

Мэблі дубовыя, не палітураваныя, трэба выцерці з бруду і пылу тарпатынаю, у каторай крыху распушчана воску.

*Памадка да чышчэньня мэталяў.* 400 грамаў мыла дробна парэзаць, заліць дзьвюма шклянкамі вады і разварыць. У гарачую такую цечу ўсыпаць: 50 гр. дробнай крэйды, 25 гр. блейвайсу, 25 гр. сіняга каменя і 25 гр. паленай магнэзіі, — усё разьмяшаць, і памадка гатова. Каб хутка ня высыхала, дадаць лыжку гліцарыны, або нават алівы.

Такою памадкаю можна чысьціць нават срэбныя й залатыя рэчы.

*Пабяляньне начыньня халодным спосабам.* Начыньне мусіць быць добра вычышчана, асабліва-ж ад клустых плямаў. Для пабяляньня трэба мець: 1) цынк у парашку, 2) рашчыну валавянай солі ад 5 да 10 градусаў Бомэ, да каторай прыбаўлена крыху віннага каменя і 3) губку.

На шкло пасыпаюць некалькі кучак цынкавага парашку, каторы бяруць губкаю, намочанаю вялавянаю рашчынаю; сільным націраньнем наводзяць пабел датуль, пакуль усё начыньне ня будзе пабеленым. Потым яго абмываюць і вычышчаюць мелам.

Гэтак можна ня толькі пабяляць нанова, але і падпраўляць стары пабел на медзі, жалезе і чыгуну.

---

# Парады гаспадаром у беларускай мастацкай літаратуры

Перадрукоўваем ніжэй некалькі вершаў із зборніка твораў Паўлюка Труса (Паўлюк Трус, збор твораў, бач. 326 4 нлб., выдавецтва Беларускай Акадэміі Навук, Менск — 1934). Паўлюк Трус — адзін з найздальнейшых паэтаў Ўсходняй Беларусі. Радзіўся ў беднай беларускай сям'і ў вёсцы Нізок Меншчыны ў 1904 г. Памёр у 1929 г. з прычыны хваробы брушнога тыфусу, калі быў студэнтам Пэдагогічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Памёр у пару, калі яго мастацкі талент уступіў у фазу свайго красаваньня. — Нябожчык быў тыповым сялянскім пісьменьнікам, добрым знаўцам душы і патрэб беларуса-селяніна.

## Калі хочаш, каб быў ураджай,— дык жывёлу на рунь ня пускай.

Зарунелі жытам гоні;
Поле — вольны акіян.
Хараством квітнее сёньня,
Дзе нядаўна рос дзірван.
І на ўтоптаных загонах,
На мінулай цаліне,
З новай песьняю сягоньня
Дзень прадраньнем заруне́ў.
Эх, бязьмежнае ты поле! —
Адбірае вочы рунь, —
З кожным годам будзем болей
Напаўняць снапамі пунь.
Жыта гусьціцца, як шчотка, —
Будзем мецъ вагу і сноп.
[Не паўстаньне горад цётка] —
Так гаворыць земляроб.
Але вось адна загана:

Не скаваў зямлю мароз,
Як на рунь, аж да зьмярканьня
Коняй цягнецца абоз.

* * *

Чуць займаецца на золак,
Сьпяць панурыя кусты,
А над вёскаю, наўкола,
Льлецца гоман з цемнаты.
Селянін — Кузьма руплівы,
З добрай пугаю Тамаш,
Уляпіўшыся за грыву,
Цягнуць коні ў самапас.
А далей Сымон Пахілы,
Янка Тодараў, Язэп,
Апанас, Рыгор Пажылы —
Гоняць коні, як у стэп.
Адкаваліваюць ськівы
Коні гакамі падкоў,
Робяць поле на сядзібы
З воспай выбітых карчоў.
Напаўняюць далі зыкі:
—„Гэй буланы! Гэй, каштан!...
Будзем сыты і вялікі
Сам сабе на жыцьцё пан.“
—„Ты ня слухай агранома,
Слухай ты старых дзядоў.
Гэй, кабылка! Будзь, як дома, —
Не баіцца рунь сьлядоў!“
Пра навуку лепш маўчы там,
Бо вучыў іх дурань-дзед.
Так і месяць коні жыта,
Зерне гоняць на той сьвет.
А як стала на прадвесьні,
Дык патыліцу скрабе:
Няма хлеба, хоць тут трэсьні —
Трэ' гатовіцца к сяўбе.
А улетку аб бацьвіньні
Цягне цяжкую касу,
Бо на рунь пускае сьвіньні,
Нішчыць восені красу.
Рунь, падобная на тарку,
Уся пабіта на сьляды:
„Паляпшае“ гаспадарку
Селянін наш малады.

* * *

Дык вось, нядбалыя сяляне,
Ня злуйце ўжо за спавяданьне

Хай будзе гэта вам навукай,
Па ёй вучыцеся і ўнукі.
Вы не рабіце вечна шкоды,
Сабе і полю нявыгоды.
Старыя кідайце пагляды,
Вучоных слухайце вы рады.
Тады паднімем гаспадарку,
Ня будзе мазалёў на карку.
Закон: па руні не таптацца,
Каб нам бяз хлеба не астацца.

## Каб малака было па вушы—выводзь карову з калатушы

Скора пухлаю пярынай
Ляжа белая зіма,
А глядзіш — у селяніна
Ладу пэўнага няма.
Паразвалена будова,
Вецер стрэху парастрос;
Сохне бедная карова,
Ные й скардзіцца на лёс.
Не клапоціцца ніц-ніцам,
Не падумае Макар,
Як жыве там заграніцай
Швэд — сьвядомы гаспадар.
І ў нашага Макара
Не забіта галава, —
Для каровы, як на кару,
Не падправіў ён хлява.
Гной, гразішча па калена,
Сырасьць, холад, цемната —
Вось пануе гігіена —
Проста глянуць любата.
А настане час даеньня, —
Бойка там не навіна:
„Ах ты, чортава насеньне,
Русамаха, сатана!"
Злосьць кабету разьбірае,
Твар яскравіцца агнём.
—„Эх, ня здохла ты малая,
Не згарэла пяруном!
Тут Настуля — за вяроўку,
Рашчыніўшы ляпу-рот,
Моцна спутала кароўку,
Зашчаміўшы рогі ў плот.
І паважна пад каровай

Села баба з пугаўём;
Шэпча „пацеры-замовы:"
—„Стой, кароўка, бо калом!...

Стой дурніца, стой рагуля,
Я цябе перахрышчу!"
Кажа порсткая Настуля.
—Стой, ня здохнеш, адпушчу.
Слоў ня скончыла кабета,
Як рагуля трах нагой!
—„Ах, варопаўка! Ты гэтак?!
Шчэ сьмяешся нада мной?!"

І, схапіўшы патарчаку,
Бух рагулю па баку!
І пусьцілася ў атаку
Баба, скурчыўшы руку.
Так карова шаляніцай
Стала ўмомант на вачох,
А кабеціна-дурніца
Па рагулі бух ды бух!

* * *

Тут вінавата не рагуля,
А несьвядомая Настуля.
Хай гэта будзе ўсім навукай:
Кароў даіць—ня трэба нукаць.
Ня трэба біць, чытаць „замовы,"
А трэба ўмець даіць каровы.
Бо байкі, путы і пастронкі
Ня будуць поўніць нам даёнкі.

Таксама я пагавару
І раду дам гаспадару:
Каб малака было па вушы —
Выводзь карову з калатушы.

## Вось калі Сымон лайдак у самагонцы пачуў смак

Ўдзень асеньні, на зьмярканьні,
З порскім выглядам Сымон
Задумённа, клапатліва
Гнаць зьбіраўся самагон,

Бо на сьвята, на Пакровы,
Меўся быць у яго поп;
Дзядзька з выглядам талковым,
Чухаў свой лайдацкі лоб.

Вось ён выцягнуў калёсы,
Квачам колы мазануў,
Панацягаваў атосы, —
Шчыльна затычкі заткнуў.

— — — — — — —

І на воз, усланы сенам,
Ставіць брагу ціхачом,
Дзе бурлівіла ўжо пена,
Пар разносіўся клубком...

Потым шчуплую канягу
Дзядзька шморгнуў за вазок;
Сам, трымаючы адвагу,
Адхіліўся на часок.

Ён пусьціўся да Аленкі —
Быў патрэбен яму гляк,
Каб у часе перагонкі
Адабраць адзін пяршак.

Покуль „выенчыў" пасуду,
Дык забавіўся Сымон.
А тымчасам конь-паскуда
Зьнюхаў зразу самагон.

Скоса глянуў на заправу,
Галавою страсануў
Дык, ня гледзячы на страву,
Ражку з брагай абярнуў.

І з разьзяўленаю ляпай
Конь нахлынуў на яду.
Грывай трос, зубамі ляпаў, —
Так „упісваў" ён „брыду."

Еў, а потым неўзабаве
Брык ды кінуўся, як труп.
Як відаць, па гэтай справе
Будзе коніку капут.

Стогне бедная жывёла,—
Бок узьняўся, як гара;
Ногі выпрудзіў пад колы
І кляне гаспадара.

Вось Сымонка прыбягае,
Бачыць – конь атрупянеў.
Божа, матачка сьвятая!
Дзядзька чуць не абамлеў.

Ды скарэй к вэтэрынару
Як шалёны драпануў.
„Божа мілы, што за кару
На мяне ты навярнуў!“...

І, прыняўшы пад увагу,
Вэтэрынар яму памог,
А то конь ад цеста-брагі,
Каля ражкі чуць ня здох.

* * *

Вось калі Сымон Лайдак
Ў самагонцы пачуў смак.
Вам усім адзін закон —
Гнаць пакінуць самагон.

## Лячыся ў дохтара, а не ў шаптухі

Нядаўна, не'к на тэй нядзелі,
Рыгор з Параскай пахварэлі.
А што сказаць было такое?
Жывот на гвалт хапіў абоіх.
Параска — жоначка Рыгора, —
Яна паправілася скора.
І толькі вось, як закараньне,
Рыгор ня правіўся ні званьня:
Ў грудзёх хрыпотаю заслоніць,
З канцоў абодвых як пагоніць!...
Ня меўшы помачы ніякай,
У трэску высах небарака.
Галосіць жонка, плачуць дзеці:
Рыгор ляжыць, як на тым сьвеце,
Ляжыць на высланай пасьцелі
Галёнкі — ногі пасінелі.

* * *

Параска выскачыла з хаты,
Прыводзіць „дохтаршу Агату.“
Агата, змацаўшы Рыгора,
Парасцы ўпэўнена й гаворыць:
—Якое трапіла здарэньне?!...
Ў яго, Парасачка, зрушэньне:
Яму падкочвае пад грудзі! —
Параска ў голас:—Што тут будзе!..
О, хто ў няшчасьці мне параіць?..—
—Гаршчок на пупе трэба ставіць,—
—Ня плач і сьціхні калі ласка,
Дзяцей сваіх ты не палохай,

І ты, Рыгор, ня енч, ня вохкай.
Ну, што зрабіць, — усё ад Бога...
Мы зробім, будзе дапамога.
Я, Богу дзякаваць, кабета
Ужо смышлённая на гэта.
Я век на гэтым дажываю
І людзям добра памагаю,
Усіх лячыла ад зрушэньня, —
Бо мне ня першае здарэньне.

* * *

Агата, доўга не чакаўшы,
Гаршчок замурзаны ўзяўшы,
Туды кудзелі вось наклала,
Малітву ціха зашаптала.
Малітву скончыла і скора
Пашла—пад хворага Рыгора.
Рыгор канчаецца і енчыць, —
Азадак ўскіне, то прыкленчыць,
А ў жываце пытлюе, меле;
Рыгор ня тоўпіцца ў пасьцелі
І просіць боскага збавеньня,
Ратунку просіць ад зрушэньня.
Агата зрэб'е падпаліла,
Гаршчок да пупа прытуліла.
Сама прысела на пасьцелі
І шэпча пацеры так веле.
А ў хаце ціха, як ніколі.
Рыгор стагнаў ужо паволі.

* * *

Прачнуўся, стогне:—Вой! о—ёй!
—Рыгор, Рыгорка, што з табой?!..—
Параска ў крык, у лямант дзеці
(Рыгор зьбіраецца памерці),
Жывот ад сьпіны пацягнула;
Худое цела дрыганула, —
З законам фізыкі на пупе
Рыгор во-во жыцьцё загубіць.
Агата, чортава шаптуха,
Кулём і з хаты, прэ бяз духу.
Падняўся крык—мужчыны ў хату:
Рыгор ляжыць, як-бы расьпяты.
Пятрусь пад лаву, за сякеру, —
Гаршчок абухам размажджэрыў,
Ад сьмерці выкупіў Рыгора,
А то ўжо кончыўся-б ён скора.

* * *

Дык вось, браткі мае! Шаптуху,
Я раю вам і век ня слухаць, —
Ня слухаць, што яны гавораць,
А то вось будзе, як Рыгору.
Пытайся ў дохтара аб гэтым,
Бо гэтыя усе кабеты
Табе ад гэтага зрушэньня
Дадуць на век ў труне збавеньне.

## Ад зёлак бабскіх і ад лекаў на век астанешся калекай

Мая ты родная сястрычка,
Нахай-бы я яго ў каплічку
Аднесла-б нечага зусім,
Як так пакутаваць з малым,
Або самой-бы ўжо памерці,
Ды не дае Бог толькі сьмерці.
Ну, гэта-ж, матачкі мае!...
Як толькі вечар настае,
Дык колькі вынясеш пакуты,
Вось з гэтай самаю няхлюдай,
І то скажы, мая сястрыца,
Такі-ж караваю спадніцай
Сьцірала я яго на змроку,
Баіцца, думаю, мо' зроку?...
І што,
І што я ні рабіла
Няма й тае,
Што была, сілы!...
Штодня малюся перад Богам,
Каб да сябе забраў малога
Ды ўсё дарэмна,
Толку мала!...

— А я ня раз табе казала,
Нашто дзіця табе пажылай!...
Дык ты на тое варажыла,
Што ротны возьме цябе замуж.
Ой, не, галубка!...
Толькі самі
Мы ў гэтым бабы вінаваты,
Што так таргуюць „нашь'м братам."
Вось ты удумайся сама!
Ці-ж у цябе дзяцей няма?,
Вунь сталых, дзякуй Богутрое,
Яшчэ к таму адно малое;

Дачку хоць заўтра замуж можна,
Аскому мае хлопец кожны.
Табе ўсё мала —
Яшчэ назолы прычакала.
Ну, што сказаў-бы твой Мікіта,
Каб ён вярнуўся з таго сьвету? —
Сама я ведаю, Альжбета,
Што я, як блудніца кабета,
Але-ж ужо не перайначыш,
Граху ня згоіш горкім плачам,
Як людзі кажуць, праўся з сілай,
Калі на сьвет дзіцё пусьціла.
Мар'яна змоўкла...
Толькі сьлёзы,
Як сок з параненай бярозы,
На землю капалі расою,
Сьляза адна і за сьлязою...
Ды так пасыпалі буйныя...
— Ня плач,
Ня плач! Мы ўсе дурныя.
Мар'яну сьцешвае Альжбета,
— Падзякуй Богу і за гэта,
Што не зракліся цябе дзеці...
А то цягалася-б па сьвеце,
А так,
Усё табе прыпынак.
—Ну,што рабіць мне з дзіцём-сынам?
Каб не баялася „тэй сілы“,
Ўзяла-б ды проста атруціла.
— Пабойся Бога, маладзіца!..
Няхай табе і ў сьне ня сьніцца...
А што рабіць?
Скажы, Альжбета,
А не,—то месяц будзе сьведкай...
. . . . . . . . . . . . . . . . .
— Ну, выкінь ты дурныя думкі!...
Паслухай толькі і раздумай:
Вазьмі на выпадак усякі —
Насып ў гарнушак зельля-маку,
Запар яго ды дай на спробу, —
Бо гэта зельле ад хваробы,
Калі дзіця ня сьпіць уночы,
Успомніш, кумачка мяне, —
Спаць будзе доўга, як засьне.

* * *

Чуць сонца выплыла з-за бору,
У гэту раненькую пору,
Мар'яна йдзе ў сваю камору,

Набрала макавак і скора
Заўчэсьне ў печы падпаліла
Ды макам хлопца напаіла.
Дзіцё зяхнула разоў пару,
А потым соладка у марах
Заснула ціха ў калыбелі.
Аб гэтым думала таквеля
Яна —
распусьніца Мар'яна.
І толькі ўжо на заўтра рана
Якраз агледзела кабета
Ў дзіцяці дрэнныя прыметы:
Не раскатурхае малога;
Дзіцё ўжо бралася на ногі,
А то ляжыць сабе спакойна, —
Як не раўнуючы, пакойнік,
І нават мову адабрала.
Мар'яна плакала ці мала
Ды толькі позна:
Зельле-лекі
Дзіцё аставіла калекай,
Гадуй, як кажуць,
Праўся з сілай,
Калі дзіцё на сьвет пусьціла.

## Ня плач, а жыцьцё перайнач!

Узьдзяберыў дзядзька боты,
Боты шмальцаваны.
— Трэба дохтара, — сухоты
У мае Мар'яны.
Ехаў дзядзька наш ад рана
Між зялёным гаем.
А у хаце ўжо Мар'яна
Стогне і канае.
Ехаў дзядзька, бы пад гору,
Ой, зблудзіў з дарогі.
А Мар'яна ў гэту пору
Выпрастала ногі.
Нешчасьлівая часіна. —
Ой, каб ты зьвялося!
Едзе дзядзька па даліне,
Едзе ды галосіць.
Дзядзька? ведаеш, ня плач!
Годзе сумаваці.
Лепш жыцьцё ты перайнач
У мужычай хаце.

Гэта, брат, з нечыстаты
Водзяцца мікробы.
Між сялянскай цемнаты
Плодзяцца хваробы.
Ведай, дзядзка, і будуй
Чыстату у хаце.
І на Бога не сярдуй,
Бо Мар'яна маці
Ўжо ня вернецца на сьвет,
Вечна не паўстане.
Цемру, цемру, брат, разьвей!
К сонцу на спатканьне!

## Сенажаць

*ды не травi-ж ты яе!*

Ой пайду я лугам, шыр'ю сенажаці,
На спатканьне стэпу шоўкавай травы.
Ой люблю уранку траву-руту жаць я
Пад журчаньне рэчкі, гоман баравы.

І чаму, прасторы вольнай сенажаці,
З самага маленства вас я пакахаў?
Ой люблю на змроку траву-руту жаці,
А ў сэрцы ўецца жыцьця павіха.

І чаму ў даліне з востраю касою,
Я люблю імкнуцца ў сонечны разгон?
Ой пайду я лугам, вольнаю ступою,
На спатканьне сьветлай будучыне дзён.

* * *

Там за рэчкай, за крутою,
За пакатаю гарою,
Не паўстанцы ў цёмным лесе, —
Гэта хлопцы на начлезе.
Ходзяць коні ў шэрым змроку,
Путы бразгаюць далёка,
А за рэчкаю пад гаем
Аганёк чуць-чуць міргае.
Перад рэчкай на паляне
Дзядзька ў ціхім задуменьні...
— Што задумаўся, Сымоне,
Ці вячэраў ты сягоньня?
Ты, брат, з нейкаю фатыгай,
Мо ад жонкі дастаў хвігу?
Раптам выпаліў Трахім: —
Ты падумай! хі-хі-хі!..
Не начлег, а Украіна!

Будзе сытаю скаціна.
Як ушчэміш заўтра ў плуг,
Дык пацягне, сват, за двух.
— Хай з вас выцягнуць вантробы!
— Дык ты, сват, якой хваробы!
Што, ты гэта... ап'янеў! —
Тут Трахім пачырванеў.
— Я з табою, як той кажа...
Адным словам, радня наша,
Не сварыліся ніколі.
А мы тут... у чыстым полі...
— Ну даволі! —
Перабіў яго Сымон.
— Ну ці-ж гэта, брат, закон?
Ты падумай, дождж праходзіць,
На траву яно ня шкодзіць, —
Траве самы-самы рост.
— А ты гэтае... пад хвост
Ды, як кажуць, махні драла...
Яно, сват, як ні папала
А нам трэба (ашчаджацца),
Каб бяз сена не астацца.
— Кінь плявузгаць, усім хваціць
Гэтай дрыгвы сенажаці. —
Адпаліў ізноў Трахім.
— Нам то хваціць, а другім.
— Што другія? Чорт іх дубіў!
— Ого-го-го! Дык ты, брат, любіш,
Каб усё толькі табе,
А каму, дык так-сабе...
— Твой кіндзюк бярэ за многа,
Табе значыць усё чыста,
А Яўхіму што? — Нічога?
Гэта-ж нашая галеча,
Кепска, кепска, чалавеча...
А яшчэ жандар даўнейшы!
Ты-то, праўда, багацейшы.
— Але што-на-што распуста, —
Аднаму занадта клуста,
А другому так-сабе:
Мне ня гожа, — на табе!
— На наш век усім, сват, хопіць!
Што ты скажаш асталопу, —
Хто у боб, а хто ў гарох.
Ты-ж падумай, нас ні двох,
Нас-жа цэлая капэльля.
— Што табе, бяды, таквеле.

У цябе брат паўвалока,
Сягануць можна далёка.
А ў мяне, ну што такога,
Бабе сесьці — больш нічога.
Дзе там чорта разгарнуцца,
Раз касою замахнуцца...
– Добра кажаш, сват Сымоне,
Але сам чаго сягоньня
Ты прыехаў ў сенажаць.
— Каб ты нечага не дождаў!
Ты-ж мяне вось сам пазваў.
Ці-ж я думаў ў сенажаць?
— Кінь сварыцца, не зважай!
Лепш хадзем ужо па коні.
Бачыш, раніцаю звоніць
Вунь за горкаю ўдалі. —
І дзядзькі на змрок пашлі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А як ехалі дадому,
То Трахім, як мне вядома,
Ён з Сымонам пагадзіўся
Ў шкоду коняй не вадзіць.

* * *

Дурань дурня ўгаварылі,
Як траву ўжо сталачылі —
Ой, да моцна капытамі!
Эх ты, наша цемната!
Як ня лаяць вас дзядзькі,
Хоць вы мне і сваякі...
Але што, я йду за праўду,
Я даю вам вось параду,
Каб бяз сена не застацца,
А то прыдзецца цягацца
Па чужых людзях з вяроўкай
Ды ўздымаць трэба каровы.
Я-ж кажу, прыжджэш вясну
Будзеш рад тады й...

Мгр. Я. Шутовіч.

# Праўныя парады.

## Спадкаемства.

Ёсьць два спосабы пакліканьня да спадку: *распараджэньне астатняй волі* і *сваяцтва.* У першым выпадку гаворым аб спадкаемстве з тэстамэнту, у другім — аб спадкаемстве з самага права (уставу).

**Што такое тэстамэнт?** Гэта распараджэньне астатняй волі, у якім устанаўляецца аднаго ці некалькі спадкаемцаў. Распараджэньнем-жа астатняй волі ёсьць аднастароньняя праўная чыннасьць, пры помачы якой асоба распараджаецца сваей маемасьцю на выпадак сьмерці.

**Хто можа рабіць тэстамэнт?** Той, хто мае агульную здольнасьць да дзеяньняў праўных. Ня можа зрабіць тэстамэнту асоба, што ня мае поўнай здольнасьці да праўных дзеяньняў, напр. умыслова-хворая, няпоўналетняя (ня маючая 21 г.), і т. д.

**Чым распараджацца ў тэстамэнце?** Тэстамэнтам можна распарадзіцца як набытай маемасьцю так і маемасьцю, што пераходзіць з роду ў род (дзядоўшчына). Пры распараджэньні набытай маемасьцю ёсьць *поўная свабода;* да выняткаў належаць арэнды, якія можна запісываць толькі на карысьць жонкі і дзяцей тых асоб, которым арэнды дадзены, або на карысьць аднаго із спадкаемцаў у простай лініі сваяцтва.

Да 23 красавіка 1934 г. ня было свабоды пры распараджэньні радовай маемасьцю: ня можна было ею, з некаторымі выняткамі, распарадзіцца; ад гэтага часу, г. зн. *ад 23.IV.1934.,* на землях, гдзе абавязуе ч. 1 тому X Зводу Праў, *скасаваны ўсякія аграніЧэньні пры распараджэньні радовай маемасьцю.*

**Формы тэстамэнтаў.** Пры тэстамэнтах асабліва важнае значэньне мае іх форма. Дзеля гэтага трэба точна датасавацца да фармальных вымаганьняў права пры тэстамэнтах, іначай тэстамэнты будуць няважныя. Дзеля чаго закон ставіць такія вымаганьні? — Дзеля таго, што тады, калі тэстамэнт хочацца ўжыць, няма звычайна тэй асобы, якая яго зрабіла, і дзеля гэтага могуць паўстаць розныя надужыцьці.

*Якія-ж формы тэстамэнтаў?* Згодна з абавязуючым правам, існуюць у нас такія формы тэстамэнтаў: 1. А. *Агульныя* і Б. *асобныя.* 2. а) *Нотарыяльныя* і б) *прыватныя ці дамовыя.*

Форма пісьменная аднак заўсёды вымагаецца правам; тэстамэнт вусны ёсьць няважны. Тэстамэнт, дзеля свайго

характару, як акту чыста фармальнага, ня можа быць сцьверджаны сьведкамі, нават тады, калі загінуў з прычыны пажару, разводзьдзя і г. д., аднак яго зьмест і існаваньне можна даказаць сьведкамі і іншымі дапушчальнымі довадамі.

**А. Формы агульныя.** *1. Формы нотар'яльныя:* тэстамэнт піша нотарус у прысутнасьці самога тэстатара (асоба, якая хоча зрабіць тэстамэнт) і 3-х сьведкаў, каторыя могуць пацьвердзіць так-жа і тожсамасьць асобы тэстатара. Тэстамэнт уцягваецца ў нотарыяльныя акты, а тэстатар атрымлівае адносны выпіс з нотарыяльных актаў. Важнейшая нотарыяльная форма тэстамэнту ад прыватнай дзеля таго, што сапраўднасьць (аутэнтычнасьць) нотарыяльнага тэстамэнту можа быць паддадзена пад сумніў спосабам злажэньня позву аб сфальшаваньне.

*2. Прыватная форма — тэстамэнт прыватны:* пішацца ў месцы побыту тэстатара. Закон вымагае для важнасьці прыватнага тэстамэнту: 1. пісьменнай формы. (Напісаць можна на паперы ўсякага фармату і вялічыні, і нават на паперы да пісьмаў, абы толькі гэткая папера, зложаная з дзьвёх поўных палавінаў была цэлым аркушам; тэстамэнты напісаныя на кавалках аркуша або сьвістках паперы няважныя.) 2. Падпісаньня яго (тэстамэнту) т э с т а т а р а м у п р ы с у т н а с ь ц і 3-х, а калі, выняткова, і ў прысутнасьці 2-х с ь в е д к а ў і сьцьверджаньня тэстатарам у прысутнасьці тых-жа сьведкаў, што адносны дакумэнт (тэстамэнт) абыймае ягоную астатнюю волю. Сьведкі дзеля гэтага могуць і ня знаць таго, аб чым пішацца ў тэстамэнце (зьмест), мусяць толькі; а) сьцьвердзіць, што асоба, каторая падала тэстамэнт, ёсьць той самай, каторая тэстамэнт зрабіла і падпісала, іначай кажучы сьведкі мусяць тут сьцьвердзіць сапраўднасьць (аутэнтычнасьць) волі тэстатара; б) мусяць гэныя-ж сьведкі сьцьвердзіць, што калі тэстатар падаваў ім тэстамэнт усе яго (тэстатара) асабіста бачылі і што ён быў прытомным і ўпоўні розуму.

Калі тэстамэнт ня быў уласнаручна тэстатарам напісаны, то на ім павінна падпісацца яшчэ асоба, каторая пісала тэстамэнт; калі-б хто із сьведкаў ня ўмеў пісаць, то на тэстамэнце трэба яшчэ падпісацца асобе, каторая няпісьменнага (сьведку) упісала. Сьведкамі ня могуць быць асобы такія: 1) на карысьць каторых тэстамэнт зроблены, 2) да 4-й ступені сваякі і да 3-й ступені спасваячаныя (спавінаватыя) гэных асоб, калі тэстамэнт зроблены ў цэласьці або хоць часткай не на карысьць беспасрэдных спадкаемцаў, 3) выканаўцы тэстамэнту і апякуны, вызначаныя тэстамэнтам, 4) тыя, што паводле закону самі ня могуць быць тэстатарамі і 5) усе, што паводле агульных законаў ня могуць быць сьведкамі ў цывільных справах.

**Б. Формы асобныя.** Ня будзем тут апісываць усіх асобных формаў тэстамэнтаў і вымаганьняў для іх важнасьці. Успомнім толькі, што яны маюць застасаваньне ў некаторых вынятковых выпадках, як падчас мабілізацыі, вайны, палону (ваенныя тэстамэнты), падчас язды на караблі, падчас быцьця ў шпіталі, заграніцай. Да асобнай формы — належыць тэстамэнт, зроблены ў воласьці. Гэткім тэстамэнтам будзе асабістае асьведчаньне (тэстатарам) свайго распараджэньня апошняй волі ў воласьці („Zarząd gminny"), у прысутнасьці сяброў валаснай управы і найменш двух сьведкаў. Гэткае асьведчаньне распараджэньня апошняй волі запісываецца ў кнігі ўмоваў і іншых праўных валасных актаў.

**Як атклікаць тэстамэнт?** Атклікаць (адмяніць) тэстамэнт можна наступнымі спосабамі: 1) зрабіць асобны ў нотаруса акт, якім атклікаецца раней зроблены тэстамэнт; 2) зрабіць новы тэстамэнт, якім выразна атклікаецца папярэдні; 3) зьнішчыць (нпр. падраць, перачыркнуць) тэстамэнт; 4) зрабіць новы тэстамэнт, супярэчны з папярэднім.

**Зацьверджаньне тэстамэнту.** Кожны тэстамэнт, — каб меў сілу, — мусіць быць зацьверджаны судом. Зацьвярджае тэстамэнт Акружны Суд вокругу, гдзе знаходзіцца запісаная ў тэстамэнце маемасьць, або гдзе жыў тэстатар. Час, у якім трэба прадставіць суду тэстамэнт да зацьверджаньня, закон устанаўляе такі: для прабываючых у Польшчы — 1 год, для прабываючых заграніцай — 2 гады, лічачы ад дня сьмерці тэстатара. Калі міне гэты час, Суд ня прыймае тэстамэнту да зацьверджаньня і тэстамэнт уважаецца за няважны. На пастановы Акружн. Суду, якімі адмаўляе зацьвердзіць тэстамэнт, можна падаваць у Суд Апэляцыйны скаргі ў працягу месяца часу.

Адмова Акр. ці Апэл. Суду не выключае права старацца аб зацьверджаньне тэстамэнту спосабам позву.

## Спадкаемства з самога права (уставу).

Калі памёршы не пакінуў тэстамэнту, або калі тэстамэнт прызнаны за няважны, а таксама — калі пакліканыя тэстамэнтам асобы спадку ня прыймуць або калі памруць ці ня будуць мець патрэбнай здольнасьці да спадкаемства — тады спадак пераходзіць на спадкабернікаў з самога права. Тут маем дзела із спадкаемствам з самога права (уставу).

**Хто мае права да спадку пры гэткім спадкаемстве?** Маюць гэткае права ўсе з роду, зьвязаныя супольным сваяцтвам, аж пакуль ня выгасьніць род, так у лініі мужчынскай як і жаночай. Род — гэта ўсе сваякі мужчынскай

і жаночай плоці, зроджаныя з праўнага жанімства, што выводзяцца ад аднаго супольнага продка, хаця-б ня мелі ягонай фаміліі ці прозьвішча. — Блізкасьць сваяцтва ўстанаўляецца паводле лініі і ступені. Сваяцтва адной асобы з другой праз нарадзіны ёсьць ступенем. Адносіны наступаючых па сабе бяз перарыву ступеняў ёсьць лініяй. Лініі ёсьць: зступныя, уступныя і бочныя.

**У якім парадку спадак з самога права пераходзе на сваякоў памёршага?** Парадак устанаўляецца агулам паводле лініі сваяцтва. Найбліжэйшае права да спадку мае лінія зступная (патомства), калі няма сваякоў з гэтай лініі—спадак пераходзіць да лініі бочнай, ці, у некаторых выпадках, да бацькоў і сваякоў уступных (дзеда, бабкі) памёршага. У кожнай лініі бліжэйшы ступень выключае далейшы, нпр. сын, калі жыве бацька, ня можа быць спадкабернікам па дзеду.

Разгледзім тут паасобныя выпадкі пры гэткім парадку (паводле лініі) пераходу спадку на спадкабернікаў.

1. Сваякамі, што маюць найбліжэйшае права да спадку, ёсьць сваякі з простай зступной лініі сваяцтва (патомства, а значыць дзеці памёршага, або калі хто з дзяцей ня жыве і пакінуў па сабе дзяцей (унукаў пакінуўшага спадак), то ягоныя дзеці ўступаюць у правы свайго бацькі (маткі) да спадку.

Дзеці, бяз розьніцы плоці, па выдзяленьні ўставовай часткі спадку на карысьць бацькі (маткі), што астаўся пры жыцьці, дзеляць паміж сабой спадак па роўных частках, паводле ліку асоб; унукі і праўнукі, бяз розьніцы плоці, дзеляцца пораўну тою часткаю спадку, што выпала іхнім бацьком. Гэткія правілы падзелу спадку сярод патомства пакінуўшага спадак абавязуюць на нашых землях ад 1.IX.1922 г. Раней, да 1922 году, былі некаторыя агранічэньні на некарысьць жанчын.

2. Калі няма сваякоў, пакліканых да спадку з першай, простай лініі сваяцтва (патомства памёршага), то спадак пераходзіць на сваякоў лініі бочнай. Пры гэтым: 1) калі спадак складаецца з маемасьці набытай (не радовай), то ён пераходзе на сваякоў з лініі бочнай па бацьку, 2) калі спадак складаецца з маемасьці радовай (дзядоўшчына, бацькаўшчына), то ён варочаецца да тае радні, з якой выйшаў: атрыманы ў спадку бацькам — пераходзе на сваякоў бацькі, калі атрыманы маткай — то пераходзе на ейных сваякоў.

Пры спадкаемстве братоў і сёстраў ува ўсіх бочных лініях і ўва ўсіх ступенях кожнай лініі абавязываюць такія самыя правілы падзелу спадку, якія мы падалі пры спадкаемстве патомства па памёршым (гл. пункт 1,—спадак дзеліцца на роўныя часткі). Найбліжэйшае права да спадку ў

лініях бочных маюць: браты і сёстры (памёршага), незамужнія і замужнія, і іх патомства; калі іх няма — родныя дзядзькі і цёткі (памёршага) і іх патомства і т. д. Тут трэба зазначыць, што прыродныя (ня родныя) браты і сёстры маюць пяршынства перад іншымі сваякамі з лініі бочнай пры спадкаемстве спадку, які складаецца з набытай маемасьці, — але толькі тады, калі няма родных братоў і сёстраў памёршага і іх патомства.

3. Бацькі атрымліваюць вылучнае права на дажывотняе карыстаньне з маемасьці спадковай па дзецях, калі няма сваякоў пакліканых да спадку з лініі першай (патомства дзяцей); толькі тады, калі спадковая маемасьць была дадзена сыну ці дочцы бацькамі спосабам актаў праўных, нпр. як даравізна, пасаг, выдзеленая частка, і калі па памёршым і такім спосабам набыўшым маемасьць сыну (дочцы) няма сваякоў пакліканых да спадку з лініі першай, то такая спадковая маемасьць варочаецца да бацькоў, як асобная маса. — Гэткія правілы тасуюцца аналёгічна да дзядоў, прадзедаў.

**Спадкаемства жонкі (мужа). Якую часьць спадку атрымлівае жонка па мужу і муж па жонцы?** Жонка, ці мае дзяцей ці ня мае, атрымлівае па мужу гэтак званую ўставовую часьць: — з маемасьці спадковай нярухомай $^1/_7$ (сёмую), з рухомай $^1/_4$ (чацьвёртую) частку. Гэтая пастанова не касуе аднак права мужа (жонкі) свабодна распараджацца маемасьцю набытай і радовай (дзядоўшчынай).

Калі муж памёр і пакінуў тэстамэнт, то жонка па ім атрымлівае на сваю карысьць уставовую часьць толькі з маемасьці, не абнятай тэстамэнтам.

**Калі жонка (муж) мае дажывотняе карыстаньне, то ці мае яна права да ўставовай часьці?** Жонка, якой памёршы муж запісаў на дажывотняе карыстаньне маемасьць радовую, пазбаўляецца ўставовай часьці да гэтай маемасьці, хіба што, ня ўступаючы ў права на дажывотняе карыстаньне, зрачэцца яго і можа жадаць замест яго ўставовай часьці.

**Прывілей жонкі (мужа).** Жонка мае права да ўставовай часьці нават такой маемасьці, якую атрымаў-бы ў спадчыне ейны памёршы муж, калі-б жыў у часе, у якім адчыніўся спадак па ягоным бацьку.—Калі памёршы муж не пакінуў маемасьці нярухомай а толькі рухомую, то жонка мае права дамагацца, не чакаючы сьмерці сьвёкра, выдзяленьня сабе адпаведнай часьці з маемасьці нярухомай сьвёкра, — іменна з той часьці спадковай (гэтай маемасьці), якая-б будучы сапраўды ўласнасьцяй сьвёкра ў мамэнце сьмерці ейнага мужа (сына сьвёкра) выпала-б яму (мужу) па сьмерці свайго бацькі на падставе спадкаемства з самога права.

Выдзяленьне належачай жонцы часьці з маемасьці рухомай сьвёкра адбываецца па сьмерці сьвёкра і аблічваецца паводле тэй маемасьці (рухомай), якая знайдзецца сапраўды ў часе сьмерці сьвёкра. — Права жонкі да выдзяленьня ўспомненай вышэй часьці з маемасьці сьвёкра гасьне, калі яна (жонка) памрэ без патомства, не зажадаўшы выдзяленьня сабе гэтай часьці; тады спадак па сьмерці сьвёкра пераходзіць на спадкабернікаў на падставе агульных правілаў спадкаемства; аднак-жа ані другое жанімства, ані 10-цілетняя даўнасьць не касуе гэтага права жонкі (або ейных спадкабернікаў).

Гэтыя правілы маюць аналёгічнае застасаваньне, калі памірае жонка, а муж жыве. І калі гутарка аб праве да выдзяленьня часьці з нярухомай маемасьці цесьця, то яно (права) прыслугоўвае тады мужу.

Падалі мы тут важнейшыя і маючыя вялікае практычнае застасаваньне агульныя асновы спадкаемства на падставе тэстамэнту і з самога права.

## Аб карах адміністрацыйных і сродках праўных абароны ад іх.

Дзяржаўныя адміністрацыйныя ўлады на падставе адносных законаў маюць права накладаць, у парадку карна-адміністрацыйным, кары за розныя т. зв. „wykroczenia". Найвышэйшая дапушчальная адміністрацыйная кара — 3.000 зл. штрафу і 3-х месячны арышт. Ёсьць праўда вынняткі, калі кара можа быць вышэйшай.

**Якія адміністрацыйныя ўлады рассьледываюць і караюць праступствы („wykroczenia")?** Да рассьледваньня і караньня пакліканы паветавыя ўлады адміністрацыі агульнай — старасты, — калі асобныя законы не даюць гэткага права іншым дзяржаўным уладам.

**Рассьледываньне**. Пры рассьледываньні праступства, улады карыстаюцца падуладнымі сабе органамі, звычайна паліцыяй. Паліцыя і іншыя органы маюць права ў некаторых выпадках затрымаць асобу, адносна якой ёсьць падазрэньне, што дапусьцілася праступства. Звальняецца затрыманы, калі адпадзе прычына затрыманьня, у праціўным выпадку затрыманы павінен быць дастаўлены адпаведнай адміністрацыйнай уладзе. Гэтая ўлада абавязана ў працягу 24 гадзін праслухаць затрыманага. Затрыманьне на далейшы час (найбольш на 14 дзён) можа адбыцца на падставе рашэньня Гарадзкога судзьдзі („Sądu grodzkiego"), якое дастаецца ў працягу 48 гадзін ад затрыманьня.

**Спосабы накладаньня кар у карна-адміністрацыйным парадку**. Да такіх спосабаў належаць: 1) пакараньне кар-

нымі наказамі надзвычайнымі („Nakazy doraźne"), 2) пакараньне наказамі карнымі звычайныні, 3) пакараньне звычайным карна-адміністрацыйным парадкам, 4) пакараньне ў прысьпешаным парадку. У практыцы, зразумелая рэч, маюць застасаваньне спосабы, паданыя ў пунктах 1, 2 і 3-цім. Разгледзім іх (гэтыя тры спосабы) папарадку.

*1. Пакараньне надзвычайнымі наказамі карнымі.* Паліцыя і іншыя органы ці самаўрадавыя ўлады, падуладныя старасьце, могуць з даручэньня старасты ад яго імя накладаць кары штрафу да 10 зл. за некаторыя праступствы. Варункам налажэньня кары ёсьць згода вінаватага заплаціць штраф. Супроць надзв. карн. наказу няма сродкаў праўных (ня можна яго абжалаваць).

*2) Пакараньне звычайнымі карнымі наказамі.* Адм. улады могуць налажыць кары звычайнымі карнымі наказамі (мандат) на падставе пратаколаў і паведамленьня паліцыі і іншых органаў улады Найвышэйшая кара накладаная гэткім спосабам ня можа перавысіць 50 зл. ці 3-х дзён арышту.

Супроць наказу карнага звычайнага можна залажыць супраціўленьне („sprzeciw") і прадставіць яго (супраціўленьне) ў працягу 7 дзён уладзе, якая наказ карны выдала, — у праціўным выпадку наказ ўвойдзе ў сілу, станецца правамоцным. Калі-б улада супраціўленьне адкінула, дзеля таго што зложана ня ў часе, можна жадаць ад яе сьціраваньня справы ў Акружны Суд, які пастанаўляе, ці ўлада адносна супраціўленьня правільна пастуліла ці не, або пастанаўляе вярнуць тэрмін. Злажэньне супраціленьня мае тое значэньне, што наказ карны ўважаецца за няіснуючы, а ўлада можа тады пакараць у парадку карна-адміністрацыйным звычайным.

*3) Пакараньне ў парадку адміністрацыйна-карным звычайным.* Перад выданьнем пастановы, накладаючай кару, адбываецца расправа, з удзелам аскаржанага. Аскаржаны, з дазволу ўлады, можа замест станавіцца самому на расправу, прыслаць пісьменныя выясьненьні. Аскаржаны можа прадставіць на сваю абарону сьведкаў і іншыя доказы, або падаць іх уладзе. Пастанова, накладаючая кару, абвяшчаецца аскаржанаму, — даручаецца тады, калі гэтага зажадае аскаржаны, ці калі аскаржаны ёсьць няпоўналетнім ці неўласнавольным, або калі пастанова выдана завочна.

**Даўнасьць адміністрацыйных праступстваў.** Калі міне 6 месяцаў ад дакананьня адміністр. праступства і ў гэтым часе ня зроблена ўладамі захадаў, каб пакараць праступніка, гэты апошні можа засланіцца даўнасьцю. — Калі ад распачацьця захадаў, каб пакараць праступніка, міне 12 месяцаў, улада ня мае права выдаваць пастановы аб кары

на праступніка. — Пастановы аб кары ня можна выканаць, калі ад часу, у якім пастанова ўвайшла ў сілу, міне 24 месяцы.

**Сьціраваньне справы ў суд.** Пакараны ў парадку адміністрацыйным можа ў працягу 7 дзён ад абвешчаньня яму пастановы аб кары зьвярнуцца да адміністрацыйнай улады, што яго пакарала, з просьбай сьціраваньня справы ў Акружны Суд. Калі ўлада адмовіцца выканаць просьбу, — пакараны ў працягу 3-х дзён ад атрыманьня паведамленьня аб адмове можа сьціраваць просьбу ў Акр. Суд, — каб разгледзіў, ці адмова адм. улады была правільная. — Адміністрацыйная ўлада можа сваю пастанову аб пакараньні адкінуць. — Ад прыгавару Акружнога Суду няма апэляцыі, можна толькі залажыць касацыю ў Найвышэйшы Суд.

# VI Інфармацыйны аддзел. VI

## Меры і вагі.

### Меры.

**Меры даўжыні.** 1 кілёмэтр (км) раўняецца 1000 мэтрам, 1 мэтр (м)—100 сантымэтрам (см) або 1000 мілімэтрам (мм).

**Меры паверхні** (плошчы). 1 гэктар (ha) — 100 арам або 10.000 квадратных мэтраў. 1 ар (а) — 100 кв. мэтр.

**Меры абыйма** (цечаў і сыпкасьцяў). 1 гэкталітр (hl)— 100 літрам, 1 літр (l) — 1000 куб. сантымэтр.

### Вагі.

1 тонна (t)—1000 кілёграмам або 10 цэнтнарам, 1 цэнтнар або квінталь (q) — 100 кілёграмам, 1 кілёграм (kg) або кілё — 1000 грамам або 100 дэкаграмам, 1 дэкаграм (dk) або дэка — 10 грамам, 1 грам (g) 1000 міліграмам (mg), 1 карат (для дарагіх каменьняў) — 205 міліграмам.

### Іншыя меры.

На нашых землях яшчэ ўжываюцца прадваенныя меры.

**Меры даўжыні.** 1 міля — 7 вёрстам, 1 вярста — 500 сажням, 1 сажань — 3 аршынам, 1 аршын — 16 вяршком або 28 цалям, 1 сажань (польскі) — 3 локцям, 1 локаць — 22 цалям.

**Меры плошчы.** 1 валока — 20 дзесяцінам або 30 маргом, 1 дзесяціна — 2400 квадр. сажням, 1 морг — 1230 квадр. сажням.

**Меры абыйма** (для цечы й сыпкасьцяў). 1 асьміна — 4 чверцям — 32 гарнцам, 1 чверць — 8 гарнцам, 1 гарнец — 4 квартам, 1 кварта — 4 шклянкам, 1 вядро — 40 бутэлькам або 100 чаркам.

**Меры вагі.** 1 пуд — 40 фунтам, 1 фунт — 32 лотам або 96 залатнікам.

### Параўнаньне мэтрычных і іншых мер.

1 вярста—1,066 кілёмэтр., 1 кілёмэтр — 0,94 вярсты— 468 сажняў.

1 сажань — 2,133 мэтры, 1 мэтр — 0,47 сажні.

1 аршын — 0,711 мэтры, 1 мэтр — 1,4 аршыны.

1 цаля — 2,54 сантымэтры, 1 сантымэтр—0,39 цалі.

1 дзесяціна —1,092 гэктары, 1 гэктар—0,916 дзесяціны.

1 морг — 0,6 гэктара, 1 гэктар — 1,786 морга.
1 кв. сажань—4,552 кв. мэтр., 1 кв. мэтр—0,219 кв. сажн.
1 кв. аршын—0,505 кв. мэтр, 1 кв. мэтр—1,977 кв. арш.
1 пуд—16,38 кілёгр., 1 кілёгр—0,061 пуда.
1 фунт—0,409 кілёграма, 1 кілёгр.—2,44 фунта.
1 лот—12,79 грама, 1 грам—0,08 лота.
1 асьміна—1,049 гэкталітра, 1 гэкталітр 0,95 асьміны.
1 чверць—26,23 літра, 1 літр—0,038 чверці.
1 гарнец—3,279 літра, 1 літр — 0,298 гарнца.
1 кварта — 0,75 літра, 1 літр—1,33 кварты.
1 вядро—12,29 літра, 1 літр—0,081 вядра.
1 бутэлька—0,61 літра, 1 літр — 1,62 бутэлькі.

## Штамплёвая аплата.

*(З уставы ад 7 чэрвеня 1935 г.).*

1. **Заява** (podanie) агульнага характару ў дзярж. установы — 5 зал., аб зьмяншэньні падатку, даніны і інш.: а) пры суме да 50 зал. — не падлягае аплаце, b) пры суме ад 50 да 100 зал. — 50 гр.; с) пры суме болей за 100 зал. — 2 зал.

2. **Далучнікі** да заявы за кожны па 50 гр.

3. **Пасьведчаньні** выдаваныя судом, натарусам— 5 зал.

4. **Даверанасьць** у гарадзкі суд, суд працы, прамысловы або купецкі суд—1 зал.; у іншыя ўстановы і публічныя ўрады — 3 зал.; у справах карных: судовых, адміністрацыйных, скарбовых — вольныя ад аплаты.

5. **Умовы** прадажы, арэнды, замены рухомасьці — ад сумы вартасьці — паўпрацэнта.

6. **Рахункі** да 20 зал. не аплачваюцца штэмплям; вышэй 20 зал. ад кожных поўных і няпоўных 50 зал. па 10 гр.

7. **Расьпіскі** на атрыманьне грошай, цэнных папераў да 50 зал. вольныя ад аплаты; вышэй гэтай вартасьці — па 25 гр.

8. **Вэксалі** на суму да 50 зал., ад 50 да 1000 за кожныя поўныя й няпоўныя 100 зал—па 30 гр.

9. Мэтрычныя выпісі — 3 зал.

**Увага.** Заявы культурна-асьветных гурткоў у справе дазволу наладжаньне спэктаклю,, калі даход ад яго прызначаецца на культурна-прасьветныя ці дабрадзейныя мэты, — вольныя ад штамплёвае аплаты.

# Беларускае арганізаванае жыцьцё.

## Беларускія арганізацыі і інстытуцыі.

### У Польшчы.

1. Беларускі Нацыянальны Камітэт, існуе ад 1919 г. Вільня, Завальная 1—2.
2. Беларускае Народнае Аб'яднаньне (Б.Н.А.), палітычная арганізацыя, якая ўтварылася на месца Б.Х.Д. Вільня, Завальная 1—1.
3. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Вільня, Завальная 1—1.
4. Таварыства Беларускай Школы (Т.Б.Ш.). Вільня, Каралеўская 3—8.
5. Віленская Беларуская Гімназія, філія польскай дзяржаўнай гімназіі. Вільня, Астрабрамская 9.
6. Беларускі музэй. Вільня, Астрабрамская 9.
7. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны. Вільня, Завальная 1—2.
8. Беларускі Студэнцкі Саюз. Вільня, Завальная 1—2.
9. Беларускі Банк. Вільня, Каралеўская 3.
10. Беларускі Коопэратыў „Пчала". Вільня, Каралеўская 3.
11. Беларуская Кнігарня „Пагоня". Вільня, Завальная 1—2.
12. Кнігарня Ст. Станкевіча. Вільня, Астрабрамская 2.
13. Беларускі Касьцельны Камітэт. Вільня, Завальная 1—1.
14. Беларускае Каталіцкае Выдавецтва. Вільня, Домініканская 4—4.
15. Рэд. „Беларускай Крыніцы". Вільня, Завальная 1—1.
16. Рэд. „Шляху Моладзі". Вільня, Завальная 1—2.
17. Рэд. „Калосьсе", квартальнік літ.-навуковы. Вільня, Завальная 1—2.
18. Рэд. „Самапомач", коопэратыўна-гаспадарскі месячнік. Вільня, Полацкая 9—4.
19. Рэд. „Беларуская Борць", пчалярскі часапіс. Вільня, Каралеўская 3.
20. Рэд. „Chryścijanskaj Dumki", месячнік для беларусаў каталікоў. Вільня, Завальная 1—2.
21. Рэд. „Praleski", месячнік для беларускіх дзяцей. Вільня, Завальная 1—2.
22. Беларускае Культурнае Таварыства. Варшава, Грахоўская 149b—11.

## У Літве.

1. Беларускае культурна - асьветнае таварыства ў Літве. Пры т-ве існуюць: 1) Жаночы гурток, 2) Хор, 3) Беларускі тэатр. — Коўна.
2. Беларускі Цэнтр (паліт. арганізацыя). — Коўна.
3. Нацыянальная сувязь Беларусаў Літвы. — Коўна.
4. Беларускі народны унівэрсытэт. — Коўна.

## У Латвіі.

Пасьля разгрому беларускага арганізаванага жыцьця— асталася ў Латвіі адзіная беларуская арганізацыя, гэта: Таварыства Беларускіх Вучыцялёў у Латвіі. — Рыга.

## У Францыі.

„Хаўрус"—арганізацыя Беларусаў у Францыі.—Парыж.

## У Чэхаславаччыне.

1. Беларуская Рада ў Празе. Modrany u Prahy č. 657.
2. Аб'еднаньне Беларускіх Студэнцкіх Арганізацый—АБСА. Velka Chuchle u Prahy, č. 105.
3. Беларускае Культурнае Т-ва ім. Фр. Скарыны. Praha—Dejvice, ul. Hanackeho pl. č. 548.
4. Рэд. „Iskry Skaryny", там-жа.
5. Беларускі Загранічны Архіў. Praha IV, Toskansky palac.

## Важнейшыя навуковыя і культурныя ўстановы БССР.

1. Акадэмія Навук (раней: Інстытут Беларускае Культуры і Беларуская Акадэмія Навук). — Менск.
2. Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. — Менск.
3. Сельска-Гаспадарчая Акадэмія. — Горы-Горкі.
4. Дзяржаўны Музэй. — Менск.
5. Беларуская Дзяржаўная Бібліятэка. — Менск.
6. Беларускі Дзяржаўны Тэатр I, II, III. — Менск.



# Зьмест.

*бач.*

## I. 1937.



## II. Беларусы . . . 36—43

## III. Сельская гаспадарка.



## IV. Лекарская помач.



## V. Парады.



## VI. Інфармацыйны аддзел.